Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 19

Юрка Віцьбіч

# ЛШОНО ГАБОО БІЙРУШАЛАЙМ

*Даваенная проза*

Мінск
«Кнігазбор»
2011

УДК 821.161.3-3
ББК 64(4Беи)
В41

*Серыя заснавана ў 2004 годзе*

Укладанне і прадмова *Лявона Юрэвіча*
Каментары *Ціхана Чарнякевіча*
На вокладцы здымак *Ганны Кісліцынай*

**Віцьбіч, Ю.**

В41 Лшоно Габоо Бійрушалайм : даваенная проза / Юрка Віцьбіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 232 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 19).

ISBN 978-985-7007-17-2.

Кніга Юркі Віцьбіча «Лшоно Габоо Бійрушалайм» — 19-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны», заснаванай МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» ў 2004 годзе, — складаецца з найбольш адметных твораў даваеннай прозы, якія ўпершыню ў Беларусі публікуюцца асобным выданнем. Гэтыя тэксты сведчаць пра своеасаблівы стыль пісьменніка, што выразна вылучаўся з канонаў тагачаснага савецкага пісьменства. Акампануюць ім успаміны і лісты, прысвечаныя літаратурнаму працэсу ў Беларусі ў 1920–1930-х гг. Выданне з’яўляецца новай спробай вяртання творчай спадчыны Юркі Віцьбіча ў Беларусь і разлічана як на літаратуразнаўцаў і гісторыкаў, гэтак і на ўсіх аматараў беларускай літаратуры.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-17-2**

# ДАВАЕННЫ ВІЦЬБІЧ


*Юрка Віцьбіч. 1976*

Ненармальным, але цалкам вытлумачальным чынам імя пісьменніка, які апублікаваў свае першыя творы напрыканцы 20-х гг. XX ст., асацыюецца сёння ў чытача найперш з працамі, напісанымі на эміграцыі: нарысам «Плыве з-пад Святое гары Нёман» (дзякуючы менскаму рэпрынтнаму выданню ў 1995 г.) і гістарычна-мемуарным даследаваннем «Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі» (пасля амерыканскага выдання 1996 г. было два «смаленскія-віленскія», першае з якіх — амаль цалкам сканфіскаванае). Даходзіць да трагікамічнага: даследнікі прозы Юркі Віцьбіча спасылаюцца не на першакрыніцы, а на цытаты з твораў, узятыя з артыкулаў іншых папулярызатараў творчасці пісьменніка.

Сам жа Віцьбіч даэміграцыйны перыяд лічыў вельмі важным для сябе. У лісце да Станіслава Станкевіча (ад 12.09.1969) ён пісаў: *«Мне здаецца, што як пісьменніка мяне цалкам вызначаюць: «Узвышша» і страшэнныя 30-я гады, пра якія і там [у Беларусі] пазбягаюць згадваць — крытыкі спрабуюць іх усяк*

*амінуць. У цеплыні да першага ды ў супраціве апошнім і палягае, галоўным чынам, як на мой погляд, мая творчасць. Найбольш характэрная ў гэтай галіне мая аповесць з сімвалічным назовам «Лшоно Габоо Бійрушалайм». Увогуле, хочацца на гэтым дый на іншым (супраціў «рэформе» беларускага правапісу) больш падрабязна затрымацца ў наступных лістох да Вас»*.

На эміграцыі апынуліся два «ўзвышэнцы» — Антон Адамовіч і Юрка Віцьбіч. Але калі першы з іх паспеў пазнаёміцца з сябрамі згуртавання, узяць удзел у зборках, дык другі стаўся ім фактычна перад самым ліквідаваннем «Узвышша». Гэтая акалічнасць давала падставу іншым эміграцыйным пісьменнікам троху паблажліва ставіцца да Віцьбічавых лістоў, якія часта заканчваліся «ўзвышэнскім прывітаннем», а яму самому — зноў і зноў вяртацца да даваеннага літаратурнага жыцця: сцвярджаць сваё права лічыцца «ўзвышэнцам».

Віцьбіч, у адрозненне ад пераважнай большасці «ўзвышэнцаў», не быў рэпрэсаваны. Але высокай увагі пазбегнуць, вядома ж, не здолеў. Амаль родны часопіс «Полымя рэвалюцыі», выданне якога распачалося менавіта творам Віцьбіча, у 1934 г. на сваіх старонках папярэджваў: *«З большай пільнасцю прыглядаемся мы да сваіх спадарожнікаў, самі ўскрываем відавочныя элементы прыстройкі Віцьбіча, які пад савецкай тэматыкай хавае сваю класавую прыхільнасць да разбітага намі ворага»* (№ 1); *«Віцьбіч выражае напор на літаратурную мову варожых нам пластоў класавага грамадства; сам выражае нацдэмаўскія ўплывы на інтэлігенцыю»* (№ 4); *«Ад Віцьбіча зараз залежыць: ці стаць савецкім пісьменнікам, ці павярнуцца ў лагер класавага ворага — з усімі вынікамі, якія з гэтага вынікаюць»* (№ 6–7).

У лютым таго ж 1934-га ў газеце «Літаратура і мастацтва» Андрэй Александровіч, Міхась Клімковіч і Міхась Лынькоў апублікавалі артыкул «Нашы абвінавачванні Юрку Віцьбічу»: *«Ні адзін з улюбёных герояў Юркі Віцьбіча не пройдзе паўз прыдарожных крыжоў і статуяў, каб не перахрысціцца»*.

Калі Віцьбіч у лісце да Станіслава Станкевіча згадваў пра «рэформу» правапісу, перш-наперш ён меў на ўвазе кнігу «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы» (Менск, 1934 г.), дзе ішло далёка не толькі пра граматыку ды арфаэпію:

Андрэй Александровіч: *«Сродкамі архаічнай штучнай мовы, ад якой нясе пахам сярэднявечных палацаў, працягваецца*

*выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасць у творчасці Віцьбіча. У яго аповесці «Лшоно Габоо Бійрушалайм» («Полымя рэвалюцыі», 1933 г.), зробленай на яўрэйскім «матэрыяле», асабліва выразна працягваюцца ад пачатку да канца, густа, слова за словам, нацыяналістычныя, сіянісцкія, клерыкальна-містычныя ідэі. Слёзы па яўрэйскай «патрыярхальнай самабытнасці» і беспрасветнасці разліты па ўсіх старонках аповесці, але Віцьбіч абнадзейвае, дае перспектыву (лозунгам клерыкалаў і раз'юшаных яўрэйскіх нацыяналістаў), якая выказана ў самым загалоўку «Лшоно Габоо Бійрушалайм», што на дрэўнеяўрэйскай мове азначае «ў будучым годзе ў Ерусалім»* (с. 19).

Ізі Харык: *«Некаторыя яўрэйскія пісьменнікі, жадаючы, напрыклад, адлюстраваць беларускую вёску, беларускага рабочага, Савецкую Беларусь, смакуюць па-нашаніўску беларускую «самабытнасць» і ў канчатковым выніку пераклікаюцца з беларускім нацдэмакратызмам. Узяць хоць бы апавяданне беларускага празаіка Ю. Віцьбіча «Лшона Габоа Бійрушалайм». Добра, што Ю. Віцьбіч узяўся за адлюстраванне яўрэйскага мястэчка. Але Віцьбіч насыціў сваё апавяданне шавіністычнымі і клерыкальнымі яўрэйскімі словамі, і ў канчатковым выніку атрымліваецца ідэалізацыя сінагогі і рэлігіі. Налёт бандытаў на мястэчка і зроблены імі пагром успрымаецца аўтарам не з класавых пазіцый, а як спецыфічнае «яўрэйскае» нацыянальнае гора. Нават самы загаловак «Лшоно Габоо Бійрушалайм» («На будучы год у Ерусалім») з'яўляецца сіянісцкім мракабесным лозунгам»* (с. 40).

Аркадзь Куляшоў: «*Трэба зрабіць рашучы перагляд свайго літаратурнага стылю і мовы, трэба самаачысціцца ад усяго наноснага, нацыянал-дэмакратычнага. Пра гэта трэба падумаць у першую чаргу Ул. Хадыку і Ю. Віцьбічу — у стылі і мове іхніх твораў яскрава дае сябе адчуваць буржуазны нацыяналізм. Архаічныя, кулацкія словы ў Хадыкі, стыль сярэдневяковых замчышчаў і папоўшчыны ў Ю. Віцьбіча»* (с. 62).

Пятрусь Броўка: «*...зваць наперад, а не цягнуць назад, так, як гэта робяць некаторыя — Хадыка, Віцьбіч, выцягваючы закарузлыя з-пад плесені вякоў архаізмы і затуманьваючы гэтым самым сэнс сваёй работы ад працоўных, звужаючы круг сваіх чытачоў, а часам і проста прыкрываючы гэтымі архаізмамі яўна шкодныя тэндэнцыі ў літаратуры»* (с. 75).

Міхась Клімковіч: *«Яшчэ большыя налёты нацыяналізму ў Віцьбіча. У свой час як рэдактар яго кнігі «Лшона Габоа Бійрушалайм» я ўскрыў сіянісцкую сутнасць гэтай назвы, ускрыў замілаванне бандытам Нілёнкам, жаль згінуўшай шляхты і ксяндзоўства — паказаў класавыя карэнні, адкуль ішлі гэтыя з'явы ў яго творчасці. Віцьбіч многа зняў з свае кнігі, выправіў шмат архаізмаў і правінцыялізмаў. Аднак мы дапусцілі гнілы лібералізм у тым, што друкавалі (з некаторымі толькі зменамі) яго рэчы ў «Полымі Рэвалюцыі», не ўскрылі пераклічку Віцьбіча з яўрэйскімі нацыяналістамі. Мусіць, правы тут таварышы, што ў кніжцы Віцьбіча мы маем своеасаблівую спробу беларускага нацдэмакратызму захаваць свой твар у форме яўрэйскага нацыяналізму, прапагандаваць свае мэты праз прапаганду нацыяналізму буржуазіі другой нацыі»* (с. 83).

Першы зборнік Віцьбіча, «Смерць Ірмы Лаймінг» (рэдактар М. Ляўкоў), выйшаў у 1932 г. У цытаванай вышэй кнізе ідзе размова пра другую кнігу, якая мусіла мець назоў «Лшона Габоа Бійрушалайм». Але спачатку рэдактар Міхась Клімковіч, а потым і Лукаш Бэндэ напісалі рэзка адмоўныя рэцэнзіі, і Літбел друкаваць кнігу забараніў.

Віцьбіч зрабіў працу над памылкамі — пра тое ён піша ў сваёй біяграфіі, змешчанай у гэтым зборніку, — і яго друкуюць зноў. У 1937 г. выходзіць новая кніга з красамоўным назовам — «Формула супраціўлення касцей». Праўда, наступную, «Як ездзіў у Конга пан Прун'е», што мелася выйсці ў 1939 г., аўтар забраў з выдавецтва сам, не пагадзіўшыся з патрабаваннямі рэдактара аб зменах.

У 1939–1941 гг. на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» друкуюцца ўрыўкі з гістарычнага рамана пра вайну 1812 г. — «Януш Світка і маркіз Пастарэ», «Рэкрут імператара Паўла» ды іншыя. Нават болей: на паседжанні праўлення ССП БССР 3–4 лютага 1941 г. творам Віцьбіча было адведзена асобнае месца. Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва выказаліся ў тым плане, што Віцьбіч належыць да тых пісьменнікаў, каго крытыка несправядліва абыходзіць, і пагадзіліся на тым, што ён павінен сабраць, падагульніць увесь матэрыял і ад асобных апавяданняў перайсці да стварэння вялікага эпічнага палатна. Таксама пастанавілі выдаць зборнік ягоных гістарычных апавяданняў.

Потым была вайна…

Гэты зборнік змяшчае найлепшае і найбольш характэрнае з даваеннай творчасці Віцьбіча — аповесці, да якіх сам аўтар, ужо на эміграцыі, зрабіў наступныя анатацыі:

*«Смерць Ірмы Лаймінг» — апавяданне, «Узвышша», № 2 за 1931 г. Самагубства дачкі абшарніка, якая неспадзявана для сябе трапляе з Масквы, дзе працуе тэлефаністкай, у свой родны маёнтак Рукшэніцы на Беларусі. Яна падпальвае палац маёнтку, дзе атаўбавалася камуна, а потым кідаецца пад цягнік. Крытыка закідала аўтару замілаванне Ірмай і апраўданне ейнага ўчынку. На вокладцы кніжкі «Смерць Ірмы Лаймінг» мастак падаў ахоплены полымем палац, а на пярэднім плане Ірму, што ідзе ад яго да смерці. Пазней Станіслаў Шушкевіч у сваім аблічальным творы «2 х 2…» («Голас Радзімы», № 939, перадаваўся таксама з радыёстанцыі «Беларусь») скарыстаў для загалоўку эпіграф да апавядання «Смерць Ірмы Лаймінг».*

*«Арцыбіскуп і смерд» — аповесць, «Узвышша», № 5 за 1931 г. Гістарычны твор, прысвечаны забойству 12 лістапада 1623 г. арх. Язафата Кунцэвіча ў Віцебску. Неўзабаве пасля свайго з’яўлення сустрэла адмоўную крытыку, а таму не трапіла ў зборнік.*

*«Лшона Габоа Бійрушалайм» — аповесць, «Полымя рэвалюцыі», № 2–3 за 1933 г. У перакладзе з старажытнажыдоўскае мовы назоў азначае — «у наступным годзе ў Ерусалім». Гэтымі ўрачыстымі словамі пад гукі рытуальнага рогу — шыфора канчаецца ў сінагозе свята Ём Кіпур. У аповесці, паміж іншага, падаецца самы абыход свята і адвечныя мары местачковае галечы аб звароце жыдоўскага народу ў Ерусалім. Калісьці ў часе свайго выступу на агульным сходзе ў Доме пісьменніка крытык Лукаш Бэндэ, маючы на ўвазе гэты твор, надаў Юрку Віцьбічу годнасць «трубадура каралевы Боны».*

У кнізе выдрукаваны таксама ўспаміны і лісты Юркі Віцьбіча, напісаныя ў ЗША, але тэма іх усё тая ж: даваеннае літаратурнае жыццё, «Узвышша» і любы Віцебск.

Напрыканцы гэтае прадмовы ўкладальнік складае шчырую падзяку за дапамогу Наталлі Гардзіенцы, Віктару Камінскаму ды Беларускай Інтэрнэт-бібліятэцы «Kamunikat.org».

*Лявон ЮРЭВІЧ*

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Пісьменнік Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч) нарадзіўся 2 чэрвеня (ст. ст.) 1905 г. у горадзе Вяліжы на Віцебшчыне ў сям'і святара. Вучыўся ў гімназіі і педагагічным тэхнікуме. Аднак у набыцці ведаў яму галоўным чынам дапамагала вялікая кніжніца ягоных бацькоў. Пасля сканчэння тэхнікуму[1] настаўнічаць яму не дазволілі з прычыны «сацыяльна чуждага паходжання».

З 1922 па 1932 год працуе[2] на маскоўскіх хімічных заводах, каб здабыць права (працоўны стаж) на вышэйшую асвету[3]. Атрымаць яе яму ўсё ж не пашанцавала. У часе аварыі на вайскова-хімічным заводзе ён атруціўся фасгенам і стаўся інвалідам працы. Пасля гэтага выехаў з Масквы на Беларусь.

Пісаць Віцьбіч пачаў яшчэ ў Маскве. Псеўданімам яму паслужыла рэчка Віцьба, ад якое дастаў свой назоў улюбёны ім Віцебск. Першае ягонае апавяданне «Як загінуў Ясь» з'явілася ў № 9–10 часопісу «Ўзвышша» за 1929 г. Далей творы пісьменніка часта друкуюцца ў часопісах «Узвышша», «Полымя», «Маладняк» і ў літаратурных дадатках да розных газет. Між іншым, ягонай аповесцю «Ціхая Руба» пачаўся ў 1932 г. першы нумар новага часопісу «Полымя рэвалюцыі».

Юрка Віцьбіч меў дзве кніжкі сваіх твораў — «Смерць Ірмы Лаймінг» (1932) і «Формула супраціўлення касцей» (1937). Падрыхтаваную ім да друку кніжку «Лшоно Габоо Бійрушалайм» забараніў Літбел[4]. А кніжку «Як ездзіў у Конга пан Прун'е»

---

[1] У чарнавіку: *«Хоць тэхнікум ён скончыў першым…»*

[2] У чарнавіку: *«спачатку на будаваннях, а потым…»*

[3] У чарнавіку: *«Гэтую цяжкую працу распачаў з «казаноса» — падавальшчыкам цэглы, а скончыў лабарантам».*

[4] У чарнавіку: *«у асобе слыннага Лукаша Бэндэ».*

ён сам забраў назад з Белдзяржвыдавецтва, не згадзіўшыся з рэцэнзіяй яе рэдактара.

Яшчэ жывучы ў Маскве, Ю. Віцьбіч увайшоў у склад роднага яму па сваіх імкненнях літаратурнага згуртавання «Ўзвышша»[5]. На той час і пазней прыпадае цкаванне яго з боку камуністых і асабліва за аповесць «Лшона Габоа Бійрушалайм», назоў якое ў перакладзе з старажыдоўскае мовы азначае — «Налетась сустрэнемся ў Ерусаліме». Найбольшага развою гэтае ганенне набывае ў часе (1934 г.) так званае рэформы беларускага правапісу, калі пісьменніку закідаецца засмечванне мовы архаізмамі і паветалізмамі, а літаратуры — варожымі савецкай рэчаіснасці героямі. Завяршальны адбітак усё гэтае знайшло ў вялікім артыкуле «Нашы абвінавачванні Ю. Віцьбічу» («Літаратура і Мастацтва») за подпісамі тагачасных камуністычных слупоў — А. Александровіча, М. Клімковіча і М. Лынькова.

Калі замест гвалтоўна зліквідаваных літаратурных Згуртаванняў, а ў першую чаргу «Ўзвышша», паўстаў абагулены калгас — Саюз Сав. Пісьменнікаў БССР, Юрку Віцьбіча не прынялі не толькі ў склад ягоных сябраў, але і кандыдатаў. Яго не арыштавалі, перад ім не зачынілі дзвярэй часопісаў. Нават больш — тагачасныя крытыкі заўважылі нейкія сляды так званае перабудовы ў гэткіх апавяданнях, як — «Курт Лебэн аналізуе азот», «Адоніс!», «Альдэбаран», «Аргон» і г. д., самыя назовы якіх сведчаць вылучна аб штучнасці. Аднак ніхто, як сам пісьменнік, вычуваў, што апынуўся на бездарожжы. І ўсё ж яму пашанцавала знайсці адтуліну ў тых неспрыяльных для творчасці варунках.

За тыя часы пісьменнікі[6] распачалі пісаць гісторыі фабрык і заводаў. Ю. Віцьбіч працуе над гісторыяй старых віцебскіх, гомельскіх і барысаўскіх прадпрыемстваў. Яму давялося пагутарыць з сотнямі работнікаў і работніцаў, якія да яго як да суродзіча і колішняга работніка ставіліся з вылучным даверам. Акрамя таго, калі пасля ягонага пераканальнага артыкулу ў «Звяздзе» ў БССР ствараюцца навуковыя абласныя экспедыцыі па ўліку і ахове помнікаў гісторыі і мастацтва, — ён ачоль-

[5] У чарнавіку сказ пачынаецца так: *«Ідучы па лініі найбольшага вонкавага супраціву, наўсуперак запрашэнню з боку беларускае секцыі МАПП'у і БелАПП'у…»*

[6] У чарнавіку: *«паводле ініцыятывы Максіма Горкага…»*

вае спярша Віцебскую, а потым Гомельскую і Беластоцкую экспедыцыі[7]. Гэта дае яму магчымасць беспасярэдне, а не толькі праз літаратуру і архівы пазнаёміцца з слаўным мінулым народу. Адначасна ён наведвае тыя месцы Беларусі, што маюць

[7] У архіве царквы Св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы захоўваюцца 52 сшыткі з матэрыяламі Віцьбічавых экспедыцый. На кожным стаіць пячатка «Jury Stukalich» і назовы, надрукаваныя на машынцы (часам з праўкамі рукою Віцьбіча. Сам тэкст у сшытках напісаны ад рукі): *«1. Полацак. Сабор Святое Сафіі. 1 фота. 2. Полацак. Спаска-Еўфрасіньеўская царква. 2 фота. 3. Полацак. Вал Валоўяга возера. 4. Полацак. Вал Ніжняга замка. 5. Полацак. Мікалаеўскі сабор. 3 фота. 6. Полацак. Паўночная вайна (Дом Пётры Першага). 1 фота. 7. Полацак. «Французская батарэя». 8. Віцебск. Ламіха, Альгердава гара. 1 фота. 9. Віцебск. Царква Дабравешчання. 6 фота. 10. Віцебск. Мейсца пакарання забойцаў Язафата Кунцэвіча. 11. Віцебск. Вуспенскі сабор. 3 фота. 11. Траецкая царква («Белая Тройца»). 3 фота. 14. Віцебск. Ратуша. 15. Віцебск. Губернатарскі палац. 1 фота. 16. Віцебск. Помнік 1812 г. 2 фота. 17. Віцебск. Петрапаўлаўская царква. 1 фота. 18. Віцебск. Касцёл Антона Падуанскага (бернардзінскі). 5 фота. 19. Віцебск. Заручэўская сінагога. 1 фота. 20. Віцебск. Магіла А. Сапунова. 1 фота. 21. Ворша. Пячоры. 22. Ворша. Касцёл Нараджэння Божае Маці (францішканскі). 2 фота. 23. Ворша. Францішканскі кляштар. 3 фота. 24. Ворша. Раждзесцвенска-Багародзіцкая царква. 1 фота. 25. Ворша. Акопы Пётры Першага. 2 фота. 26. Ворша. Кацярынінскі слуп. 1 фота. 27. Талачын. Кацярынінскі слуп за горадам. 1 фота. 28. Талачын. Кацярынінскі слуп у горадзе. 1 фота. 29. Ключнікава. Кацярынінскі слуп. 1 фота. 30. Чэрвіна. Кацярынінскі слуп. 31. Падкасцельцы. Барысаў камень. 2 фота. 32. Высокі Гарадзец. Барысаў камень. 1 фота. 33. Дзятлава. Рагвалодаў камень. 34. Чарэя. «Белая царква». 1 фота. 35. Гарадок. Мур замка. 2 фота. 36. Смаляны. Замак каралевы Боны. 2 фота. 37. Смаляны. Прэабражэнская царква (вуніяцкая). 1 фота. 38. Лукамля. Замчышча. 1 фота. 39. Абольцы. Вуспенскі касцёл («Касцёл Ягайлы»). 4 фота. 40. Бешанковічы. Дом Пётры Першага, Напалеона, Аляксандра Першага. 41. Бешанковічы. Вал маршала Сэн-Сіра. 2 фота. 42. Копысь. Паўночная вайна (Вал Пётры Першага). 2 фота. 43. Копысь. Прэабражэнская царква (летняя). 2 фота. 44. Слітцэ. Могільнік нязнаных жаўнераў. 45. Сіроціна. Раждзесцвенска-Багародзіцкая царква. 1 фота. 46. Якімань. Юр’еўская царква. 2 фота. 47. Мястэчка. Мікалаеўская царква. 48. Бачэйкава. Будынак абшарніка (ракако). 2 фота. 49. Дрыса. Помнік 1812 г. 1 фота. 50. Сівошын Перавоз. Помнік ген. Кульневу. 1 фота. 51. Стасева. Пагранічны губернскі слуп. 1 фота. 52. Здраўнева. Маёнтак І. Рэпіна. 2 фота».* Матэрыялы часткова выдрукаваныя ў: ARCHE. 2009. № 4. С. 82–134.

дачыненне да яе выдатных сыноў і да падзеяў на яе абшарах, як Крошын (Паўлюк Багрым), Лясная (бітва са шведамі ў 1708 г.), Цяпіна (Васіль Цяпінскі), Студзёнка (пераправа французаў праз Бярэзіну ў 1812 г.), рэчка Пяшчанка (бітва радзімічаў у 980 г.) і г. д. Усё гэтае — несмяротны народ і гістарычныя помнікі — дае яму вялікую маральную падтрымку як пісьменніку. І цікава, што ў 1939 г. Ю. Віцьбіча нарэшце прынялі ў склад ССПБ, хоць, дарэчы, ён аніякае заявы аб гэтым туды не падаваў, уважаючы сябе тады і дагэтуль за «ўзвышэнца».

У пачатку Другой сусветнай вайны Ю. Віцьбіч знаходзіцца ў сваім родным Вяліжы, дзе ў верасні 1941 г. ставіць помнік на паруганых брацкіх могілках блізу 1000 вяліжскіх паўстанцаў і партызанаў, расстраляных бальшавікамі пасля славутага Вяліжскага паўстання 1918 г., у якім сам удзельнічаў хлапчуком[8]. Пазней, пераехаўшы спярша ў Віцебск, а потым у Менск, супрацоўнічае ў розных антысавецкіх выданнях. А ў канцы вайны працуе як работнік у баўэраў Нямеччыны.

Пасля вайны Юрка Віцьбіч аднаўляе распачатую ім яшчэ ў часе вайны працу — «Антыбальшавіцкае змаганне на Беларусі», а ў выснаве з’яўляюцца ягоныя артыкулы і нарысы, прысвечаныя паўстанням — Слуцкаму, Вяліжскаму, Койданаўскаму, Гомельскаму, Барысаўскаму і г. д., як і паасобным героям-партызанам — Семенюку, Дзеркачу-Адамовічу, Нілёнку, Чырвонцу, Монічу ды іншым. Асабліва цікавіць яго вялікая роля ў гэтым змаганні генерала Булак-Балаховіча. У 1956 г. газета «Бацькаўшчына» выдае ягоную кніжку «Плыве з-пад Святое Гары Нёман» — яе прыхільна сустрэла нашая эміграцыя ды варожа, што зусім зразумела, бэсэсэраўскія калабаранты.

Юрка Віцьбіч не толькі пісьменнік, але[9] і журналіст. Карыстаючыся пераважна сваёй роднай беларускай мовай, ён часам друкуецца і на расейскай. У найбольш пашыранай на эміграцыі газеце «Новое русское слово» пад подпісам «Юрий Стукалич» часта друкуюцца ягоныя артыкулы, нарысы ды зацемкі, у якіх

---

8 У чарнавіку следам ідзе наступны сказ: *«Паводле ягонае ініцыятывы ў топцы тутэйшае электрастанцыі спальваецца каля 15 тыс. асобнікаў螺 празнае камуністычнае макулатуры, пачынаючы ад Маркса і канчаючы Калініным».*

9 У чарнавіку: *«і стары…»*

ён прапагуе беларускую вызвольную ідэю і заўжды стаіць на варце нашай нацыянальнай годнасці.

І напаследак варта зацеміць аб той нянавісці, якую выказваюць Юрку Віцьбічу ў сваіх выданнях і праз радыё бэсэсэраўскія папіхачы Масквы. Яны ўсяляк ганьбяць яго ў сваіх адмыслова яму прызначаных артыкулах, фельетонах, карыкатурах і г. д. Пісьменнік уважае гэтае за найлепшую ўзнагароду для сябе як для змагара за шчасце беларускага народу і за волю роднай Беларусі.

*Чэрвень 1965 г.*

# СМЕРЦЬ ІРМЫ ЛАЙМІНГ

2х2 = няма шляхоў<br>да мінулага

## I

Трамвай пачаў з скрыгатам затрымліваць хуткасць руху, і кандуктар, марудна падымаючыся з лавы і ўжо ўзнімаючы руку да сігнальнага поўразу, гукнуў абыякава назву прыпынку. Толькі тады Ірма, нібы абуджаная з таго паўсоннага запаміну, які ліпучай кволасцю спавіваў яе ўсю пуцявіну, ускочыла і выбегла з трамвая на ўзбярэжную. Яна хутка пайшла наўсцяж ходніку, потым падымалася ад узбярэжнай да гары па гранітных сходах шырокае лесвіцы, а падняўшыся, падышла да краю бастыёну, што прастаспаднай сцяной абрываўся ўніз і прытуліўся да парапету.

Ззаду за жывымі парканамі скверу, губляючы ў змроках выразнасць абрысу, высіўся мураваны, сівы веліч Храма Хрыста. У арках парталаў катэдры непарушна застыглі над чорнымі масянжовымі дзвярмі выленкі спакінутых краінай натхнёных прарокаў і дзеля Хрыста бажавольных. Запалымі вачыма змарлых глядзелі на вакольнае даўно згаслыя абапал шырокіх ганкаў ліхтары.

Уперадзе за афарбованай брудам вялікага гораду ў чорны колер ракой, здавалася, падпіралі куродымныя хмары чатыры вялізныя коміны трамвайнай электрастанцыі. Магутныя паравыя турбіны прымушалі дрыжаць сцены будыніны і клапатліва мітусіліся па шкле вакон цені імклівых пасаў.

Заўжды, калі Ірма адчувала сябе асабліва цяжка, тады прыходзіла на гэты глухі сквер, жадаючы сквапна хоць на момант застацца адной з сваімі перажываннямі. Увязне-

ная думкамі, яна не бачыла ні Храма Хрыста, ні трамвайнай электрастанцыі; і як шэр і безасабіст быў камень-граніт бастыёну, так безасабіста глядзелі вакол чорныя і глыбокія ў пустаце сваёй вочы дзяўчыны. Нарэшце яна выцягнула з кайстрачкі невялічкую фатаграфічную картку і пачала дбайна разглядваць яе пры скупым святле вулічнага ліхтара.

Бязмежна-шчырымі, звычайнымі дзецям вачыма, у якіх адсутнічала ўсялякая думка аб будучыні, глядзела з карткі гадоў шасці дзяўчынка, і над ёй цвёрдым мужчынскім почыркам было напісана:

*Ірма Лаймінг. Карльсбад. 10/VI–191… г.*

Тонкія пальцы дзяўчыны, трымаючы картку, выразна ўздрыгвалі, і востра гвалтавалі ўзбуджаныя хваляваннем думкі:

— Хіба ж гэта я? І колькі гадоў таму. Хіба дзевятнаццаць? — і дзяўчыне здавалася, што з таго часу прайшлі стагоддзі, і яна старэй, чым гэты горад, цытадэльныя муры і вежы якога спавілі сівізной імхі.

— Тое, што вакол мяне, гэта толькі сон, — шаптала яна, — толькі мары. Трэба невялічкага ўзмацнення волі, і я прачнуся ранейшай Ірмай. А ім гадаецца, што я спачуваю іх сацыялістычнаму будаўніцтву. Ха-ха-ха! — бязгучна смяялася Ірма, прытуляючыся грудзьмі да парапету. — Яны даюць веры шчырасці маёй працы ў культкамісіі і іншых іхніх камісіях. Што б казалі яны, убачыўшы яе мінулае, думкі аб якім нават і яна сама з вялікімі пакутамі адганяе ад сябе. Я толькі жыць хачу і прыстасоўваюся да новых умоў. А як цяжка адчуваецца сталая маска чалавека, які смяецца… Як цяжка… — І зноў звычайная абыякасць, золкая, як лістападная туманная муць, пустасцю агарнула дзяўчыну. Яна адчувала сябе безумоўна самотнай і занядбайнай сярод гэтых незразумелых і чужых ёй жыхароў вялікага гораду.

Далёка ў імгле гадзіннік старажытнае вежы гулка прабіў дзевяць гадзін, і з ударамі вялікага звону злілася гама курантаў. У вільготнай росі хмар, што недалёкія ў гэту пару году ад зямлі цяжка навалілiся на стрэхі будынін, глушылася мелодыка вежы.

З апошнім гукам курантаў Ірма пачала марудна спускацца па лесвіцы, і як праз сон адчуваліся шматлічныя гукі. І калі праходзіла паўз трамвайны павільён, які, нібы выспу, абцякалі

трамваі і аўтобусы, з натоўпу выскачыў хлапец-газетчык і, размахваючы тоўстай пачкай газет, загарлаў зычна насустрач Ірме:

**Вячэрнія апошнія навіны!**
**Ганебны прарыў на заводзе Ружон!**
**Трэцяя пазыка індустрыялізацыі на вёсцы!**
**Забастоўка докераў у Ангельшчыне!**

Спалоханая нечаканасцю, Ірма адхіснулася на міг убок і ізноў пайшла далей, губляючыся ў натоўпе. Яна прайшла мост і, параўняўшыся з капліцай, убачыла ў выступе сцяны дзеда ў старым афіцэрскім, блакітнага колеру шынялі. Ён стаяў без шапкі і, заўважыўшы Ірму, жалобна загугнявіў, працягваючы руку:

— Дапамажыце, паненачка, калі ласка, на кавалак хлеба.

Ірма прайшла паўз дзеда, але праз некалькі крокаў спынілася і нібы ўспомніла што-небудзь, бо цяжкія зморшчкі прабеглі па яе ілбе. Яна звярнулася назад да жабрака, пачала ўглядвацца ў яго шынель, на якім праз прашмульганую матэрыю на гузіках праглядвалі скрыдлы арлоў, углядвалася ў твар, быццам жадаючы адшукаць у ім знаёмыя рысы.

— Дапамажыце дзеля пана Езуса! — жалобна цягнуў дзед і раптам нечакана, што прымусіла Ірму ўздрыгануцца, зарагатаў шалёным смехам: — Га-га-га!.. Дапамажыце нашчадку Рурыкавічаў! Га-га!..

Дзяўчына выцягнула з гамэткі невялічкую срэбную манетку, працягнула дзеду і пайшла далей дахаты. А абыякасць да вакольнага была настолькі вялікай, што яна не заўважыла, як ледзь не прайшла паўз знаёмага пад’езду. Паднялася па лесвіцы на другі паверх і праз некалькі хвілін была ўжо ў сваёй каморцы.

Знаёмыя рэчы калісьці рабілі каморку ў вачах Ірмы прытульнай, цяпер адчуванне гэтай прытульнасці загінула, толькі ліст збоку стала парушаў звычайную звыкласць. Невядомыя Ірме пісалі на французскай мове:

*Шмат муства, панна!*

*Ваш брат Фрыдрых у сакавіку гэтага году забіт у бойцы з рыфамі. Легіянер французскай арміі, ён загінуў героем, як і трэба было чакаць ад улана Расійскай імперыі.*

*Хай уцяшэннем вам будзе, што загіб ён, змагар за культуру цывілізаванае нацыі, за ўсё лепшае, што толькі на працягу стагоддзяў стварыў людскі геній. Падзяляем ваша вялікае гора, што не дажыў ён да адбудоўлі нашай зняважанай канібаламі XX в. шматпакутнай айчызны. Раім вам быць гнуткай — у гэтым залог нашага поспеху. Езус-Марыя — наш мур у змаганні з воямі сатаны.*

*Да пабачэння ў вашых Рукшэніцах.*

*ВАШЫ СЯБРЫ.*

Нібы сціснуў раптам хтосьці горла, і, падышоўшы да акна, яна адчыніла фортку, прагна захопліваючы грудзьмі свежае паветра.

У камору разам з вулічнымі гукамі ўварвалася працавітая гутарка радыёрупара:

**Змаганне на левым узбярэжжы Днепрабуду.**
**Хабінскія апатыты!**

І раптам хрыплы смех зліўся з заклікам радыёрупара. Зірнуўшы на вуліцу, Ірма заўважыла знаёмага жабрака ў блакітным шынялі. Ён ішоў і, размахваючы рукамі, надсадзіста гарлаў:

— Га-га-га!.. Увага да дзедзіча Каралёў! Увага!

## II

Зацягнула пад вулічным брукам павучынне доўгіх дратоў, што скрыжоўваліся ў вялізным будынку тэлефоннай станцыі на адной з галоўных вуліц гораду. Перакідваліся з хуткасцю бліскавіц думкі людскія, прымушаючы запальвацца сігнальныя лямпачкі размеркавальнікаў і мульцыпляў, і жанчыны з рулькамі на вушах, што хутка звязвалі шнурамі ў розных кірунках гнязда, былі падобны да такіх, якія спрытна плятуць складаную тканіну.

У лад рытмам гораду пульсавала працай станцыя. Уначы, калі горад, стомлены за працоўны дзень, на некалькі гадзін у паўсне заміраў, выпадкова спаткаліся трамваі, і зычны і гучны быў кожны людскі крок, тады рэдка і самотна, як каганцы вокан занядбанае ў багнах вёскі, запальваліся лямпачкі размеркавальнікаў. А ў поўдзень, калі зацягвала ўскраіны хма-

рамі куродыму, а па вуліцах цэнтру імкнуўся шматзычны струмень і напружана дрыжэла кожная цэгла будынін, тады каралямі ліхтароў і семафораў вялікага чыгуначнага вузла запальваліся і загасалі сігнальныя лямпачкі.

У поўдзень каштоўная кожная хвіліна, і прагнасцю да працы запальвалі лямпачкі тэлефаністак. А Ірма астатнім часам працавала безуважна і халодна.

— Алё! Алё!

— 5-07-95!

— 2-27-47!

— Дзякуй! — казалі рулькі на вушах. Вочы хутка адшукалі патрэбны нумар, пальцы звыкла ўключалі штэпсель шнура, а ў думках дзяўчыны было:

— Паразбіваць бы ўшчэнт гэтыя лямпачкі, у дробныя кавалкі паразбіраць бы шнуры.

Яна нецярпліва чакала сканчэння працы, жадаючы выйсці з будынку на вуліцу, а калі выходзіла на вуліцу, адчувала і там заўжды цяпер неадлучны, як мыліца для кульгавага, сум. А сёння Ірма працавала не толькі дрэнна, блытаючы нумары, што атрымала спатканую з невыразнай злобай вымову ад старшае тэлефаністкі, але і сёння ж, калі выходзіла па сканчэнні зменнай працы са станцыі, заўважыла на дошцы, што напалову закрывала дзверы мясцкому, надпіс: *«Хто едзе на часовую культпрацу ў падшэфную камуну імя Туманава»* і далей убачыла прозвішча: — *Ірма Лаймінг.*

Гэта настолькі ўскалыхнула яе нечаканай радасцю, што яна, не губляючы ніводнае хвіліны, зайшла ў мясцком, атрымала падарожныя дакументы і выйшла на вуліцу з цвёрдым намерам выехаць як мага хутчэй з гэтага гораду, выехаць сёння ж.

— Там спакой. Там ціш, — гадалася дзяўчыне. Яна ведала, што камуна імя Туманава дзесьці на Беларусі, дзесьці на ўзбярэжжы знаёмай ёй у дзяцінстве гутарлівай у каменні Дзвіны. Сёння ж! Сёння ж! — шаптала яна ў пуцявіне дадому, ні на што вакольнае не звяртаючы ўвагі, але, калі праходзіла праз мост, спынілася, зацікаўленая працоўным гармідарам.

Будавалі побач са старым новы мост. Выбухаючы дагары белымі хмурынкамі пары, вухкалі канры, скавыталі высока над будаваннем надвесныя каўшы з пяском і жвірам, давіліся вялікімі камлыгамі камню вархальныя драбілкі, выхарквaючы з пылам друз. Угары гойдаліся на рыштаваннях, грукаючы

сякерамі, будаўнікі ў шэрай спецвопратцы. Унізе арматуршчыкі плялі жалезныя карункі бетону, арцель рабочых падымала дагары бярвенні і дзед кастрамской гутаркай зацягнуў:

**Я-ашчэ раз!**
**Я-ашчэ раз!**

А побач з другой арцелі крычаў зычна магутнага росту, з абпаленым сонцам і ветрам тварам татарын:

— Хуватле іпташлер! Хуватле іпташлер![10]

Нечаспадзявана для сябе адчула Ірма штосьці магутнае ў гэтай працы, але праз міг наплыло ў думках:

— Рабы, што часова разбілі кайданы. Кроўныя родзічы будаўнікоў егіпецкіх пірамід і рымскіх акведукаў. Яны таксама будуюць, але і іх няскончаную працу хутка пачнуць заносіць пяскі.

Увечары Ірма прыехала на вакзал і, трымаючы ў руцэ валізу, падышла да хуткага цягніка, які павінен быў перакінуць яе за адну ноч у вёску далёкае і радзімае Беларусі. І калі, каротка гукнуўшы, цягнік пайшоў, спакідаючы адзаду і натоўп на платформе, і шматгалоссе вялікага гораду, здалося Ірме, што едзе яна ад сучаснага да мінулага, што к лепшаму для яе жыццю рушыцца, цяжка вухкаючы, цягнік.

## III

Усю ноч навылет ішоў хуткі цягнік, спыняючыся толькі на вялікіх станцыях, усю ноч не снілася Ірме, агорнутай думкамі аб цікавасці наступнай змены ў жыцці. Забылася яна толькі ўраніцы, але неўзабаве і прачнулася.

Начная цемра ўжо загінула, і, зірнуўшы праз вакно, яна ўбачыла хмызнякі ўжо пажоўклага ляскоўніку, крыж ля звілістай вясковай з глыбокімі калюгамі дарогі, згорблены курганом, беластвольны гай.

— Любая Беларусь! Усё тут, як было калісьці. І курганы, крыжы, і капліцы, — шаптала Ірма. У калідоры чулася знаёмая гутарка, і яна выйшла з купэ. Перад акном стаяў, у вялікай

[10] З тат. мовы — «Мацней, браток».

стаўбуноўцы, са зробленай з халявы кайстрай праз плячо, сівы дзед. Ён прагна сачыў за ўцякаючымі ўзад палеткамі, лясамі, і ва ўсёй яго постаці было штосьці лагоднае і ўпэўненае.

— Дзе мы знаходзімся, дзядуня? — спытала Ірма, падыходзячы да дзеда.

— А вось неўзабаве будуць Рукшэніцы.

— Як вы казалі? Як? — перапытвала раптам збялелая Ірма і, нібы ўзімку бяроза пад нечаканымі ўдарамі сякеры лесавала, задрыжала ў дробнай трасавіцы.

— Рукшэніцы, — адказаў лагодна, нічога не заўважаючы, дзед. Адчуваючы з самай раніцы неабходнасць пагутарыць з жывым чалавекам, гаварлівы, як большасць згорбленых уражаннямі вялікага жыцця дзядоў, ён пачуў, што цяпер гэта магчымасць прыйшла, і сквапна ўхапіўся за яе. — Рукшэніцы. Праўда, цяпер яе перайменавалі ў Туманаўскую, але мы яшчэ, вакольныя, усе клічам Рукшэніцы. Тут недалёка, праўда, і маёнтак быў, таксама зваўся Рукшэніцы. Належаў ён да паноў Лаймінгаў. Здавён-даўна яны тут жылі, яшчэ з таго часу, як швед босы хадзіў. А каты былі. Э-эх каты! Без дай рады ў стадолах да душой загавення лупцавалі. А цяпер атпэндзілі іх. Самога пана забілі на фронце ў царскую вайну, паню таксама забілі ўжо ў час рэвалюцыі, але вось цікава, дзе дзеці іх. Сын у іх быў да дачка, аднагодка маёй унучкі.

Дзед выцягнуў з кішэні капшук з піпкай, з звычайнай лагоднасцю набіў яе тытунём, высек агонь, папыхваючы, загутарыў ізноў.

— А ў маёнтку цяпер камуна імя Туманава. Вось ва ўспамін гэтага Туманава і станцыю перайменавалі. А быў ён старшынёй губернскае чакі і ўсё ў 20-м годзе раз’язджаў па нашай ваколічнасці, вынішчаючы бандзістаў. А бага-ата іх было. Мабыць, чулі пра Булака-Балаховіча. Дык вось балахоўскія дзеткі тут і вандравалі. Шмат іх пералавіў Туманаў, але і яго яны забілі. А добры дзяцюк быў, хай яму пухам зямля. Вялікі дубовы крыж, два дні працаваў, я зрабіў яму на магілку, а прыцягнуў да магілы, кажуць дзецюкі з камуны: — Не трэба, дзед, твайго крыжа. Мо сапраўды не трэба? А забілі яго, воўчае мяса, так. Ехаў ён тады адзін — адважны чалавек быў, вялікага росту, магутны, толькі на мядзведзяў з рагуляй хадзіць — ад камуны да станцыі. Працаваў ён калісьці, гамонка ідзе па вёсках нашых, кляпальшчыкам на Пуцілаўскім заводзе, глушцамі іх там

клічуць, а таму і не дачуў, ехаўшы, як ціхутка абкружылі яго балахоўцы і амаль што без стрэлу схапілі. Досыць здзекаваліся, а потым ледзь толькі жывога пацягнулі да дзерава, моцна прывязалі, аблілі нафтай з станцыі і падпалілі. І дзерава гэта бачна ад чыгункі. Вось, вось бачыце? Вось! — і дзед паказваў каравым, нібы засохлая галіна, пальцам уперад.

З-за гаю вынырнуў чорны ствол самотнага сярод ільнішча дзерава і, нібы гаротная маці заламіла рукі, працягнуліся над ствалом дагары два вялікія аголеныя сукі. Вакол дзерава была афарбаваная ў зялёны колер агароджа, і на куце яе трыпатаўся чырвоны сцяжок.

— А гэта камунары збудавалі агароджу, — прадаўжаў дзед. — У савецкія святы сюды да магілы заўсёды ідуць людзі — і ад камуны, і ад станцыі. Дарагі для нас быў чалавек. А ўсё лаймінгаўскае насенне зрабіла. Яны, гамонка ідзе па вёсках нашых, мсціліся за паню. Усё балахоўцы. Пэўна ж вы чулі, таварышка, пра Булака-Балаховіча?

Ірма стаяла ля акна з белым, як ранішняя шэрань, тварам. Яна прытулілася гарачым ілбом да запацелае балонкі, але вільгаць не асвяжала, і ў думках варушылася: «Быдла старая! Пачакай! Пачакай! Яшчэ наб'юць на хамаў кайданы! Яшчэ заганяць у стадол».

Ёй хацелася біць гэтыя вокны, рынуцца з кархамі на дзеда, калашмаціць яго бараду, учапіцца зубамі ў горла і рваць яго, як ваўчыца, да крыві. Але яна хутка павярнулася і, нават не развітаўшыся з дзедам, пайшла ў купэ і праз некалькі хвілін ужо была на платформе станцыі. Прайшла паўз станцыённыя будынкі і выйшла на вялікія прысады, што на тры кіламетры цягнуліся да камуны, палац якой белай плямай свяціўся ў канцы. Ірма адмовілася ехаць з абшарпанымі грэблямі фурманамі і рашыла пайсці пехатою.

Вялікія стагоднія ліпы гайдаліся пад ветрам галінкамі, усцілалі жоўтымі вераснёвымі кілімамі зямлю і спявалі толькі ім, ліпам, вядомыя спевы. Праз невялічкі час Ірма звярнула ад прысады на сцежку, пратаптаную праз бульбоўнік, і неўзабаве дайшла да могліц.

Ля сажалкі, якую зацягнула сеткаватай раскай і ўжо адцвілым і патанулым плывунцом, стаяла на краю могліц самотная з вастраверхім дахам, з выбітымі вакенцамі, з высаджанымі дзвярмі капліца. Калі Ірма ўвайшла ў яе і зірнула да долу на

чыгунную пліту, яна ізноў пачула, як хтосьці магутна сціснуў ёй горла. На пліце было:



**За веру, царя и отечество**
**ПОЛКОВНИК КАРЛ БЕРНГАРДОВИЧ**
**фон-ЛАЙМИНГ**
**Командир Текинского конного полка**
**8 июля 1872 г. — 14 августа 1914 г.**
**Пал смертью храбрых в бою под**
**Равой-Русской.**

*«Нет больше той любви,*
*как если кто положит*
*душу свою за друзей своих».*
*Иоанн, 15:1.*

— Тату, тату! — амаль што крычала Ірма, хрысцячыся на падмурак, дзе калісьці стаяла вялікае ў вянку штучных белых руж ускрыжаванне, і раптам ёй успомніўся той вечар так свежа і яскрава, нібы быў ён учора.

Маці грала «Танец Смерці» Ліста, а над маёнткам панавала заціш, што нават выпадковы ў дзірване сярод снежна-белых сумётаў званцоў і ляўконій дрыжнік балотны, падымаючы дагары лускаватыя чубкі свае, застыў непарушна. Ірма сядзела побач з бонай насупраць клумбы, і калі заўважыла рахманы дрыжнік, ёй здалося, што і ён, як усё вакольнае, дбайна прыслухоўваецца да гукаў фартэпіяна, што вырываліся праз расчыненыя вокны залы ў кветнік і парк.

Музычная паэма агністага кампазітара пачыналася перуновымі вялізнымі крокамі. Ідзе, трымаючы ў руках касу, няўхільная, акрутная смерць, і вось яна прыліпнула, усміхаючыся бязносым тварам, да расчыненых вокнаў старога панскага дому. Загаласілі спалохана безліч званоў, але іх канаючы енк выціснулі велічныя акорды рэлігійнага рэквіему — Diesirae. А ў рэквіем ужо пачы-

наюць уплятацца свісты касы і паступова заглушаюць яго. У лад свістам пачынае танцаваць смерць, і танец пераходзіць нарэшце ў шалёныя скокі пад утураванне дзікага закацістага рогату.

Паэма яшчэ не скончылася, калі ад станцыі пачуўся грукат падковак, і курмелісты, вусаты пан Гмінда, галоўны кіраўнік маёнтку, спыніўшы рэзка прад пад'ездам, саскочыў і борзда пабег па лесвіцы ў палац, трымаючы ў руцэ дэпешу. І праз некалькі хвілін здалося Ірме, што хтосьці на самым версе лесвіцы штурхануў уніз крыштальную кітайскую урну, і зазвінелі па сходах, разбіваючыся ўшчэнт, яе асклепкі — смяялася і плакала разам маці. Вестку аб першай смерці прынёс невялікі белы аркуш паперы.

Ірма выйшла з капліцы, дбайна аглядваючыся вокам, нібы баючыся, штоб хто-небудзь не ўбачыў яе, і пайшла да камуны. Ужо пачала сцякаць з кляноў, залліваючы сцежкі, чырвань асенняя, ужо зацвілі самотныя хмызнякі плюшчу, ядраным і свежым было вакольнае прапахлае смолкай хваёвай паветра, чуліся далёкія, вясёлыя спевы ружатварых дзяўчын, але вочы Ірмы, ні на чым не спыняючыся, глядзелі ўперад бязмежна, і постаць яе згарбацілі самота і сум.

## IV

Сёння другі дзень, як жыве Ірма ў камуне імя Туманава. Заўтра прыедзе старшыня камуны, што знаходзіўся ў часовай камандзіроўцы і якому павінна была здаць свае дакументы, а ўчора на пытанне намесніка старшыні аб прозвішчы Ірма адказала:

— Клічце мяне проста — таварыш Ірма.

І намеснік прапанаваў ёй пакуль што пазнаёміцца з камунай і прывесці ў парадак кніжніцу, што спакінулі ў спадкаёмасць камунарам паны Лаймінг.

Ніхто не спазнаў Ірму, і хіба ж можна было спазнаць у дваццаціпяцігадовай дзяўчыне невялічкую, што была тады паненкай, Ірму Лаймінг? І Ірма хадзіла па знаёмых пакоях палацу, і калі зайшла ў партрэтную, убачыла, што і цяпер некранутымі вісяць партрэты на сценах.

Вось айцец у вайсковай форме палкоўніка з шматлічнымі медалямі на грудзёх. Вось кволая, бледнатварая маці з тонкімі сціснутымі вуснамі. Вось дзед з хітрай затоенай усмешкай на

твары. Ірма не заўважыла, як ззаду нячутнымі крокамі падышоў намеснік.

— Разглядваеце нашых паноў? А мы гэтыя партрэты пакінулі нарокам. Часам прыводзім сюды нашых дзяцей, якія ўжо не ведаюць, што гэта такое пан, і, паказваючы вось на гэтага апошняга пана, які пахован тут на могліцах у капліцы (калі не былі там — раю схадзіць), і кажам ім: «Ніколі не будзьце, дзятва, такой шваллю!» Ну, разглядвайце! Дзівуйцеся! У мяне з гэтымі сіласнымі ямамі бракуе часу. Ды яшчэ падрыхтоўка да свята. Заўтра Міжнародны юнацкі дзень, і сёння ўвечары дэманстрацыя да магілы Туманава.

І зноў Ірма засталася адной, чаго яна ў гэты міг сквапна чакала. Потым прайшла ў пакой, які калісьці быў залай, а цяпер у камуне сталоўкай, і зірнула праз акно на парк, што збягаў па ўзбярэжжы да самай ракі. І з вялізным болем на сэрцы заўважыла, што сямейныя дубы і ліпы ў пачатку парку ўсе павысечаныя і на іх месцы ўжо напалову вырасла нейкая будова.

У сям'і паноў Лаймінгаў быў адлетні звычай. Калі нараджаўся сын, саджалі дуб, калі дачка — ліпу. І самым вялікім дубам, што высіўся высока над усім гаем, быў дуб, пасаджаны ў той час, калі радзіўся прадзед Ірмы, пан Ян Лаймінг, гвардзейскі афіцэр. У маладыя гады прадзед жыў у Пецярбурзе, але потым яго за масонства (шукаў іншага бога — гутарылі прыгоннікі) саслалі з сталіцы ў свой маёнтак. Калі ў парку гойдаліся пад ветрам дрэвы, стары дуб стаяў нерухома і толькі ледзь-ледзь бачна хістаўся кучаравай макавінай. Тады айцец, падносячы на руках да акна невялічкую Ірму, казаў:

— Бачыш, дачушка, Стары вальтэр'янец танцуе гросфатэр[11], а гнуткая Ірма, бач, тарантэлу[12], — і ён паказваў на невялічкую ліпу, што і пад гліцай нават хісталася, і пасаджана яна была ў той час, калі ўпершыню пабачыла Ірма свет. А побач з самай маладой ліпай быў і самы малады дуб Фрыдрых — брата Ірмы.

У гэты момант на дзядзінцы забразджаў звон, заклікаючы камунараў на абед, і ў сталоўку за кабетай, што ішла, трымаючы вялікі кацёл з стравай, пачалі ўваходзіць адзін за адным камунары і рассаджвацца за сталамі.

---

[11] Гросфатэр — маларухавы з паклонамі танец пад цырымонлівыя гукі старасвецкае музыкі.

[12] Тарантэла — вельмі рухавы танец.

— Сядайце, сядайце, таварышка, — загутарыла ласкавай скорагаворкай да Ірмы кабета, — вось побач са мной. Я цябе прымушу есці як трэба. Ха-ха-ха! — засмяялася яна дабратліва. Ірма падышла да стала і, сеўшы, запытала ў кабеты:

— А што гэта будуюць на дзядзінцы?

— А гэта будзе стадола. Раней мы разам з жывёлай жылі на быдлячым дзядзінцы, цяпер жывем вось у палацы, але і стадолы бліжэй падцягваем, штоб лепшы быў догляд.

— Вы сямейная? — спытала Ірма. Адразу твар кабеты зрабіўся жорсткім, і Ірма зразумела, што неасцярожна закранула яшчэ не загойваную рану.

— Была калісьці! — крычала кабета. — Была! Чалавек мой працаваў на панскім млыне і аднойчы папаў у махавое кола. У труну нечага было пакласці. Тады пан даў мне ў андару за жыццё чалавека пуд жыта і два пуды бульбы. Больш не каштуе хлоп. А дачушка мая Марыська сканала да веку ад жывата. Аднагодка была панскай Ірме — яе звалі так, як вас. Прасіла тады ў пана малака, малачаркай я працавала ў маёнтку, для дачушкі. Прасіла дзеля яго дачкі, а ён адказаў: «Не чапай, поскудзь, маю дачку! Не чапай, быдля!» — і нічога не даў. І чаго я толькі з Марыськай ні рабіла: і васкавіцай з-пад вялікаднёвых свячэй паіла, і агонь крэсівам з-пад крэмню высякала, але так і памёрла Марыська, а Ірма, чуе маё сэрца, і цяпер жыва. Напэўна, хлусіць аб сваім паходжанні, і гора яе не ведае. Калі б я толькі ведала, дзе яна! Я б ёй рукамі вочы выцягнула. Я б ёй!..

Ірма нахіснулася да стала, і кабета, заўважыўшы раптам, як кагадзе, загутарыла ласкава.

— Што з табой, ластаўка? Што, зязюлька? Можа, у цябе?.. — і яна, схіліўшыся да вуха дзяўчыны, штосьці шэптам спытала, але Ірма адмовіла галавой.

— Еш тады, даражэнькая! Еш! Бач, якая ты бледная з аблічча, а ўсё што паветра дрэннае ў вас у гарадох, але тут ты хутка палепшаеш, — і кабета накладвала Ірме на талерку лепшыя кавалкі мяса.

За сталом было шумна. Лысы дзед і зусім малады і бязвусы дзяцюк насупроць Ірмы, нібы галагуцкія пеўні, спрачаліся наконт таго, што лепш у гаспадарцы: сіласная вежа альбо яма. Трошкі далей дзяўчыны размаўлялі наконт сённяшняе дэманстрацыі.

Ірме сквапна хацелася, нават нягледзячы на тое, што з гэтага атрымаецца, устаць і зычна на ўсю залу закрычаць:

— Гэ-эй, хлопы! Я тут пані — баранова Ірма Лаймінг! Гэць з палацу на быдлячы дзядзінец!

Па абедзе Ірма пайшла ў кніжніцу, убачыла знаёмыя, яшчэ прадзедаўскія вялікія шафы і раскрыла першую. Выцягнула выпадковую ў зялёнай ад часу скураной аправе кніжку і, разгарнуўшы, на загаловачнай старонцы прачытала:

«НОВЫЙ
ОПЫТНЫЙ ПРАКТИЧЕСКИЙ
УПРАВИТЕЛЬ
ДОМОВОДЕЦ И ЭКОНОМ»

Москва.
В типографіи Н. Степанова
При Императорском Театре
1839 г.

Жорсткія старонкі кнігі пажоўклі і зморшчыліся. Перагарнуўшы некалькі старонак, Ірма ўбачыла:

> «Повар во всяком доме есть первый почти человек по его должности; он может называться сберегателем своих господ здоровья. А потому немалое к себе имеет уважение, и по сему уважению должен быть чистоплотен и трезв, рачителен, платье и фартук на себе должен иметь всегда чистые, а также руки незамараные».

А вось фаліянты на нямецкай мове, — гісторыя Грэцыі, — якія прывёз яшчэ дзед пасля замежнага падарожжа.

І ўся гэта кніжніца з поўнымі каштоўных старажытных і сучасных кніг шафамі, галерэя з малюнкамі вялікіх замежных мастакоў, безліч калекцый і манускрыптаў, увесь гэты палац і парк, у якіх кожная цэгла і кожнае дрэва памятае аб славутай калісьці ў жыцці імперыі панскай сям'і, дасталіся хлопам, вашапрудам, ад якіх дзьме быдлай, а яна, апошняя з Лаймінгаў, у жылах якой цячэ чыстая і духмяная, нібы старое гішпанскае віно, кроў, павінна працаваць побач з халопамі, як дачка апошняга пастуха.

Ірма зірнула вакол і дбайна прыслухалася. Нібы вымер палац. Раптам у сумежным пакоі зайшлося ў бяспомачным пла-

чы дзіцянё. Зачуўшы плач, Ірма, дзіўна ўсміхаючыся, пачала выдзіраць старонкі фаліянту і чырканула запалкай. Невялічкі аганёк сквапна аблізнуў паперу і пачаў расці, перагортваючы дакладна ў апошні раз старонкі старых кніг.

Ірма хутка выбегла з кніжніцы палацу праз тэрасу ў парк. Ціха было, толькі дзесьці высока ўгары гергеталі гусі — пачалі ляцець яны ў вырай пад Птушыным Шляхам, штоб удзень не збочыць з пуцявіны. А Ірма бегла праз парк чыгункі, нават сама не ведаючы зачым. «Яна ўжо напэўна затыхаецца! Затыхаецца! Затыхаецца!» — радасна варушылася ў думках. Выбегшы на ўзвышаны заварот парку, дзяўчына здзіўлена спынілася.

З пагорку было бачна, як з усіх бакоў — і ад станцыі, і ад вакольных вёсак — выгінаючыся па петлях вясковых дарог, рушыліся занізкі смаляных паходняў. Нібы праменні разбегліся ў розных кірунках ад абгарэлага ствала на магіле Туманава. І калі Ірма не спынілася б і выбегла на дарогу, яна спаткалася б з дэманстрацыяй, што ішла з камуны і якую яна нацянькі апярэдзіла.

У некалькіх кроках ад яе ішлі хлапцы і дзяўчыны, ішлі дарослыя чалавекі і кабеты, ішлі сівыя дзяды і бабкі. А ўперадзе дэманстрацыі ішоў, трымаючы паходню, рослы магутны юнак і зычна спяваў:

*Што гэта за марная доля нямчакаў:*
*Без хлеба, без грошай працуй?!*

І нечакана чорны вэлюм з бязлічнымі кропкамі зорак, якім зацягнула неба шэрая гадзіна, разадралі сполахі. Зрабілася светла, як удзень, і сацьмелі языкі паходняў.

Амаль што ў двух кроках ад Ірмы замер атукана на момант рослы юнак з перасмыкнутым гіморамі тварам і, здавалася дзяўчыне, глядзеў проста на яе. У вачох яго, якія адлюстроўвалі сполахі, не было роспачы, толькі вялізную, бязмежную, як залітыя потам і слязьмі абшары зямныя, нянавісць, якую спараждае толькі адчуванне ўласнай ніколі не пераможнай моцы, убачыла ў іх Ірма.

— Недабі-ткі! Падпалілі камуну! — крыкнуў моцна юнак, кідаючы вобземлю непатрэбную цяпер паходню і рынуўся ўперадзе людское лавіны да камуны.

Калі ізноў стала ціха, Ірма пайшла марудна далей, хістаючыся, губляючы пад нагамі сцежку. Яе перасследавалі гэтыя страшныя вочы. Яна бачыла толькі іх, пакуль дайшла да халодна блісnуўшых рэек. Яна бачыла толькі іх, калі, апусціўшыся марудна, прытулілася шчакой да жалеза.

* * *

Ад далёкае станцыі пачуўся зычны ў вакольных абшарах рык. Ішоў хуткі цягнік. Ён спазніўся на некалькі хвілін, і цяпер машыністы развіваў самую вялізную хуткасць руху.

Узмахнуў скрыдлам зеленавокі семафор.

Стагналі пад коламі рэйкі.

Дрыжала прычыгуначная вільготная зямля.

Ішоў хуткі цягнік, і за апошнім вагонам узнімаліся асветленыя ліхтаром віхраслупы мёртвага лісця і нікчэмнага дробнага пылу.

# АРЦЫБІСКУП І СМЕРД

## I

*Advocatus diaboli*[13] — вырвалася глуха ў арцыбіскупа, і, шваргануўшы на стол сінявы аркуш паперы, ён хутка закрочыў па каморы з кута ў кут. Персідскі кілім, што страціў ад старасці яскравасць фарбаў, глушыў на падлозе крок; толькі мякка шамацела крысамі сутана і сухавата ляскалі чорныя каралі ружанца. Чорная, як груганова крыло, барада, складнасць постаці і лёгкасць у руху сведчылі аб маладосці, але старыў хваравіты бляск вачэй, што глыбока сядзелі пад скрыўленымі дугамі броваў. Часам арцыбіскуп, штосьці шэпчучы, спыняўся на момант і потым зноў амаль што бегаў па каморы, маючы выгляд чалавека, якога катуюць уласныя, вострыя як джала, думкі. Нарэшце ён няўпэўнена падышоў да стала і, нібы жадаючы адшукаць новае, раней заўважанае, пачаў з выпадкова спатканага радку перачытваць паперу:

> «… не хочам таму мы, штоб гэта вунія ўшчэнт згубіла нас. Вось адказ на ліст ваш. Жадаў бы я ў будучыні быць вольным ад супарства з вамі. Прашу толькі Найвышэйшага аб пасланні вам чакаемага вамі дабра і разам з тым аб пасланні вам духу ціхасці і любасці да блізкага. Астаюся з пашанай да вас. У Варшаве, 12 сакавіка 1622 г.
>
> Леў Сапега, вялікі канцлер
> Вялікага княства Літоўскага рукою ўласнаю».

*Promotor fiscalis*[14] — выкрыкнуў арцыбіскуп і, шваргануўшы паперу, зноў закрочыў па каморы. Раптам ён імпэтна рынуўся

---

[13] Д’яблаў адвакат.

[14] Скарбовы абвінавальнік.

ў кут да ўкрыжавання ў дыядэме штучных руж і жывых несмяртэльнікаў. Падаючы на калені і не зводзячы вачэй з укрыжаванага, пачаў маліцца ўслых:

> — Ты, Пан Бог, ведаеш шляхі цнотных і паганых. Ты бачыш воя твайго арцыбіскупа полацкага Язафата, што самотны сёння. Абгарні яго ласкамі сваімі, даруй яму, Усемагутны і Найслаўнейшы, меч архістратыга Міхала, каб вынішчыць з краіны Літоўскай паганых схізматыкаў[15]. Найсвентша паня, каралева каралеў, слодыч у пакутах, абгарні шчодрасцямі тваімі. Свенты апостал Пётра, папеж папежаў, ключнік дзвярэй каралеўства шчаснасці, дай змогі вою трону твайго.

Калі арцыбіскуп устаў на ногі, усё цела яго дрыжэла ў дробнай трасавіцы, па залітым потам твары прабягалі сутаргі. Ён выйшаў на сярэдзіну каморы і, здзіўлены, спыніўся, пільна ўглядаючыся ў сцяну.

Як вэлюм, лёгкая рось плыла па каморы, не датыкаючыся падлогі, і, спачатку невыразная, стала паступова з ціхай меладычнай гутаркай званоў вылучацца мяккімі абрысамі — пляц заходняга гораду, катэдра, сівы дзед на бабінцы. Арцыбіскуп зразумеў усё.

Далёкі Кёльн у Нямеччыне. Вялізарная катэдра, што ўцякае стромкімі вежамі з суладдзем званоў ад бруду вялікага гораду да глыбокае небасіні. На бабінцы катэдры стаіць падобны да вар’ята дзед Пётра Ам’енскі. Ён босы, з лысінай на ўсю галаву, у абшарпанай, аблезлай ад сонца сутане, доўгую сівую бараду кудлачыць валацужны вецер Рэйна. Бязмежным фанатызмам гарэць над высокім ілбом вочы, і, апранаючы слоўную парахню ў вагонь уласнага запалу, дзед запальвае і той рознакаляровы, стракаты натоўп, што перад ім на пляцы. Ён зычна крычыць:

— Святая краіна чакае вызвалення ад паганых сельджукаў і габрэяў. У імя Езуса да зброі, хрысціяне!

І шумны натоўп рынуўся насамперад да габрэйскіх кварталаў Кёльну.

Вось чалавек у чырвонай ад крыві вопратцы цягне да зрубу студні чорнавалосую дзяўчынку, заціснуўшы ёй далонню рот. Ён не заўважвае, як за яго спіною бяжыць, трымаючы ў руцэ пяшню, айцец дзяўчынкі, курмелісты габрэй.

---

[15] Дэзуніт, праваслаўны.

Арцыбіскуп імпэтна рынуўся, каб перасцерагчы чалавека ў чырвонай вопратцы, і раптам расталі ўзрушаныя мары. Ён бачыў толькі сцяну, на якой вісела аздобленая слановай косцю тарча з малюнкам Латаранскае Богамаці, а пад ёй зроблены з заморскага цяжкога і цвёрдага, як жалеза, дрэва, турэцкі пісталет. Але зноў наплыла рось, прымаючы з дробнашротным грукатам падковак абрысы форм.

Праз прабітыя мураломамі праломы ў цытадэльных сценах уварваліся ў Ерусалім па шпаркіх, як буй-вецер, конях рыцары тампліеры. Імпэтнай навалай гарцавалі яны, працягваючы ўперад вострыя мячы і засланяючыся тарчамі з шырокімі чырвонымі крыжамі, а ззаду развяваліся іх калісьці сняжыстабелыя, а цяпер пярэстыя ад пякучага пылу Палесціны і яскравых, як карбункулы, кропель крыві мантыі. Тампліеры залілі крывёю і сведку бязлічных пакут сельджукаў Чорную Скалу мячэці Амара, і абмытую слязамі сотняў габрэйскіх пакаленняў Сцяну Плачу, і прагавіта выцалаваную разнамоўнымі абшарпанымі пілігрымамі Труну Езуса. Вось з ганку мячэці збег тампліер, трымаючы святое, з арабскімі літарамі, накрыццё, і накінуў яго на каня. Раз'юшаны святакрадствам натоўп сельджукаў рынуўся на рыцара. Ён абараняецца мечам, але змога пакідае самотнага ў імя Езуса, рыцар просіць ратунку.

Арцыбіскуп кінуўся вокамгненна да пісталета і спыніўся, абмацваючы рукамі пустату паветра. Некалькі хвілін ён стаяў нерухома, нібы чакаючы чагосьці, але рось згінула, і мары больш не варочаліся. Хістаючыся ад нечаканай слабасці, ён некалькі разоў прайшоў з кута ў кут, потым падышоў да авальнага люстэрка ў дзверцах шафы і ўбачыў, як дзіўна змяніўся кагадзе здаровы колер яго твару. Тады адчыніў, недабачліва гледзячы, дзверцы шафы.

На паліцах ляжалі, разам з тоўстымі кнігамі ў скураной аправе і вязкамі загорнутых у рулі папер, розныя каштоўныя рэчы. Тут былі і срэбныя келіхі з аўгсбургскімі дэсанёвымі нарэзамі, і абсыпаныя фіялкавымі аметыстамі і малочнымі перламі саскія кухалі, і пазлацаныя, гданьскага вырабу збаны. Арцыбіскуп наліў у кухаль да паловы гішпанскага з маскоўскай сулеі, даліў з невялічкага слоіка некалькі кропель чорнай вадкасці і, перамяшаўшы лыжкай, выпіў. Затым, з ціхім звонам адчыніўшы патаемную скрынку, узяў вязку папер і, сеўшы ля стала, пачаў разгортваць вязку. На першай паперы быў размашысты надпіс:

Попіс сялян, што належаць да вялебнага пана арцыбіскупа Полацкага. Сяло Дзевіч-Камень.

1. Хвядос Юрчук. Дым[16] адзін, 32 гады, схізматык, з дыму чыншу 5 злотых, з падарошчызны 6 злотых, прыгону 5 дзён у тыдзень.
2. Янка Змітрачонак. Дыму няма, 21 год, схізматык, па асабістым загадзе пана арцыбіскупа за ўпартасць біты бізунамі і пераведзены з вёскі Кладзічы, што каля Полацку, у Дзевіч-Камень.

Далей арцыбіскуп, адклаўшы ўбок паперы, чытаць не стаў. Усе гэтыя сотні людзей зліваліся ў яго свядомасці ў шэры, бясслоўны гурт. Гэты гурт не тыя натоўпы, што запаленыя яго, тады яшчэ не арцыбіскупа, а манаха Язафата Кунцэвіча, казаннем, з бабінца касцёлу святога Яна, ішлі за ім па вуліцах Вільні ад Літоўскай Палавіцы ў Востры Канец на споведзь да муроў Траецкага кляштару. Гэты гурт не здолен нават і ненавідзець так, як паспольства Магілева, што, убачыўшы, як пад’язджае да гораду іх арцыбіскуп Язафат, падняла масты брам і пачала наводзіць на яго дружыну гарматы.

Арцыбіскуп падышоў да вакна і, прытуляючыся гарачым лобам да балонкі, бачыў перад сабою абнесены высокім плотам дзядзінец. На дзядзінцы была пачарнелая ад куродыму лазня, некалькі нізкіх, крытых пад адзін дах дорам пабудоў, піўніца ў куце.

У спавітым вячорным змрокам горадзе было ціха. Чулася, як шуміць на Віцьбе млын, шчоўкае пад ветрам сцяжок на Прачысценскай вежы, трымціць лісцём ясакар, і таму выразна пачулася ад турмы Горнага замку песня, якую спявалі прыгнаныя з Воршы для падвышэння валу казакі.

— Ой, вы хлоппы, прекрасні малодці,
Та де ж ваші жупаны?

— запытваў зычна юнацкі голас і, пераплятаючыся, некалькі галасоў сумна адказалі першаму:

— А наші жупани поносили пани
Нас молодих забили в кайдани.

---

[16] Паасобная гаспадарка.

Матчына мова, песня ўжо забытай ім краіны, успамін аб радзімым Уладзіміры на Валыні запалілі штосьці ў свядомасці арцыбіскупа, але праз міг ён шаптаў са злосцю:

— Паганыя смерды… Налівайкаўскія недасекі…

Раптам наляцеў буй-вецер, зазвінеў балонкамі вокнаў, зашумеў лісцем ясакара і, разадраўшы казацкую песню, данёс яе шкуматкамі:

— А наші рушниці в пана на столиці.
Ми молоді, сидимо в темниці.

## II

Учора ўвечары абняла на небасхіле сонца крыллямі чорная хмара, але сёння чысты, бледна-ружовы золак. Над лянымі рэдкімі зморшчкамі Дзвіны яшчэ бяжыць, уцякаючы ад сонечнага святла, ліловая рось, а вяршаліны вялікіх хвой на ўзбярэжжы ўжо асыпаліся масянжовым пылам. Глухая ціш пануе і над маруднай плынню ракі, і над нарэзанымі вадой узбярэжнымі пярэспамі. Толькі роўна гамоняць хвоі, што ўчапіліся аголеным скрыўленым карэннем у яр, ды лагодна шуміць, бегучы па каменні, вада. Ад сухадолаў цягне грыбной вільгаццю, перагнілым лісцем і мокрай дрэўнай карой, ад гаю цягне свежым і горкім пахам лісця свячыста-белых бяроз, часам прыносіць вецер прыкры пах курадыму ад далёкіх лясных вогнішчаў. І нечакана ўварваліся ў ціш дзіўныя магутныя ўздыхі:

— І-ы-ы-ых. І-ы-ы-ых.

З-за павароту ракі паказаўся спярша адзін ганок, потым другі, затым трэці. Ужо відаць, як на першым аснач, спачатку згінаючыся ў крук і падымаючы над вадой дрыгалку, рабіў хутка некалькі крокаў уперад, потым, упіраючыся нагой у бервяно, апускаў галаслівую дрыгалку, разразаючы ёю ваду.

— Бі на Літо-о-овь! — крычаў чалавек.

— О-овь! — падхопліваў шчыр-лес.

— До! Крыху на Русь! Го-дзі! — гвалтавалі аснačы ля павароту.

Устурбаваная нечаканым гармідарам кнігаўка-пігалка заенчыла, лятаючы над ганкамі:

— Чые вы? Чые вы? Чые вы?

— Арцыбіскупскія, міляга. Уцякай хутчэй, пакуль чыншу не ведаеш, — крыкнуў малады аснач, трымаючыся за дрыгалку, але жарт не задрыжаў усмешкай на яго панурым твары, не бліснуў светлякамі ў недаверлівых вачах, што глыбока сядзелі пад шырокімі бровамі. Рослы і складны, без магеркі на ўскудлачанай ветрам галаве, у белай кашулі, праз расхінуты каўнер якой відаць быў крыжык, у белых жа нагавіцах, босы — ён, здавалася, пільна сачыў за ўзбярэжжам. Заўважыўшы чорны курган, аснач голасна нібы закрычаў, нібы заспяваў:

— О-о-о-ой!!

З вялікага, ахутанага россю кургану ўзнялася з жаласным піскам праклятая, паводле старэцкіх думак, Богам і заўжды асмаглая каня.

— Паны жыта знялі,
Поле спуставалі!..
Ой! Пагрукайце, гручкі,
Ды над маёй працай.
Ой! Падзяўбайце, чорны,
Слёзак з маей хаты.

Голас у юнака быў глухаваты, крыху насавога тэмбру, але столькі глыбокай тугі ўкладваў ён у кожны гук песні, што другі аснач, апрануты ў калісьці падобныя да світкі лахманы, кінуўшы дрыгалку, падышоў па вялізных бярвеннях ганка да спевака.

— Хіба ж у вас, Янка, каля Полацку ўсе вось так сумна спяваюць?

— Часам, Змітро, спяваюць весела каля карчмы, нават скачуць, закладваючы пад шклянку гарэлкі крыжык. А то вось лепш паслухай, чаму ў нас звычайна сумныя спевы, — і Янка, падняўшы дрыгалку над вадой, падышоў і сеў побач з Змітрам.

— Родам я з вёскі Кладзічы. Бацька мой калісьці меў уласны дым, валоку зямлі і належаў да каралеўскага маёнтку, але потым гэты маёнтак быў дараваны яшчэ каралём Жыгімонтам Другім катэдры Сафіі ў Полацку, і калі я радзіўся, бацька ўжо быў прыгоннікам арцыбіскупа. Бацьку цяпер я ўяўляю сабе нібы праз туман. Мне было чатыры гады, калі лесавалы прынеслі яго да хаты забітага хвояй. Застаўся я ў маці адзін. І пры бацьку жылі, як жабракі, толькі з тарбешкай не хадзілі, а без бацькі зусім жабракамі зрабіліся. З чым толькі не елі

хлеб — і з мякінай, і з мязгой, і з лебядой, каб толькі паходзіць на сытага. А ліха, як кажуць дзяды, заўжды за сабой другое ліха вядзе. Не ведаю, што за хвароба кінулася на вочы маці, мо гэта таму, што ўвесь час працавала яна, гафтуючы дробнымі пацеркамі карункі на рызах і паясах, але толькі слёзы цяклі з вачэй штодзень і штоноч, і нарэшце аслепла, калі трыццаці гадоў ёй не было. Езусам прасіла маці аканома, у нагах валялася, рукі цалавала, каб вызваліў сляпую і малога ад чыншу, — той ніякай увагі не звярнуў. І пайшлі мы з маці ў жабракі. Уперадзе я іду — сямігадовы хлапец, а за матузок маці трымаецца. Калі падыдзем пад вокны хаты, тады заспявае маці:

— На сім свеце, на вольнай зямлі
Жываў сабе славен, багат чалавек,

— і я, як умею, падпяю. Часам давалі кавалак хлеба, часам спушчалі сабак. Добра памятаю выпадак, калі аднойчы на бабінцы царквы стараста, пратурваючы жабракоў, штурхануў маці з прыступку так, што яна ўпала грудзьмі на зямлю. Тады я рынуўся да старасты, моцна ўдарыў яго кійком і абамлеў. Апавядалі мне апасля жабракі, што маці галасіла нада мной, як над нябожчыкам, бо ў мяне ўжо спынялася дыханне, яна рвала на сабе валасы, потым падняла на рукі і, зрабіўшы некалькі крокаў, упала сляпая ў прыдарожны рышток. Вось так і вандравалі з торбай чатыры гады — трэба было плаціць арцыбіскупу чынш.

Калі мне было адзінаццаць год, аканом накіраваў мяне ў падпаскі, а маці паставіў працаваць на жорны. Не бачыў я, знаходзячыся ля статку, як у стомленасці спынялася часам маці і гайдук лупцаваў яе, але бачыў, прыходзячы дахаты, крывавыя пісягі на твары матчыным.

Нахільны з маленства, навучыўся я ў вольныя рэдкія часіны каля аднаго добрага дзядзькі цяслярскай і сталярнай працы і звярнуўся да аканома, каб перавёў мяне з маці цалкам на чынш. Рашуча адмовіў ён мне ў гэтым.

Праз год без пары памерла маці, да смерці працуючы на жорнах. У той жа дзень увечары пахавалі яе на могліцах, а на другадзень па загадзе аканома пайшоў у лес адбіраць кляны для крэслаў. Звяртаюся ўвечары, і ля самых Кладзіч бяжыць мне насустрач сабака, трымаючы ў зубах чалавечую руку, а за ім знаёмы хлопец і, заўважыўшы мяне, крычыць:

— Янка, маці тваю пан арцыбіскуп загадаў выкапаць з зямлі і аддаць сабакам, як яна, кажа, паганае веры.

Рынуўся я, як вар'ят, да могліц. Бачу — раскапана магіла, труна з векам валяецца збоку і сядзіць на ёй гайдук, а цела маці грызуць сабакі. Мабыць, страшны я быў тады з твару, мабыць, таму, што я быў рослы і моцны для сваіх сямнаццаці гадоў і, ідучы з лесу, трымаў у руцэ сякеру, мо проста не прадаў яшчэ гайдук арцыбіскупу сумлення — толькі, убачыўшы мяне, ён хутка пайшоў ад могліц. Паразагнаўшы сабак, сабраў я цела маці ў труну і пацягнуў да ракі. Хлапец збегаў па рыдлёўку, і ўначы каля ўзбярэжнага кургану я ізноў пахаваў маці. Вялікі такі курган, напалову ён размыты Дзвіной, і кожную паводку з яго вывальваюцца косці, чарапкі і вугаллё. Не накідаў грудку над магілай, ні крыжу не паставіў — каб ізноў не адкапалі, толькі прынёс ад ракі і паклаў невялікі камень. З таго часу цягне мяне неяк да курганоў, да бескрыжовых магілак, а заўважыш іх — адразу кроў пачынае каламуціць і ў галаве, і ў сэрцы. А ўсё ж быццам маці клапацілася аба мне на тым свеце, што на некалькі гадоў апасля яе смерці мне пашэнціла.

Эх, Змітро, калі б ты ведаў Таклюсю! Заўжды ў Кладзічах шчодрая бывала. Таксама, як і я, з галоты яна. З маленства ні хаты, ні бацькоў. І шчыра пакахалі мы адно аднаго. Пайшоў я да аканома прасіцца зусім ад прыгону на чынш і каб адпусціў лесу на хату — і здзівіўся нават ад нечаканасці, калі той згадзіўся. Пакрылі дахам хату, атрымаў я і дазвол узяць за жонку сабе Таклюсю. І ў першую ноч пайшла Таклюся да аканома, а калі прыйшла ўранні, упала на падлогу, дрыжыць уся і то заплача, то засмяецца, але хай ворагі так смяюцца, як смяялася ў гэтую раніцу яна.

Усё маё жыццё ператварыла Таклюся. З'явіўся каля хаты гарод, забегалі куркі, заспяваў певень, а ў хаце неяк прытульна стала. Але за адзін год знішчыў усё аканом. Толькі цяпер зразумеў я, што трэба было яму вольнага ад зямлі сталяра. Людзі з дыму плацілі чыншу пяць злотых, я павінен быў плаціць трынаццаць злотых, калі людзі плацілі з падарошчызны чыншу чатыры злотыя, на мяне наклаў аканом адзінаццаць злотых, у лік дзякла зніклі куры і авечкі, а на прадвесні, загадам пана арцыбіскупа, выгнаў з хаты і пагнаў з Таклюсяй на гвалт гінаць ганкі ў Полацак на замак. У гэтай пуцявіне і загінула Таклюся.

Ля каменя «Грамабой», дзе Вобаль упадае ў Дзвіну, зрабіўся з нашым караванам залом. Калі пачало ўжо заламляць наш га-

нок, гукнуў я Таклюсі, каб кідала дрыгалку і бегла да сярэдзіны ганка, і далей не бачыў нічога — выкінула мяне дрыгалкай на выспу і аглушыла. Ачуняўшы праз колькі часу, пайшоў уздоўж берагу выспы і ўбачыў у крушынавым хмызняку Таклюсю. Я пазнаў яе па вопратцы… галавы на ёй не было… адарвала яе бярвенне. На ўзбярэжжы там і пахаваў яе. Праз месяц ізноў ішоў на ганок у Полацак. Уначы прабягаў наш караван паўз Таклюсіну магілку. Зірнуў я і бачу — стаіць Таклюся на магілцы без галавы, у тэй вопратцы, у якой я яе пахаваў, кліча мяне рукой і цягнецца да мяне. Крыкнуў я тады:

— Таклюся. Каханачка. Сэрцайка маё!

А яна адразу знікла, нібы спалоханая крыкам».

Янка змоўк. Вочы яго вандравалі па ўзбярэжжы, але здавалася збоку, што яны так і не бачылі яго.

— А як жа ты апынуўся ў Дзевіч-Камені? — перарваў нарэшце Змітро доўгае і балючае маўчанне.

— Як апынуўся? — перапытаў Янка. — Груган кляшторны равёў. Душахват. У Віцебску ён цяпер жывасілам усіх у рай цягне. Прыехаў ён узімку ў Кладзічы, і аднойчы ўвечары прыбягае да мяне гайдук.

— Ідзі хутчэй! — крычыць. — Пан арцыбіскуп цябе патрабуе.

Пайшоў я, гадаючы, што напэўна якая-небудзь сталярная праца.

Уваходжу ў камору, кланяюся дадолу і толькі збіраюся падысці бліжэй, як душахват загарлаў:

— Не падыходзь да мяне, смерд! Смярдзіць ад цябе чымсьці.

А вядома, чым дзьме ад прыгонніка, — потам, брудам, гноем. Потым ён кажа:

— Чаму ты не пераходзіш, Янка, у вунію? Вось я, напрыклад, вуніят.

— Калі пан арцыбіскуп, — кажу, — ёсць вуніят, дык няхай мяне лепш сабакі разарвуць, чым я буду вуніятам.

— Ба-а-ач! — здзіўлена працягнуў Змітро, калі Янка, падымаючы кашулю, паказаў яму спіну. Яна ўся была злупцавана так, што ўжо не відаць было паасобных пісягоў, здавалася, яна цалкам абсмаленая.

— Вось які адказ атрымаў я ад арцыбіскупа, — казаў далей Янка, — катавалі ў стайні гайдукі бізунамі так, што і цяпер праз тры месяцы няма сілы поўнымі грудзьмі захапіць паветра — хрыпіць штосьці ў сярэдзіне. Калі пасля катаван-

ня ачуняў, перавялі ў Дзевіч-Камень, а цяпер вось з Дзевіч-Каменя ў Віцебск на паправу сцен Узгорскага замку. Адтуль, з гэтых замкаў, ідуць у вёску ўсе каты і гайдукі, а я павінен іх адбудоўваць. Спаліць усе гарады варта. І адпомшчу я яшчэ пану арцыбіскупу. Мне губляць няма чаго — уласных нагавіц няма. Потым падамся да Сагайдачнага. Хай у Сечы мяне знойдзе.

— Бі на Літо-вь! — загукалі ззаду асначы. Змітро кумільгам рынуўся да дрыгалкі.

— І-ы-ы-ых! І-ы-ы-ых! — загаласіла ізноў над ракой і ўзбярэжжам.

За заваротам паказаўся ўжо Віцебск. З высачэзнага ўзбярэжжа збягалі ўніз, адлюстроўваючыся ў Дзвіне, стромкія вежы замкаў.

**III**

На верхнім паверсе Прачысценскае вежы дзівіліся на ціхае Задзвінне ў квадраты байніц тупарылыя гарматы. І калі ўначы, губляючы зоркі, апранецца глыбокае неба краіны ў світку чырвоных хмар, а ўдзень запалае, закруціцца ў вар'ятным гіндрыку і пылам закурацца, енчачы пад безлічам падкоў, шляхі, тады загалосяць гвалтоўна званіцы замкаў і глуха закархаюць смерцю мядзяныя грудзі гармат. Гармідар гарматны падхопяць у ніжнім паверсе доўгарульныя пішчалі, у абломе па дахах загутараць хапатліва мушкеты, а дадолу праз дзіры сцен пальюцца гарачая вада і смолка. Белымі хмурынкамі абгорнуцца вежы, і заб'е вакол замкаў крыніцамі крыві іржавая зямля.

Але цяпер рахмана ў сваёй латвай бязмежнасці небасінь, і, падымаючыся на рыплівых прыступах крутых лесвіц вежы да аблому, Янка спужваў толькі з гармат шызакрылых турчыкаў. Вылятаючы праз байніцы, яны кружыліся, піскліва вуркаючы каля вышкі вежы, дзе грукаў хтосьці сякерай. Янка пачаў аддзіраць пешняй аполкі, з якіх была зроблена падлога аблому, але праз невялікі час, калі дзесьці блізка загутарыў звон, ён, шпурганууўшы пешню, падышоў да байніц і зірнуў уніз.

Проста пад вежай ляжаў Узгорскі замак. Званілі марудна ў адзін звон у катэдры Прачыстай, што падняла свой крыж на цыбуліне званіцы вышэй сцяга вежы. Абнесеныя высокім плотам гаспадарныя будовы поблізу катэдры абступілі ха-

ту арцыбіскупа і толькі з аднаго боку расступіліся брамай, праз якую, выйшаўшы хутка, крочыў цяпер да бабінца катэдры, прытрымліваючы крысы сутаны, даўгяла-манах. Далей відаць была над дахам катэдры, за трыма купаламі царквы Ўваскрошання, ратуша з дзяржаўным гербам на вышцы. Па балкончыку яе гультаявата хадзіў дзед-дазорац і сачыў не столькі за хатамі гораду, колькі за пляцам, дзе варушыўся ўжо вакол адчыненых крам і важніцы гармідарны натоўп. Праз вялікую Суражскую браму гналі крыклівыя паганятыя ў замак з далёкае Вяліжскае воласці гурт быдла. Пад спушчаным мостам брамы працавалі, паглыбляючы роў, казакі, і зямля пасрэбрыла іржу рыдлёвак, пачарніла чырвань шырокіх шаравар.

Зацікаўлены Янка падышоў да байніц другой сцяны вежы. Ён некалькі разоў бываў раней у Віцебску, але ніколі яшчэ не бачыў яго ўвесь цалкам зверху.

Каля самага ўтоку Віцьбы ў Дзвіну шумеў мяшчанскі млын, уверх па рэчцы за драўляным Красным мостам, побач з Кстоўскай брамай, — тарахцеў коламі па гаці кляшторны млын. Узмацаваныя грэблі млына і моста высока падпіралі ваду Віцьбы. А за Віцьбай абхапіў тоўстымі мурамі гару Ламіху Горны замак. Дзівілася ў стаў Віцьбы Веставая вежа, і праз вокны вышкі яе відаць быў ціхі астатнім часам звон. Над высокімі, у некалькі паверхаў з крутымі спадамі дахаў, вежамі былі пасрэбраныя крыжы, а праз байніцы сачылі дбайна за вакольным жоралы гармат і шчакавіц. У сярэдзіне замку хавалася за высачэзным спічастым плотам турма. Ад двухпаверхавага з высокім ганкам будынку Прыказу паўз Міхайлаўскую царкву ішла вуліца да ваяводскае хаты.

Далей за Горным ішоў Дольны замак. Маючы адну сцяну агульную з Горным, ён іншымі трыма ўпіраўся ў Дзвіну, Віцьбу і ручай Дунай. Ціха было цяпер у Дольным замку, толькі ў Аляксееўскім кляштары і ў царкве Дабравешчання пераклікаліся зычна званіцы ды, моцна грукаючы вёдрамі, бегла ад «Жыдоўскае брамы» да Дзвіны па камяністай сцежцы дзяўчына.

Замкі абкружылі з усіх бакоў слабоды. За Дзвіной слабада Русь, дзе спыняліся заўжды з ганкамі асначы, за Віцьбай і Дунаем на Кстоўскай гары Задунайская слабада. За слабодамі пачыналіся лясы. Нечапаныя, высокія, хмурыя, былі яны пакрыты зверху вэлюмам сіняватай смугі.

З захапленнем глядзеў Янка з байніц аблому Прачысценскае вежы на безліч веж, брам і падвойных, засыпаных усярэдзіне зямлёй і каменнем сцен, на мноства цэркваў, што сваёй вышынёй і хараством яшчэ больш нізкімі і нішчымнымі рабілі хацінкі мяшчан. Потым пачуццё нянавісці да гораду ізноў выціснула пачуццё захаплення.

Гэта дзеля непрыступных замкаў, што замыкалі растанцы шляхоў да мора і рачных перавалокаў, што даравалі вёсцы гайдукоў з бізунамі, ішлі з далёкай Маскоўшчыны жаўнеры і, раззлаваныя ўпарствам замкаў, палілі безабаронныя вёскі, забівалі старых і малых, гвалтавалі сінявокіх дзяўчат.

— Пракляты горад! Трэба ўшчэнт знішчыць цябе гарматамі, а я павінен адбудоўваць твае сцены… Павінен цалаваць бізун… Пракля-а-аты! Спаліць цябе варта! — шаптаў Янка.

Ахоплены бунтоўнымі думкамі, ён не заўважыў, як з вышкі спусціўся цясляр, што кагадзе сваім грукатам спужваў турчыкаў, і таму ўздрыгануўся ад нечаканасці, калі той ударыў яго далонню па плячы.

— Дабрыдзень, братка! Што, замілаваўся Віцебскам? Ты чый жа будзеш?

Янка зірнуў недаверліва, але, спаткаўшы нетаемныя юнацкія вочы, адказаў лагодна:

— Душахватаўскі. А ты чый?

— Ха-ха-ха! — зарагатаў юнак. — Добра заўважыў. Я тутэйшы вольны мешчанін з дойліднага цэху Бутрым Катырла, а жыву — вось адсюль хата відаць на Кстоўскай гары ў Задунайскай слабадзе. Толькі ты, добры чалавек, цішэй будзь, а то ён можа пачуць, — паказаў Бутрым на хату арцыбіскупа, і ў глыбіні яго вачэй мільганулі ваўчыныя аганькі.

— А няхай пачуе! Чым ён цяпер больш страшным можа мяне пакараць? Смерцю? Ці што? Дык мяне самога цягнула кагадзе скінуцца разам з турчыкамі праз байніцы да Дзвіны. Гэта вы, мяшчане, добра за гэтымі сценамі жывяце, таму для вас і звычайна хадзіць заўжды перад панамі на пальчыках і гаварыць шэптам.

— Добра жывецца?! — раптам выкрыкнуў Бутрым і з нечаканай сілай страсануў Янку, схапіўшы за каўнер кашулі. — На цыпках ходзім? Калі б ты быў не прыгоннік, а ўроджаны шляхціц, дык я б цябе за гэтыя словы так штурхануў бы ўніз па лесвіцах, каб кулем касцей апынуўся ў ніжнім паверсе. Здзекавацца з сябе

я не дазволю! Шэптам гаворым? Які Машэка, дзякуй Пану Богу, у Віцебск заглянуў! Муру лобам не разаб'еш. Толькі дурніца на мацёрую мядзведзіцу з сцізорыкам ідзе. Э-э-эх, братка!

І Бутрым, сеўшы на бервяне, побач з Янкам, загаварыў больш лагодна:

— Ад самай Варшавы і да Масквы адзін за адным курганы пайшлі. А хто пад імі ляжыць — каралі, цары, гетманы, арцыбіскупы? Не-е, яны ў алтарох касцёлаў і катэдраў пахованы, а пад курганамі вольныя мяшчане — каралеўскія драбы ляжаць. Ці хіба ж мой бацька Яраш Катырла, каваль ён, у 1608 годзе разам з гетманам Лісоўскім у прошчу хадзіў на Маскоўшчыну да Траецкае лаўры? Ці што? У манахаў вельмі добрыя гарматы былі, і цяпер ён з мыліцай кульгае, а нагу пакінуў пад мурамі лаўры ў падарунак чорнаму груганню і вялебнаму Сяргею. Што ён, за гэта якую-небудзь падзяку атрымаў ад паноў? Калі б я як той чорны вол не працаваў, дык бацька б цяпер ад бабінца да бабінца блукаўся, бо каваль не бацян, на аднэй назе не працуе. А нядаўна за тое, што назваў на пляцы пана арцыбіскупа катам, вылупцавалі яго да непрытомнасці. Трымай каралеўскі ўдар, панскую ласку. Насі, не згубі. Гэта я пра бацьку кажу таму, што бацька ён мне, а калі бацьку ў правую шчоку б'юць, у сына левая чырванее.

Я чуў, як ты мармытаў, што трэба гарматамі знішчыць замкі, трэба знішчыць горад. Кныра перад Калядамі палі, недарэка! І мне калісьці хацелася спаліць яго, але што з гэтага будзе? Толькі тое, што на вогнішчы новыя замкі збудуюць яшчэ мацней, чым гэтыя, а нас з табой на той самай плашцы, дзе бацьку гайдукі лупцавалі, шыяй пакараюць. Кабыла з ваўком цягалася, вядома што засталося.

Ды гарматы не па замках і б'юць. Вось, калі табе кураслепам вочы не засцілае, зірні ўніз. Ву-унь бачыш, Вялікая вуліца пайшла — ад Суражскае брамы, паўз ратушу, праз Красны мост у Дольны замак, а ў Дольным замку паўз Аляксееўскі кляштар і царкву Дабравешчання да Заручаўскае брамы. Вялікая яна завецца не таму, што праз два замкі ідзе, а таму, што вялікія людзі на ёй жывуць, якім чорт дзяцей калыша, — бурмістры, цэхмістры[17], лаўнікі[18], радцы[19], гандляры і непераможная шлях-

[17] Цэхмістр — старшыня аб'яднання рамеснікаў пэўнае прафесіі — цэху.
[18] Лаўнік — сябар калегіі прысяжных асэсараў — лавы.
[19] Радзец — сябар органу гарадскога самакіраўніцтва — рады.

та. Цяпер параўнай хаты на гэтай вуліцы з хатамі слабод, што за сценамі замку, — гэта ўсё адно што параўнаць Дзвіну з нашым Дунаем. Голь галіта голлю павіта.

І хто толькі не паліць гэтыя слабоды? На вяку майго дзеда і бацькі Задунайскую слабаду цалкам пускалі ў куродым князь Гарэпскі, потым князь Курбскі, затым князь Сабураў, а замкі стаяць як спрадвечныя. Няма магчымасці і ва Ўзгорскі замак перабрацца, дзе большасць зямлі належыць да катэдры і будзеш тады толькі на адзін пазямельны чынш і працаваць, бо пану арцыбіскупу грошы г і д к і, як ругану падла.

Цяпер пра сябе кажу. Шэсць гадоў я вучыўся за дойліда і сталяра. Добра мой майстар вучыў — каменняў на Дзвіне менш, чым тых кухталёў, што я атрымаў ад яго. Сцежку пратаптаў ад яго хаты да Бэркавай карчмы, і памёр ён сёлета на Вялікдзень, упаўшы п’яны са званіцы царквы Ўваскрошання. Калі пачалі ўжо ў мяне адрастаць вусы, цэхмістр даў мне спробную працу на майстра. Я павінен быў зрабіць па вузоры сумежнае вежы вышку на Самежынскай вежы ў Дольным замку. Адсюль, на жаль, за Ламіхай гэтай вежы не відаць, а то паглядзеў бы: вышка выйшла — не турчыкам хата, а папу казальніца. Палічылі мяне за адмыслоўца ў сваёй справе, але, каб увайсці ў цэх майстрам, мне трэба ўнесці ў касу цэху сорак злотых ды на воск у катэдру Прачыстай дзесяць злотых. А дзе ж гэтыя грошы ўзяць, калі ніколі не быў ні за злодзея, ні за забойцу? Хата з усім спратам і паловы не каштуе, а акрамя хаты, маю нацельны крыж, кашулю і нагавіцы. Вось і застаўся я ў падмайстрах разам з партачамі. Астатнім часам штрафы асілілі. Цэхмістр у нас вуніят, а пан арцыбіскуп прапанаваў, хто і дэзуніт, няхай уносіць штрафы ў катэдру Прачыстай, вось цэхмістр мяне і зацiснуў. Невялічкая памылка — плаці там’яншчыну[20]. Няхай вочы арцыбіскупу выесць гэтым там’янам, няхай усе фарбы з абразоў асыпляюцца. Толькі на вялікіх тутэйшых людзях вялебны айцец яшчэ трымаецца, а то б даўно на кол пасадзілі. Але высплюся я на яго скуры.

Раптам пачуўся якісьці гармідар і, кумільгам рынуўшыся да байніц, Бутрым закрычаў:

— Вось, вось, бач. Ізноў мой дзед прамову трымае.

---

[20] Там’яншчына (ад «там’ян» — ладан) агульны падатак у карысць царквы.

Янка зірнуў праз байніцу і ўбачыў перад бабінцам катэдры натоўп, а пасярэдзіне яго крычаў, размахваючы рукамі, сівы дзед на мыліцы:

— З вежы яго скінуць уніз падкапком варта! З вежы!

Нечакана з-за рогу выйшаў татарын-жаўнер; заўважыўшы яго, хутка растаў натоўп, толькі спазніўся, цяжка кульгаючы, дзед Яраш, і жаўнер, схапіўшы, пацягнуў яго кудысьці. Бутрым імпэтна рвануўся ўніз па лесвіцах, крыкнуўшы толькі:

— Трэба ратаваць бацьку.

Неўзабаве Бутрым ужо бег паўз катэдру, і, калі ён знікнуў з вачэй, узяўся Янка зноў за працу. Толькі калі ў змроку загаласілі званы з катэдры Прачыстай па душах змарлых, ён скончыў працу і сышоў з вежы: марудна пайшоў да дворніцкай арцыбіскупскіх пабудоў. Праходзячы паўз хату, бачыў, зірнуўшы праз вокны, як хутка крочыў з кута ў кут каморы чалавек у доўгай сутане.

## IV

На бабінцы і прыступках ганку катэдры Прачыстай заўжды таўпіліся абшарпаныя жабракі. Невялічкая босая дзяўчынка з сухарлявай кабетай выкрыквала жаласна ва ўнісон:

— Падары, паночку, пенязь! Дзеля найсвентшай пані. Езус-Марыя.

Аднарукі, з шабельным шрамам ва ўсю шчаку, драб-інвалід аднастайна мармытаў, гледзячы ў падлогу:

— Запалілі стары Крычаў,
Канцы запылалі…

Сляпы дзед з лерай сядзеў на халодным ганку і, накручваючы корбу, спяваў:

— Наша й ежа ўся — кусанікі,
Наша й піцийка — глытанікі!

І скаргі жабрацкія звычайна перапляталіся са спевамі набажэнства.

Але калі ў час імшы арцыбіскуп узняў высока келіх з сакрамантамі, памінаючы найсвяцейшага і найшчаснейшага айца папежа Урбана VIII і найцнотнейшага караля Польска-

га і вялікага князя Літоўскага Жыгімонта III, уварваліся з бабінца і, захліставаючы жабрацкія спевы, залуналі пад гучнымі скляпеннямі катэдры крыкі:

— Бі папежніка… Да плашкі чорных падкапкоў…

Праклён таму, хто агаляе маці…

Ад узбурэння ледзь-ледзь толькі скончыў арцыбіскуп імшу. І ўзбурэнне гэта было народжана не пачуццём жаху перад смерцю, а гострым жаданнем помсты паганым схізматыкам. Яго рукі, трымаючы келіх з сакрамантам, выразна дрыжалі, але ў вачах запаліліся аганькі змагання ў імя ўкрыжаванага. Гэта пачуццё не пакінула арцыбіскупа і тады, калі пасля імшы на спусцелым пляцы ён дайшоў дахаты.

Праз колькі часу ён пісаў ужо скаргу на бунтаўлівае паспольства ў магістрат. Шукаючы штосьці, ён выцягнуў з шафы кніжку, разгарнуў на выпадковай балонцы, і нечакана ўбачанае там прымусіла яго рынуцца так парывіста да стала, што атрамант з перавернутай рухам каламарніцы заліў скаргу.

Кніга гэтая была «Плач» арцыбіскупа Полацкага Мілеція Сматрыцкага, а на выпадковай балонцы ўбачыў арцыбіскуп:

> «Дзе неацэненыя шафіры і смарагды дыядэмы маёй? Дзе Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Сапегі, Пацы, Каліноўскія, Корсакі, Пацэі? Вы агалілі мяне, здрадцы. Але памятайце: пракляты ўсякі, хто адкрывае нагату сваёй маці».

— Ха-ха-ха!!! — нервова засмяяўся арцыбіскуп. — Дыяменты твае пайшлі на аздобу трону святога Пётры ў Вечным горадзе. Велікапанства тваё цалуе пантоплю найшчаснейшага папежа. А за магнатамі мы, воі пана Езуса, пагонім сляпое быдла. І на працягу кароткага часу ў палякі перакінуцца русіны. Ха-ха-ха. А табе анатэма — высвячэнец Сагайдачнага і пагарджонай басоты Запарожжа. Тройчы анатэма. Шыяй пакараць цябе варта.

Заўжды самотны ў далёка закінутым у паўночна-ўсходні кут Польшчы Віцебску, арцыбіскуп пачынаў часам размаўляць сам-насам, каб вызваліцца ад цяжару ні з кім не падзеленых думак, не заўважаючы нават дзіўнасці гэтых гутарак. Блукалі насамперад па звілінах мазгоў таемныя для вакольнага думкі, потым нечакана прарываліся вонкі, апранаючыся ў гукавыя злучэнні.

Тое, што здарылася сёння на бабінцы катэдры, на момант выціснула Мілеція Сматрыцкага, але раптам усплыло:

— Праклён таму, хто агаляе маці…

— Гэта з «Плачу», — шаптаў арцыбіскуп. — Чэрнь, значыцца, падтрымлівае сувязь з Мілецім. — І інстынктыўна пачаў раздзіраць у дробнае шкумаццё партрэт архіепіскапа на першай балонцы.

Раптам хтосьці паволі застукаў у дзверы. «Напэўна, Мілеці», — прамільгнула на думцы ў арцыбіскупа. Ён адчыніў дзверы, і ў камору ўварваўся яго ўлюбёны вялікі выжал, скачучы вакол арцыбіскупа.

— Мілеці, ані руш! — крыкнуў арцыбіскуп, і выжал паслухмяна застыў ля ног гаспадара, які раздзіраў скаргу, прыйшоўшы да выніку ісці самому ў магістрат і звярнуцца да нарады паспольства вусна. Праз колькі часу арцыбіскуп ужо выходзіў разам з ганаровай дружынай манахаў да ратушы.

Калі арцыбіскуп праходзіў паўз звычайную мяшчанскую хату, невялічкая дзяўчынка, што сядзела на прызбе, заўважыўшы арцыбіскупа, звонка закрычала:

— Кляшторны кат! — і хутка схавалася за весніцамі дзядзінца. Па загадзе арцыбіскупа манахі выцягнулі дзяўчынку на вуліцу.

Невялічкая, шчуплая, яна ўжо была перад панам арцыбіскупам, спалоханая плакала рыдма, затуляючы рукавом зрэбнай вопраткі твар, як з хаты выскачыў рослы, з раз’юшаным тварам мешчанін. Ён моцна адштурхнуў у бруд восеннай вуліцы манаха, схапіў на рукі дзяўчынку, стаў перад арцыбіскупам, гледзячы на яго нерухомымі вачыма, прарывіста спытаў:

— Што трэба пану арцыбіскупу ад гэтае дзяўчынкі?

— Ты чуў, што яна крычала?

— Чуў, а калі пан арцыбіскуп трошкі не дачуў, дык я кажу, я, Піліп Шапецька, што ты кат! — галосна крычаў мешчанін. — І сутана, і падкапак твой заліты крывёй. Колькі закатаваў у турмах, папежнік? Га? Сцягні на катэдру апошнія мае нагавіцы, злодзей. Ты не маеш права, драпежнік, глядзець на гэтую дзяўчынку, не толькі гутарыць з ёй. Міста-ар[21]…

На крык збягаліся з розных бакоў адзін за адным мяшчане, і ў хуткім часе вакол арцыбіскупа вырас натоўп, але, калі пан арцыбіскуп валадарна крыкнуў, паказваючы ляскай на мешчаніна з дзяўчынкай:

[21] Дзяржаўны кат.

— Схапеце гэтага злачынца! — натоўп адразу растаў, і ніхто з яго не выйшаў на гук арцыбіскупа. Манахі, прытрымліваючы крысы доўгіх сутан, рынуліся да мешчаніна і спыніліся раптам, спаткаўшы яго ўпартыя, злосцю запаленыя вочы. Мешчанін засмяяўся і марудна пайшоў дахаты, дбайна прытуляючы да сябе дзяўчынку.

Раззлаваны арцыбіскуп хутка пакрочыў да ратушы, ледзьве паспявалі толькі за ім манахі.

— Самотны, зусім самотны, — мармытаў арцыбіскуп шэптам, — але і найвышэйшы папеж, і арцыбіскуп пан Езус, спакінуты апосталамі, быў самотны ў садзе Гефсіманскім, а потым уваскрошаннем скрышыў зубы д'яблу. Скрышыў! — выкрыкнуў арцыбіскуп, падымаючыся па лесвіцы на другі паверх ратушы.

Адчыняючы перад панам арцыбіскупам дзверы ў памяшканне рады, манах гулка выкрыкнуў: «Пахвалёны Езус!» — і бурмістр, паспяшаючы насустрач арцыбіскупу, адказаў за радцаў, што падняліся з крэслаў: «Амэн!» Арцыбіскуп шырокім агульным крыжам пажагнаў радцаў, асобна бурмістра і потым парывіста сеў на крэсла за столікам побач з бурмістрам.

Каля дваццаці радцаў разгледжвалі ў гэты момант пытанне пра карчму Маркаўскага кляштару, якая, нягледзячы на шэраг шафункаў рады, што прыбіваліся да дзвярэй ратушы, адкрывала гандаль у час набажэнства. Арцыбіскуп меў права пазачаргова трымаць прамову да рады, але ён некаторы час сядзеў нерухома, дбайна разглядаючы радцаў, нібы жадаючы ўразумець, што захоўваюць іх безасабістыя цяпер, з астыглымі зморшчкамі твары. Нарэшце ён устаў і, торгаючы рукамі панагію на грудзёх, пачаў гутарыць:

— Пан Езус няхай будзе паміж вас, шаноўныя панове, Панам Богам упільнаванага заўсёды і слаўнага месца Віцебску.

— Пан-д'ябал зараз між нас, — напаўголасу крыкнуў адзін радзец, хаваючыся за спіны пярэдніх.

Арцыбіскуп, зрабіўшы выгляд, што нічога не чуў, далей казаў:

— Казаў Найвышэйшы — няхай будзе адзін статак і адзін пастыр, у вас жа ёсць два пастыры. Адзін праўдзівы, які заўжды гатоў пакласці за сваіх авечак жыццё, і другі — хлуслівы, які агарнуў воўчае нутро авечай шкурай.

Пачаўшы прамову ледзь чутна, арцыбіскуп ужо крычаў, моцна грукаючы цяжкай ляскай па падлозе:

— Я — пакорлівы Язафат з пажагнання светаблівае памяці найсвяцейшага папежа Паўлы V і наданай прывілеяй найшчаснейшага караля ягамосці Жыгімонта III арцыбіскуп і Пану Богу праціўны служка янычараў і гайдамакаў архіепіскап схізматыкаў Мілеці, які, маючы пратэктарам гетмана Сагайдачнага, атрымаў высвячэнне ад патрыярха Турэччыны. Адкрыйце вушы і вочы. Толькі ад Рыму святло. Чуеце?

Уваходзілі ў памяшканне адзін за адным, збіраючыся на пасяджэнне лавы, лаўнікі, падыходзілі зацікаўленыя ў шафунках рады і лавы цэхмістры і гандляры. Неўзабаве разбавіліся радцы ў натоўпе, што прагна слухаў прамову арцыбіскупа.

— За кім ідзяцё вы? — крычаў арцыбіскуп. — За Мілеціем, за Налівайкам у расе! Цэрквы, якія па загадзе перададзены вуніятам, пустыя, а тыя дзве, што засталіся за схізматыкамі, заўжды поўныя. Вы ганьбіце мяне ў выразах, якіх я не маю магчымасці, як мніх, пераказаць. Вы прыбіваеце да дзвярэй ратушы паганы твор Мілеція «Плач», але памятайце, крывёй заплачуць спіны тых, хто будзе чытаць гэты твор. Вы схізматыкі і крывавымі сцежкамі ідзяцё да Пана Езуса, занядбаўшы шырокі шлях, які паказваю вам я. Вы здрадцы Жэчы Паспалітай і ў свой час адчыніце брамы замкаў ворагам яе, бо ідзяцё за янычарам, які цалуе брудны бот султана, за гайдамакам, які забівае цвікі ў галовы ксяндзоў. Толькі вуніяты дараслі да магдэбургскага права, схізматыкам яшчэ патрэбны бізуны Горнага замку.

Запалены прамовай арцыбіскуп ужо не бачыў людзей. Яго словы ляцелі іскрамі ад крэсіва, але не заўважваў ён, што вакол запахла парахавым склепам і порах выбухнуў. Арцыбіскуп нават не зразумеў першых крокаў, што нараслалі бягучай па лесе навалай. Яны здаліся яму рыначным гоманам за сценамі ратушы, а потым, калі дбайна, нібы прачнуўшыся, паглядзеў на людзей, ён убачыў скрыўленыя нянавісцю твары.

Мноства твараў зліліся раптам у адзін, які адарваўся ад натоўпу і паплыў уперад, скрыўлены злобай. Незнаёмы лаўнік падышоў да самога арцыбіскупа, працягваючы скрыўленыя пальцы рук, і ў некалькіх кроках спыніўся. Раптам ён імпэтна шыргануў у кут смушковую кучму і загарлаў:

— Кучмы да купы… Да зброі…

Рух і гармідар запанавалі ў памяшканні рады.

Над галовамі ляцелі ў кут адна за аднэй дзясяткі кучмаў.

— Бі гадзіну!.. Містар! Д’ябал у сутане!.. — крычалі лаўнікі і радцы, хапаючыся рукамі за паясы, дзе калісьці віселі шаблі, і нарэшце кінуліся да стала, каля якога кагадзе трымаў прамову арцыбіскуп. Але ён ужо хутка спускаўся па лесвіцы разам з бурмістрам, які мармытаў:

— Вы ж бачыце, пане арцыбіскуп, што нічога не магу з імі зрабіць.

Выйшаўшы на вуліцу, арцыбіскуп рынуўся ўгрунь да катэдры. Яго абганялі, пакідаючы аднаго, палахлівыя манахі. Задыхаючыся ад бегу, шаптаў арцыбіскуп:

— Гэта ж заклік да канфедэрацыі… гэта ж паспалітае рушанне… Езус-Марыя…

А таго часу ў ратушы крычаў спалохана, надсаджваючы горла, тлусты возны[22]:

— Ша, панове… Ціха…

Ён выцягнуў дрыжачымі рукамі з ножан да паловы штылет, і далей ён, іржавы, не вылазіў. Толькі калі той лаўнік, кучма якога першай паляцела ў кут, ускочыў на столік, адпіхнуўшы ўбок match вознага, і відавочны ўсяму паспольству высока падняў руку, тады ўраз сціхнуў вакольны гармідар. Лаўнік зрабіў нізкі ўклон, пераксціўся на вобраз і загарлаў:

— Дазвольце, шаноўныя панове, прамову трымаць?

— Трымай. Трымай, — адказала паспольства.

— Панове, з ласкі караля ягамосці Жыгімонта III вы маеце магдэбургскае права, пакажэце, дзе яно, я не бачу, а зрок у мяне, дзякуй Пану Езусу, добры. Я бачу толькі, што вы папіхачы, а ў хуткім часе будзеце і цяглымі пана арцыбіскупа. Панове, ці загойваліся тыя вашы раны, што атрымалі вы тады, харобрыя, пад Фэлінам у бойцы з маскоўцамі? Здаецца, што не загойваліся, але свежы і ўспамінкі аб перамозе. Пад Фэлінам срэбрам зіхацелі вашы штылеты, а цяпер дарэмна хапаецеся за паясы, няма там шабель. Няма нават і такой іржавай, як у гэтага паважанага пана, што жвакае, — паказаў лаўнік на вознага, які, задаволены нечаканай цішай, сядзеў каля століка на падлозе і лагодна хрусцеў паднесеным на пляцы гандляркай пернічкам.

— Няма шабель, дык ёсць сякеры і бердышы… — пачуліся крыкі.

---

[22] Прыстаў выканаўчае паліцыі.

— Пільнуйце іх, панове, — казаў далей лаўнік, — а то неўзабаве пакоцяцца ў кут замест кучмаў вашы галовы. Дбайна пільнуйце. Паны схізматыкі, хавайце мілых вам нябожчыкаў у лясных ярох, калі не хочацца вам, каб вакол іх цел грызліся сабакі. Паны зямяне[23], не заворвайце палеткі вашых маёнткаў, дараваных за раны пякельныя, бо вы схізматыкі, і апошнія вашы маёнткі адыдуць да катэдры. Паны цэхмістры, закопвайце глыбей у зямлі грашовыя скарбонкі вашых цэхаў, бо катэдра мае гострую патрэбу ў там’яне. Паны лаўнікі і радцы, калі вы схізматыкі і здраднікі, дык што вам тут трэба, бо лава і рада толькі для вуніятаў. Так кажа пакорлівы арцыбіскуп Язафат, а што вы кажаце?

— Крывёй. Крывёй змыць абразу. Да плашкі непагамаванага, — загарлала паспольства. Калі гоман вакольны сціхнуў, лаўнік ізноў цягнуў прамову:

— Хіба ж вы, шаноўныя панове, перабралі кляшторнай гарэлкі, што развязалі языкі, бы тыя белагловы ля студні? Гэта толькі пашкодзіць паспалітай карысці. Няма яшчэ гасла, а таму мы ў поўным парадку выйдзем адсюль і пойдзем па хатах. І д’ябал у зубы таму, хто пачне цяпер звягаць, але пільнуйце сякеры.

— Згода! Згода! — і радцы, і лаўнікі, і цэхмістры, і гандляры, нават не размаўляючы адзін з адным, пачалі ціха пакідаць ратушу.

А ўвечары ў цёмнай залі ратушы шапталіся некалькі людзей.

— Пан архіепіскап Мілеці пажагнаў нас на забойства Язафата, — гутарыў адзін, у якім няцяжка было спазнаць бурмістра. — Больш чакаць нельга, бо на Ўводзіны прыйдзе ў Горны замак, дзякуючы скаргам Язафата, сталая залога… Нам абяцалі дапамогу паспольства Вільні, Полацку, Менску і Магілеву.

— А як казакі? — спытаў другі голас.

— Казакі разам з намі пойдуць… На Маскоўшчыну нельга мець надзеі. Мы памятаем добра гарматы аднолькавых з намі па веры маскоўцаў. Такім чынам, панове, смерць папежніку.

— Смерць!.. — адазваліся рэхам людзі. Чорныя цені задрыжалі па сценах і паплылі потым да выхаду.

[23] Буйныя землеўласнікі.

## V

За дазорцу на ратушы Ўзгорскага замку быў астатнім часам сівы, як голуб, дзед з старэцкага прытулку. Калі яму ў першы раз загадалі палезці на ратушу, дзед дзіцянём зарумзаў.

— Далібог жа, нічога не бачу, пане, — мармытаў ён, — нарадзіўся я яшчэ за панаваннем караля ягамосці Жыгімонта Першага.

— Нічога, нічога, дзед, — супакойваў радзец, — паслужы паспольству і ягамосці Жыгімонту Трэцяму. Ты, за ласкі Пана Езуса, глыбокага веку, а вечавы звон амаль што ўтройчы старэй за цябе і бач які яшчэ галаслівы. Вось няхай адзін дзед і пільнуе другога. Дзе, крый Пан Езус, заўважыш куродым, альбо з пляцу хто гукнуў, — тады бі, бі спакваля па дзядоўскай сваёй змозе, а марцовага дзецюка да звону паставіць, ён, дурненькі, з першага гвалту разаб'е. А што зрок у цябе, кажаш, дрэнны, дык і з каршаковымі вачыма Вільні ты ўсё роўна не ўбачыў бы.

І пачаў дзед штодня хадзіць вакол вышкі ратушы, як той певень ля куркі, нічога не бачачы далей пляцовых крам.

У гэты ядраны лістападавы дзень ён абышоў раз па балкончыку і, хаваючыся ад вострага ветру з Дзвіны, па якой ужо рушылася сала, прысеў у зацішку на зэдлік, захінаючыся ў кажух. Ад старэцкага прытулку насупроць ратушы цягнула млявымі пахамі ежы, і дзед нібы забыўся. А праз невялікі час прачнуўся ад мядзяных стогнаў звону. Знаёмы дзеду лаўнік як мага біў на гвалт.

— Га? Дзе? Што? — закрычаў спалохана дзед.

— Катэдра Прачыстай гарыць, разява, — адказаў лаўнік. Моцныя зыкі старога вечавога звону, зрываючыся з ратушы, плылі адзін за адным над замкамі, вагнём запальваючы кожную кроплю людской крыві. Стары звон напружана клікаў, і першай адгукнулася званіца царквы Ўваскрошання, потым Аляксееўскага кляштару, Святога Духа ў Пацавым Табары, Сямёна ў Задзвінні. Гармідарылі званы, вылі ў слабодах, бразкочучы ланцугамі, выжлы, ляскалі клямкі рыплівых фортак, хрусцеў пад нагамі людзей, што хапатліва беглі праз пляц, лядок учарашніх лужын — страшныя пажары ў дзеравяным горадзе.

— Дзед, дзе пажар? — крычалі здолу, задзіраючы галовы.

— Катэдра. Катэдра, — шамкаў без перапынку ў лад звону дзед. Людзі беглі паўз ратушу далей, і ўперадзе ўсіх з сякерамі за паясамі Янка і Бутрым.

Заўжды цяпер неразлучныя, яны апошні час працавалі нават і ў свята на Кстоўскай браме Ўзгорскага замку — неспакойна было на кардонах Жэчы Паспалітай. Калі вечавы звон спалыхнуў ціш раніц і зык яго падхапілі званіцы ўсіх цэркваў, Янка і Бутрым узлезлі на вышку брамы, але нідзе не відаць было куродыму. Тады, адчуваючы, што толькі нешта магутнае прымусіла загвалтаваць званы, яны рынуліся да пляцу.

Чым бліжэй да катэдры, тым усё больш і больш вылівалася на вуліцу з хат людзей, і, захопленыя агульным рухам, яны таксама беглі ўперад. Але за царквой Уваскрошання, трымаючы ў руках бердыш, імпэтна вышмыгнулі з хаты некалькі лаўнікаў з крыкам:

— Смерць непагамаванаму папежніку. Смерць душахвату! — і нібы галавешкамі швыргалі яны ў сухое ламачча.

Людзі спярша спыніліся, атуканыя нечаканасцю, а потым з крыкам рынуліся яшчэ хутчэй, нібы жадаючы нагнаць момант затрымкі. Запаленыя вечавым звонам, сотні людзей зліліся да купы ў магутны вогненны струмень ляснога пажару.

Радасць нечаканая, даўно не бачаная, цалкам агарнула Янку, так рады бывае, абліваючыся крывёю, зацкаваны воўк, калі, прыціскаючы да зямлі задранага ім у смяротнай бойцы ваўкарэза, бачыць, як з кожнай хвілінай усё слабей і слабей гарэць вочы ворага. Янка рынуўся стрымгалоў, спакідаючы ззаду Бутрыма, выцягваючы на бягу з-за пояса сякеру, і не было ўжо ў яго змогі крыкнуць ніводнага зразумелага людзям слова. З роту вырываўся толькі зычны жудасны крык:

— Га-а-а га-га за-а-а!

Побач з Янкам закрычаў тлусты цэхмістр:

— Смерць Язафату. Маем толькі Мілецця!

Пачуўшы нібы скрозь сон гэты крык, Янка звярнуўся да цэхмістра і выціснуў праз змогу з роту:

— Яны, свінячы гладыш, абое рабое — і Язафат, і Мілеці!!

Цэхмістр спалохана зірнуў на Янку і пачаў заставацца.

Вакол брамы дзядзінца арцыбіскупскай хаты ўжо быў гармідарны натоўп. Дубовая брама была замкнута з сярэдзіны, і без парады перад змогай грукацела аб яе каллё. Янка хутка праціснуўся ўперад і з-за плечча пачаў сячы сякерай у трэскі браму. З кожным ударам усё мацней і мацней уздрыгвала брама.

У хаце быў цяпер толькі адзін арцыбіскуп. Калі арцыбіскуп ішоў з катэдры ад імшы і пачуў вечавы звон, ён не звярнуў на гэта ніякай увагі, але ўсё ж, добра ведаючы, як адносіцца да яго паспольства, загадаў замкнуць браму і нібы застыў, чакаючы чагосьці магчымага. Потым, калі пачала ўжо грукатаць брама, ён схапіў са сцяны пісталет і падышоў да акна. Пачуўшы ад пульсуючае брамы шматгалосы рык, зразумеў, што стрэлы ніколі не выратуюць і толькі больш раз'юшаць людзей, і ён шпурнуў пісталет на падлогу.

Прыслухоўваючыся да вонкавых гукаў і ўздрыгваючы разам з брамай, арцыбіскуп пачаў маліцца:

— Пан Езус, даруй цуд. Зруйнуй дашчэнту гэты горад, як калісьці Садом і Гамору. Пан Езус…

Па дзядзінцы мітусіліся манахі, хаваючыся ў стайні і піўніцы. Улюбёны выжал арцыбіскупа насамперад шалёна рынуўся з гулкім брэхам да брамы, але, убачыўшы жудасныя твары людзей, пачаў тлумна гайсаць па дзядзінцы і нарэшце сеў ля стайні, і, задраўшы ўгару морду, хаўтурна завыў.

Калі цяжка рухнула брама і людзі ўварваліся на дзядзінец, ім насустрач выйшаў з хаты на ганак арцыбіскуп, трымаючы ў руках крыж. Рослы радзец з перакрыўленым злосцю тварам моцным ударам калом вышыб з рук арцыбіскупа крыж і аглушыў яго. Выжал імпэтна рынуўся ад стайні да радца, падскочыўшы, схапіў яго за грудзі, раздзіраючы цела, але тут жа ляснуўся вобземлю з раскрышанай сякерай галавой.

— Бі душахвата! Бі папежніка! — гарлалі людзі. Самлелага арцыбіскупа за ногі сцягнулі з ганку на сярэдзіну дзядзінца, збіваючы каллём, і разадраная ў шкумаццё сутана пачала афарбоўвацца ў чырвоны колер. Нарэшце адзін з тых, што збівалі, схіліўся да арцыбіскупа, абмацваючы яго, і загарлаў:

— Здырдзіўся, папежнік. Але няхай душа яго перад пеклам трошкі абмыецца, — і ён на невялікі час адвярнуўся ўбок ад натоўпу.

Людзі адхлынулі да хаты і пабудоў, пакінуўшы пасярэдзіне дзядзінца знявечанае цела арцыбіскупа.

Янка падышоў няпэўнымі ад узбурэння крокамі да арцыбіскупа і схіліўся. Пільна ўглядваўся ў застыглы твар чалавека, які расціснуў без літасці ўсё яго жыццё, і раптам здзіўлена заўважыў, што пальцы рук арцыбіскупа выразна дрыжаць і ён марудна расплюшчвае вочы.

— Жыў яшчэ, драпежнік? Га?.. — закрычаў Янка. Арцыбіскуп глядзеў проста на яго і ледзь чутна мармытаў:

— Ego sum… pastor… bonus…[24]

— Няўжо жыў? — радасна закрычала, падбягаючы і хрысцячыся, незнаёмая бабка. — Хвала Пану Езусу. Хвала.

Янка са злосцю адштурхнуў бабку, не гледзячы дадолу, як мага ўдарыў арцыбіскупа сякерай па галаве і адразу рынуўся ўгрунь з дзядзінца да катэдры.

Ён бег у нейкім запаміне, нават і сам не ведаючы добра, што яму трэба ў катэдры. Нібы праз рось бачыў, як страчаны ім раней у натоўпе з вачэй Бутрым затрымаў яго на бабінцы і, ляснуўшы па плячы, казаў:

— Эх, братка, цэхмістра б цяпер нашага ўзяць у каллё? Паміраць тады не варта.

Бутрым пайшоў на вуліцу, а Янка выйшаў на сярэдзіну катэдры і, здзіўлены зруйнаваннем, спыніўся ля разадраных у шкумаццё чырвоных паратаў на падлозе.

Налева даўгяла-мешчанін сек у трэскі сякерай вобраз Шкаплернай Богамаці. Другі з нейкімі шалёнымі вачыма пабег у алтар і, схапіўшы з прастолу пакрыўку, моцна рвануў. Срэбны келіх, звінючы, пакаціўся па падлозе, і сакраманты разліліся па прыступках алтара. Зусім абудзіў Янку ад абыякавага запаміну моцны пад скляпеннямі катэдры, як выбух перуна, гук. Ён зірнуў назад і ўбачыў, што гэта разбіўся, упаўшы на падлогу, нядаўна прывезены манахамі-базыльянамі статуй святога Францішка, якога цяпер спіхнуў з пастаменту калом, шырока ўсміхаючыся, дзяцюк. Янка пайшоў назад да дзядзінца.

Там не было ўжо ні радцаў, ні лаўнікаў, ні цэхмістраў, толькі гармідарыла, як і раней, гарадская галота. Пасярэдзіне дзядзінца, побач з арцыбіскупам, на якога хтосьці паклаў забітага выжла, валяліся ў лужах крыві трупы знойдзеных манахаў. З піўніцы выкочвалі бонды з венгерскім і гішпанскім, яжэнбекам і пэрлюўкай, ангельскай гарэлкай і маскоўскім пеннікам. Спрытным ударам сякеры высаджвалі ў бондаў дно.

— Э-эй, братка! — заўважыўшы Янку, закрычаў мешчанін, што басанож з пачырванелымі ад золкага сіверу нагамі сядзеў верхам на бондзе.

---

[24] Я ёсць пастыр добры.

— Ідзі сюды да Піліпа Шапецькі. Памяні, міленькі, святога Язафата.

Калі Янка падышоў да яго, ён выцягнуў з-за пазухі срэбны кухаль.

— Пачынай, братка, даю раду, з яжэнбеку, — вельмі добрае пітво. Потым пераходзь да пенніку, а наогул усялякага патрошку. Усё гэта ж наша, усё гэта ж там'яншчына і чыншы. Вось таму я і без ботаў, што ў святога Язафата гішпанскае ёсць. І такога ж нябожчык быў святога жывата, што кагадзе бабка Міхасіха, як у кармалітаў цудоўная капліца на Пацавым Табары, слязой пацякла, і ледзь-ледзь толькі выштурхнуў яе за браму.

Незвычайны звон загвалтаваў раптам на дзядзінцы. Пасярэдзіне яго дзед, у якім спазнаў Яраша Катырлу, моцна біў дручком у мядніцу і крычаў:

— Паны схізматыкі, п'ем па душах змарлых і пачынаем вуніяцкую працэсію.

Дзед Яраш пайшоў, кульгаючы, з дзядзінца на вуліцу, трымаючы канец поўразу, другім канцом якога былі моцна разам звязаны арцыбіскуп і выжал. Натоўп адразу з смехам і гоманам рынуўся ад бондаў на вуліцу.

Уперадзе ішоў хлапец з задаволеным тварам і моцна біў дручком у мядніцу. Далей кульгаў дзед Яраш, цягнучы труп арцыбіскупа, і крычаў голасна:

— Там'яншчыну і чынш збірае пан арцыбіскуп! Там'яншчыну і чынш!

Побач з дзедам пачырванелая ад пэрлюўкі прыгожая маладзіца раптам, пагрукваючы стаптанымі мужчынскімі ботамі, заспявала:

Едзе п'яны з Рыму пан, пан,
пан,
Паважаны наш плябан,
плябан.

Невялікія хлопцы і дзяўчынкі швыргалі абледзянелымі камякамі гразі ў труп арцыбіскупа, і лысы, курмелісты дзядок з сівай, як у белуна, барадой, махаючы рукамі, шамкаў:

— Не чапайце выжла. Не чапайце, басалаі.

Адразу за трупам ішоў Піліп Шапецька, трымаючы ў аднэй руцэ панагію, а ў другой аброжку, і галосна гукаў:

— Кляйноды нябожчыкаў! Кляйноды нябожчыкаў.

Потым ён нечакана зарумзаў і, прыкладваючы да вачэй брудную анучу, ахрыплым басам загаласіў:

— Ой, дарагі арцыбіскуп наш. Ды на каго ж ты сваіх авечак спакінуў.

— Ха-ха-ха… О-хо-хо-хо… — рагаталі, хапаючыся за жываты, людзі, што вялікім натоўпам ішлі за трупам. — Мастак гэты Шапецька, толькі яму, а не паном езувітам, з батлейкай на Каляды хадзіць. Поўныя рукавіцы грошай назбіраеш. Эг-гэ-гэ-гэ!

Працэсія абышла ўвесь Узгорскі замак і звярнулася да катэдры. Некалькі мяшчан падняпі труп на аблом замкавай сцяны і шваргануці ўніз да Дзвіны, а там рыбакі прывязалі да яго вялікі камень і, трошкі падняўшыся на чоўнах уверх па рацэ, затапілі труп арцыбіскупа разам з выжлам на сярэдзіне.

Толькі праз тыдзень, калі прыехалі з Полацку разам з невялічкім аддзелам жаўнераў манахі-базыльяне і кармеліты, арцыбіскупа выцягнулі з Дзвіны і перанеслі ў будынак Прыказу Горнага замку.

Вакол апухлага трупа, збіраючыся ўжо везці яго ў Полацак, вохалі айцы-базыльяне, і невядома адкуль прыйшлі бабкі. Уперадзе іх праз слёзы апавядала бабка Міхасіха:

— На свае вочы бачыла на дзядзінцы, як забіў сякерай нашага пакутніка пана арцыбіскупа той малады, толькі ўчора яго бачыла, смерд. І адразу ж паганы забойца ўпаў на зямлю мёртвым і ўжо больш не падымаўся. Пакараў Пан Езус. А вакол галавы найсвяцейшага пана арцыбіскупа ззянне найшло адразу. І пераказаць вам не магу нават, якое дзіўнае ззянне. Вось як вяночак над святой Тэкляй. І белы галубок лётае. Так і трымціць крылцамі. Так і трымціць.

За Віцьбай у горадзе, як на могліцах вясковых апоўначы, было ціха.

## VI

Вялікай вагі гусакі[25], крывёй афарбаваны кайданы і бізуны ў катавальнях Жэчы Паспалітай, а таму часам уначы выры-

[25] Гусак — складанае з дзвёх палавінак бервяно з выразанаю дзіркаю для шыі.

валіся стогны з-за высокага плоту турмы Горнага замку. Яны пераляталі цераз замкавыя сцены і разам з гнанай валацужным сіверам гострай наземкай доўга несліся па снежных байданах Задзвіння над аголенымі палынамі і дзядоўнікамі.

Стогны нараджалі адказныя стогны ў халупах слабод і вёсак ваколіцы, а ў будынках Вялікае вуліцы, калі пачынала плакаць успалоханае дзіцянё, маці, схіляючыся над калыскаю, паўсонна напявала:

Гэта ж быдла крычыць,
Гэта ж быдла рычыць.
Засынай жа, засы-ынай.

Але за два месяцы ніводнага стогну не вырвалася пад бізунамі ў Янкі.

Ужо цераз некалькі дзён пасля забойства арцыбіскупа большасць радцаў і лаўнікаў разам з бурмістрамі ўцяклі з гораду, а калі Янка, не спатыкаючы нідзе Бутрыма, намерыўся ўцякаць на поўнач у Сеч і падышоў да Заручаўскае брамы, ён убачыў, што яна зачынена і мост над ровам узняты. Тады ён пайшоў хапатліва да Суражскае брамы і праз невялікі час праходзіў паўз жандараў, пакідаючы Узгорскі замак ззаду, а ўперадзе ўжо зіхацеў пад сонцам шырокі белы абшар, як раптам за плячыма закрычала дрынкатлівым голасам кабета:

— Трымайце… Гэта ён. Забойца арцыбіскупа.

Янка спалохана зірнуў назад і ўбачыў з вялікімі цяпер ад жаху вачыма бабку Міхасіху, якую штурхануў на дзядзінцы арцыбіскупскай хаты. Ён стрымгалоў рынуўся па шляху, але конны гусар аглушыў яго, збіўшы канём, і ачуньваўся Янка ўжо ў турме.

Тады сціснулі Янку жукавінамі кайданоў рукі і ногі, паклалі на шыю складаны з дзвюх палавін бервяна з выразам для шыі цяжкі гусак, і штодня жаўнеры, раззлаваныя ўпартым маўчаннем калодніка пад бізунамі, лупцавалі яго да непрытомнасці, абліваючы потым халоднай вадой. Толькі калі каралеўскі ўрадавец з Прыказу паклаў на іх адказнасць за жыццё да камісарскага суду аднаго з галоўных забойцаў пана арцыбіскупа, яны прыпынілі катаванне.

У адзін з першых дзён у турме адразу, як жаўнеры выйшлі з памяшкання калоднікаў, пачуў нечакана змардаваны Янка,

як хтосьці, звонячы кайданамі, падпаўзае да яго, і па голасе спазнаў Бутрыма.

— Спаткаліся ізноў, Янка? — спытаў Бутрым.

— Ці даўно ты тут?

— За тыдзень да цябе. Бачыў, які плеш за Аляксееўскім кляштарам на Вялікай вуліцы? Гэта я падпаліў будынак нашага цэхмістра ўначы апасля забойства душахвата. Пералез цераз плот на дзядзінец, падпёр дручкамі дзверы і расклаў такі агонь, што напэўна сёння яшчэ вугаллё гарачае. Сам цэхмістр выкінуўся паўголы праз вакно ды нейк зляку зламаў нагу і цяпер і ў труну пойдзе з мыліцай. Пан Бог адзначыў пошкудзь таўром. Уся худоба і дзіцянё ў яго згарэлі. Адным катам менш у будучыні будзе. Гадалася, што ніхто не бачыў, як я падпальваў, бо тады ж гвалт зрабіў бы, аж праз невялікі час вось у гэты палац пасадзілі. І судзіць будуць, патрабуе так цэхмістр, і за падпал, і за забойства папежніка. Плахі я не палохаюся, але хачу жыць, каб помсціцца яшчэ паном. Уцёк бы да Сагайдачнага.

— Чаго, братка, нябожчыка клічаш? Цябе цэхмістр і хоча адправіць да Сагайдачнага, — адгукнуўся стары казак, што знясілены за дзень ад цяжкой працы ляжаў на падлозе.

— А хіба ж ён памёр? — вырвалася разам у Янкі і Бутрыма.

— Ужо два гады ёсць. Дый дрэнна зрабіў, што раней не памёр. Сагайдачны заўжды з панамі ў згодзе жыў, бо прадаў ім Сеч і ласку ліцарскую за 20 тысяч злотых і 700 наставаў саету. Вось Налівайка — гэта быў добры бацька. Я сам валасцянік з-пад Слуцку і прылучыўся да казакоў у той час, як Налівайка зруйнаваў Слуцак, захапіў там багата гармат і рушыўся праз Магілеў да Сечы. Дык вось, калі пад Лубнамі Жалкіеўскі заціснуў нас сваімі жаўнерамі ў жукавіну і абяцаў казаком злітаванне, калі яны выдадуць уцекачоў, — казакі рашуча адмовіліся. Жаўнеры зрабілі тады на казацкі табар агульны прыступ, і толькі некалькі дзясяткаў нас прарваліся і ўцяклі на Сеч.

— Кажуць, што казакі ізноў ідуць на Літву, — падышоўшы да старога казака, сказаў Бутрым, але той ужо, пахропваючы, нічога не чуў.

Калісьці чырвоныя шаравары і сінія кунтушы казакоў ад вільгаці і зямлі зрабіліся чорнымі, калісьці заўжды голеныя падбародкі і галовы абраслі доўгімі валасамі, у якія ўплятала турма срэбныя ніці. Удзень яны калолі лёд на стаўках Віцьбы вакол замкаў, таму на шыі ў іх не было гусакоў, вольнымі

былі рукі, і толькі на нагах бразджалі кайданы. Ураніцы казакі выходзілі, і заставаўся ў куце толькі адзін малады казак.

Ад гострай тугі па волі і бацькаўшчыне, ад зверскага катавання ён звар'яцеў і то сядзеў, ні з кім не размаўляючы, на падлозе, то, як падбіты ў галаву коршак, пачынаў шалёна кружыцца па памяшканні, а потым як мага грукацеў у зачыненыя дзверы турмы. Тады ўрываліся жаўнеры і збівалі казака, пакуль ён са змярцвела белым тварам не грымнецца аб падлогу.

— У дурні толькі, недасека, шыецца. Працаваць, быдла, не хоча! — гарлалі жаўнеры.

— Чаго ты гармідарыш, братка? — спытаў яго раз Бутрым.

— Хіба ж не чуеш? — адказаў казак. — Доўбыш б'е ў літаўры. Чуеш? — і замардаваны гаротнік застыў на хвіліну ў імпэце, пільна прыслухоўваючыся. — Доўбыш б'е на раду. Чуеш? А яны не пускаюць з бурдзюгі[26], — казак ізноў грукацеў у дзверы.

Аднойчы, калі жаўнер, адчыніўшы дзверы, рынуўся на казака з бізуном, той, схапіўшы з падлогі гусак, забіў моцным ударам жаўнера, і праз тры дні пасля забойства казака павялі да ратушы на плаху. Чутно было, як ён смяяўся за дзвярыма, потым ужо ў пуцявіне заспяваў з свістам пад звон кайданоў, прытупваючы лапцямі:

Ой, сидить казак на стерні
Тай штаны латае,
Стерня його в тіло коле,
А він іі лае.

Янка застыў, прытуляючыся галавой да мокрай сцяны, дарэмна стараючыся быць спакойным. Ён закрываў далонямі вушы, каб не чулася казацкая песня, але дробна ляскалі зубы, і кроў, прыліваючы, закаглыгала ў вачох.

— Што зажурыўся? — сказаў, падыходзячы да Янкі, Піліп Шапецька, які яшчэ раней за Бутрыма апынуўся ў турме. І цяпер, узімку, ногі яго пад кайданамі былі абкручаны толькі анучамі, на плячох была латаная і дзіравая світка. Ён выглядаў, як шчупак, што выкінуты віхраслупам на ўзбярэжжа, — на залітым дробнымі пацеркамі халоднага поту твары блукалі несупакойна вочы, перасохлы рот быў заўжды разяўлены і сутаргава выціскаў словы праз сухія губы.

[26] Бурдзюга — зямлянка для зімавання ў Сечы.

— Зайздросціць трэба гэтаму казаку, бо ён, нічога не разумеючы, з усмешкай падыдзе да містара, а я ў поўным розуме. А як жыць, братка, хочацца. Як жыць хочацца. Ізноў галадаваць і хадзіць басанож — толькі б жыць. Я зайздрошчу выжлу, які зараз бяжыць па шляху куды вочы глядзяць, галодны, але затое вольны. Я зайздрошчу гругану, які будзе дзяўбсці нашу падлу. Няма ў іх на нагах і крыллях каралеўскіх бранзалетаў. А колькі шчэ прыйдзецца хвілін штодзень, штоноч мардавацца да суду, добра ведаючы, што ніякага ратунку няма, што ўсё роўна да плахі. І што будзе з маёй дзяўчынкай? Што толькі будзе?

Да вечара крочыў па памяшканні Піліп, хапаючыся часам за галаву, і трошкі павесялеў толькі калі казакі прынеслі з гораду радасную чутку — Сеч ідзе на Літву.

Сапраўды на другадзень у калоднікаў збілі з рук кайданы, знялі з плячэй гусакі і пагналі накочваць гарматы на Старасельскую і Швыкоўскую вежы Дальняга замку, якія заўжды пільна сачылі вачыма байніц на поўнач. Бразгаючы кайданамі, пад узмацаваным канвоем жаўнераў выйшлі калоднікі праз Цёмную браму з Горнага замку ў Дольны, і адразу спаткаў іх вялікі натоўп.

— Пілір, а Пілір! — гарлала, ідучы побач з жаўнерамі, спрытная маладзіца.

— Гэта мая жонка, — буркнуў Шапецька Янку.

— Пілір! — гвалтавала кабета. — Плюй заўжды гэтаму зброду з бізунамі ў вочы.

— Адыдзі, памыйніца паганая, — крыкнуў стары жаўнер кабеце.

— Га-а? — адазвалася кабета. — Ці не ты гэта, жмудзяк, у Налівайкі пад Слуцкам гарматы адабраў? Ну як жа, дзед, твае нагавіцы высахлі?

— Ха-ха-ха… Сказала як звязала, — зарагаталі ў натоўпе. Жаўнер рынуўся да кабеты, а тая, выпінаючы буйныя яблыкі грудзей, крычала:

— Бі кабету, харобры жаўнер! Бі!

— Бач, якая д'яблава баба, — мармытаў збянтэжаны стары жаўнер, апускаючы ўзняты бізун і ідучы да калоднікаў.

— Захаркай ім, Пілір, слінай агідныя твары, — гвалтавала ўсю пуцявіну непагамаваная кабета.

— Чаго гэта не відаць твайго бацькі? — спытаў Янка Бутрыма, калі яны ўжо падыходзілі да гармат.

— Ляжыць хворы, — адказаў Бутрым, — старасць яго выратавала ад турмы, толькі збілі яго так, што, напэўна, не ачуняе.

Пачалі накочваць на паверхі вежаў даўгімі поўразамі цяжкія гарматы; знясіленых калоднікаў, што падалі на слізкім рыштаванні, жаўнеры падымалі бізунамі, і з кожным ударам бізуна вохаў разам з калоднікамі натоўп. Цэлы дзень сачылі пільна калоднікі праз байніцы, ці не рушыцца ўжо на замкі імпэтнай снежнай завірухай, з гойканнем, прыпадаючы на кульбаках да спін коней, Сеч, але бязлюдныя і нямыя былі белыя абшары.

Калі ўжо збіраліся адыходзіць, Піліп Шапецька падышоў да краю сцяны, узмахнуў рукамі і з дзікім крыкам паляцеў уніз. Калоднікі рынуліся да аблому і ўбачылі ўнізе Піліпа. Ён ляжаў з патрушчанай аб падмурак сцяны галавой, чырвонымі і палевымі кроплямі крыві і мазгоў апырскала вакол чысты снег, а па нагах ад удару разбіліся ржавыя жукавіны кайданоў. Частка жаўнераў пабегла праз браму да трупа, другая бізунамі адагнала калоднікаў ад аблому і павяла ў турму.

Ізноў пацягнуліся ланцугом адзін да аднаго падобныя ў турме дні, а Сеч не ішла. Аднойчы застагналі замкі сотнямі падкоў, але ўвечары казакі паведамілі, што гэта разам з самім гетманам Сапегам прыехаў камісарскі суд, з ім шмат конных гусараў.

— Гэта добра, вельмі добра, — казаў калоднікам адзін з нялічных радцаў і лаўнікаў, што не паспелі ў час уцячы і цяпер сядзелі ў турме. — Добра, калі Сапега. Ён сам не з ляхаў, а з нашых, з русінаў. Толькі зусім нядаўна перакінуўся на бок ляхаў.

Праз некалькі дзён калоднікаў павялі на суд, яны ўбачылі там гетмана з русінаў, з панурым тварам, што штосьці хаваў. Яны ўскладалі на яго вялікія надзеі, але праз тры дні чытаў галасна ўрадавец прысуд:

> «…пакараць шыяй 103 чалавекі з адабраннем усёй іх маёмасці ў дзяржаўны скарб, пазбавіць горад магдэбургскага права і ўсіх наданых раней каралеўскіх прывілеяў, зруйнаваць ратушу, разбіць вечавы звон, у які першы пачалі біць на гвалт, і з асклепкаў адлітаваць для катэдры новы звон з напісам аб блюзнерскім забойстве вялебнага айца светаблівае памяці арцыбіскупа Язафата».

Праз тыдзень ураніцы загаласіў самы вялікі звон зачыненай цяпер да асвячэння катэдры па душах змарлых. Званар біў ва-

гам з доўгімі перапынкамі, і ўжо заміраў першы гук, калі са званіцы вылятаў другі. Загутарылі званіцы і іншых цэркваў.

З турмы вывелі жаўнеры злучаных агульным ланцугом сямнаццаць калоднікаў і павялі па Вялікай вуліцы да ратушы ва Ўзгорскі замак. Побач беглі, енчачы, кабеты, падымаючы на руках дзяцей, і калоднікі абедзвюма скаванымі разам рукамі жагналі іх. Янка і Бутрым ішлі поплеч і, ужо падымаючыся ад Краснага моста, убачылі плаху каля ратушы, што, разбураная цяпер цеслярамі, была ўжо без вышкі. Каля плахі вісеў зняты вечавы звон, і ля яго стаяў, трымаючы ў руцэ сякеру, рослы каралеўскі містар. А вакол плахі на пляцы быў вялікі, сагнаны па загадзе пана гетмана натоўп.

Янку, як галоўнаму злачынцу, сціналі галаву апошняму. Містар разбіў у яго кайданы на руках і нагах. Янка шырока перахрысціўся і зірнуў на натоўп. Раптам нейкая рось у вачох засціла пляц, і ён убачыў толькі збялелага, як шэрань, дзеда Яраша Катырлу і недалёка ад дзеда бабку Міхасіху, што спачувальна глядзела на калодніка, ківаючы падпёртай далонню галавой. Янка нізка дадолу скланіўся натоўпу і крыкнуў:

— Не ўспамінайце дрэнна, браткі.

Потым глыбокім уздыхам хацеў захапіць у апошні раз больш паветра, але востры боль апаліў грудзі, нібы некалькі каршакоў з цяжкім клёкатам уцупіліся ў іх кіпцюрамі, і тады ён, махнуўшы рукой, цвёрдымі крокамі падышоў да плахі.

Калі сціналі галаву Бутрыму, раптам збялелы дзед Яраш стаяў нерухома, як стары літоўскі дроб на варце, але калі містар падышоў да вечавога звону і высока ўзняў над ім кавальны молат, дзед рынуўся з натоўпу і штурхануў узнятую руку. Молат з дзілінканнем слізгануў па звоне.

— Адыдзі, выпса! — загарлаў раз’юшана містар.

Некалькі жаўнераў падбеглі да дзеда.

— А-а-а-а-а… — загаласіў дзед і, затуляючы далонямі вушы, рынуўся ўгрунь ад плахі. Адразу ж спатыкнуўся мыліцай за сцяты труп. Зірнуўшы дадолу, па вопратцы спазнаў сына і, самлеўшы, зваліўся на труп.

У гэты момант спрытным ударам молата містар разбіў стары звон, і апошні роспачлівы заклік паляцеў і да долу над самай зямлёй і да гары, дзе пад шэрым зімнім небам ужо кружыліся, адчуваючы ежу, груганы.

# ЛШОНО ГАБОО БІЙРУШАЛАЙМ

З гулам гарматным, з звонам кляшторным знікла ў гістарычных, спавітых смугою замсты аддалях крывавае сярэднявечча Рэчы Паспалітай. Дзе штурвал, які верне магнатам іх юнацкія гады? Дзе волат, які прымусіць Дзвіну і Нёман спыніць плынь?

Перагортвае час пажоўклыя старонкі летапісаў:

**XVI век,**

**XVII век,**

**XVIII век,**

**XIX век.**

Знішчае час нікчэмныя помнікі мінулага. І ў крушнях за Грайронкам замак каралевы Боны, і надзела Вітава Магіла набакір маёвую шапку кучаравых дубоў, і пахіснуліся муры кармаліцкага кляштару з абамшэлымі званіцамі касцёлу Марыі Магдалены.

Аб крушнях на вуліцах Грайронку апавядалі недарэчныя рэчы. Казалі, што ў цёмныя кастрычнікавыя ночы блішчэла ў вокнах замку святло бра і жырандоль, чуліся да самага досвітку ціхія, але выразныя гукі паланэзаў. Казалі, што часамі каралева Бона ў белай вопратцы праходзіла замкавым мурам ад капліцы да вежы, а той, хто яе бачыў, неўзабаве паміраў. І ў кірунках сваіх не толькі безуважны шлях, але нават і дапытлівыя сцежкі далёка абміналі крушні. Таму сёння так і крычалі турчыкі, якія знайшлі сабе прытулак у шчылінах муроў, бо заўважылі незнаёмага чалавека, што ўздымаўся ад поймы да замкавай брамы.

Стась не спяшаўся нікуды і крочыў спакойна, часам схіляючыся над кветкамі і зеллем. Ён здаваўся зусім падлеткам без зморшчак на бязвусым, з тонкімі рысамі твары. Была на ім студэнцкая, паліняла пад сонцам шапка і студэнцкая, з бліскучымі гузікамі куртка, накінутая на гафтаваную, з расхлістаным каўняром кашулю.

— Будзе некалі дзень, і Троя святая загіне.
Старадаўні загіне Прыам і народ дзіданосца Прыама…

— усплыло ў Стасевай памяці, калі, прайшоўшы праз браму з капліцай, спыніўся пасярод шырокага, цэглай і друзам заваленага замкавага дзядзінца. Вакол высіліся, нават і ў напалову знішчаным выглядзе, велічэзныя муры. Ад палацаў засталіся груды смецця, і толькі добра захаваліся высокія кутавыя, з амбразурамі вежы. Праз брук дзе-ндзе прабілася, пасцілаючыся долу, шыпшына, нібы жадаючы дзідамі захаваць крушні ад канчатковага знішчэння, чамярыца цёмна-чырвонымі кветкамі, нібы крывёй, апырсквала муры, бражджэліна, хістаючыся пад вецярком, прывітала сваімі да кардынальскіх шапак падобнымі пладамі. Ніводнага чалавечага гуку не чутна, толькі на самым версе вежы ляскатаў ля свайго гнязда бацян, толькі лямантавалі ўстурбавана зурчыкі, толькі зялёныя яшчаркі мітусіліся між камення.

— Бона! Каралева Бона! — вырвалася мімаволі ў Стася, і адразу ж ён уздрыгнуў, пачуўшы чалавечыя крокі. Ад дзвярэй капліцы ішоў юнак у бруднай вопратцы, праз прапаленыя дзіркі якой была відаць за пазухай невялікая кніга. Глыбокая зморшчка ў пераноссі накладала адбітак суровасці на яго няроўна вугалем афарбаваны твар. Падышоўшы да Стася, юнак зняважліва казаў:

— Э-эх, апошні рыцар Белай Ружы. Клікаў каралеву Бону, а выйшаў каваль Янкель. Дзень добры, Стах!

— Дзень добры! — адказаў Стась, спазнаўшы сябра свайго маленства Янкеля Мойжаса. — Не чакаў я цябе тут спаткаць. Як маецеся?

— Добра, як у Струні. Ёсць такая турма пад Полацкам — Струня. У гімназію мяне, як ты ведаеш, не прынялі, хоць я вытрымаў усе экзамены на пяцёркі. Не прынялі таму, што ўжо набралі дазволеныя ўрадам чатыры працанты яўрэяў. Сын Баранбаўма, мы разам паступалі, ледзь-ледзь толькі вытрымаў экзамены. На пытанне па геаграфіі — які самы вялікі горад Расеі? — адказаў: Янавічы. Але яго прынялі, і цяпер ён перайшоў ужо ў пятую класу, бо бацька яго Баранбаўм — купец другой гільдыі, даў дырэктару хабар. Цяпер я каваль, мушу амаль што лёгкай працай здабываць хлеб, і часамі, калі ад поту кашуля стане корабам, такая злосць агорне, што, здаецца, узяў бы молат і пайшоў бы біць усе сінія шынялі, пачынаю-

чы ад сына Баранбаўма, усіх з цэшкамі і капелюшамі. Бывай! Трэба ў кузню, — і Янкель, рэзка скончыўшы гутарку, таксама рэзка знік.

— Памяць калішніх гаспадароў замку, — думалася Стасю, калі, выйшаўшы праз браму, ён спускаўся з гары, — захоўвалі медзь і мосенж помнікаў на пляцах вялікіх гарадоў, а тло тых, хто будаваў і вартаваў замкі, даўно ўжо разнеслі золкія вятры з курганоў на поўнач і поўдзень, захад і ўсход, гноячы глебу краіны для наступных пакаленняў. І што чакае маё пакаленне? Што чакае пакаленне Станіслава Галькевіча і Янкеля Мойжаса? Што?

Ён спусціўся ўніз і адразу ж пачаў падымацца па сцежцы на Вітаву Магілу, якая была насупроць замку. Вітава Магіла была такім вялікім курганом, што здавалася на першы погляд звычайным узвышшам, але ў Грайронку злучалі яе паходжанне з князем Вітаўтам. Казалі, што насыпалі курган шапкамі сваімі дробы над срэбнай труной з астанкамі забітага князя, і ўпарта не давалі веры апавяданням адпускных салдат, нібы пахаваны Вітаўт у Вільні. Сцежка выгіналася каля вялікіх дубоў, і калі Стась падняўся на ўзгорак, на якім дубы расступіліся палянай, убачыў зноў прыгожы, з маленства да дробязяў знаёмы малюнак.

Збоку бегла безупынку, знікаючы паступова ў смугой засланай лясістай аблоні, Дзвіна, а проста перад вачыма ляжаў рассыпанай жменяй бобу на стромкім узбярэжжы ракі і звілістай рэчкі Грайронкі павятовы, больш да мястэчка падобны, гарадок Грайронак. Над гарадком панавала пасярэдзіне рынку вежа ратушы з вялікім гадзіннікам, стрэлкі якога ўжо даўно застыглі ў нерухомасці. Побач з шэрым будынкам дзяржаўных устаноў відаць былі пяць пазлацаных цыбулін катэдры Святога Духа. Наводшыбе маячылі крыжы на кумпалах касцёлу Марыі Магдалены і спічастыя шпілі капліц кармаліцкага кляштару. Падкрэслівалі ўбоства жыхарскіх хат двухпавярховыя з высокімі дахамі сінагогі. І веяла ад Грайронку на першы погляд хваравітай, без мар і празораў, дрымлівасцю. Гэта ўражанне яшчэ больш паглыбілася, калі, сышоўшы з Вітавай Магілы, Стась, ідучы да рынку, параўняўся з брамай яўрэйскіх могліц.

Могліцы з заўсёднай гутаркай сумных каравых хвой, з крывабокімі, шматлікімі, ад дажджоў паліняцымі помнікамі выглядвалі хмура, і пад брамай вісеў на старажытнаяўрэйскай, сучаснаяўрэйскай і расейскай мовах надпіс:

«Так говоритъ Господь Богъ: вотъ Я открою гробы вашы и выведу васъ народъ Мой изъ гробовъ вашихъ и введу васъ въ землю Израилеву».

**(Iезекiиль, XXXVII, 12)**

А за могліцамі пачыналася ўжо шырокая, небрукаваная, з драўлянымі ходнікамі Духаўская вуліца, і шыльда на першай хаце сведчыла, што гаспадар яе — шавец, на сумежнай — што кравец. І шыльдаў было так багата, нібы жылі ў Грайронку толькі, сышоўшыся з усёй краіны, адны шаўцы і краўцы.

Вось курмелісты яўрэй нясе ваду, і Стась адразу пазнаў ваданошу Герцыка Віфэл Азэйгэр. Як памятаў сябе Стась, так памятаў на вуліцах Грайронку дзеда-ваданошу, што ўсё сваё жыццё цягаў ваду, і калі б усю тую ваду, якую ён перацягаў, зліць назад — красавіковай паводкай ішла б Дзвіна на поймы. Гадзіннік на вежы ратушы даўно спыніўся, дый нашто ён наогул, казалі ў Грайронку, нашто дакладна ведаць час у гарадку, дзе ніхто нікуды не спяшаецца, ад якога да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі каля ста вёрст, тым больш што гулкі звон гадзінніка будзіў бы ўначы тых, хто жыў бліжэй да ратушы. Час ведалі па ранішнім гвалце пеўняў, па руху сонца і зор, а калі ўжо трэ’ было ведаць час асабліва дакладна, тады спынялі на вуліцы Герцыка і пыталі:

— Герцык, віфэл азэйгэр?[27]

І Герцык ветліва адказваў, паказваючы яшчэ і па пальцах. Як Герцык пазнаваў час — заставалася для ўсіх таямніцай, але адказ быў дакладны, амаль да хвіліны. Хто, апрача падатковага чыноўніка, цікавіўся прозвішчам капцэна?[28] Таму і пачалі заўсёды клікаць старога ваданошу — тым больш што ён ніколі на гэта не крыўдзіўся, — Гэрцык Віфэл Азэйгэр.

— Як маецца Герцык? — спытаў Стась, калі параўняўся з ваданошам. Пра здароўе Герцыка ні ў кога галава не балела, таму ён ад неспадзяванкі, як звычайна, адказаў:

— Цэен азэйгэр[29].

Потым, углядаючыся ў Стася, прыветна адшапкаваў:

— Добры дзень, пан Станіслаў. Лепш за ўсіх маецца. Мусіць, учора з Эел-Бэрам прыехалі?

[27] Колькі часу? (*ідыш*).

[28] Бядак (*ідыш*).

[29] Дзесяць гадзін (*ідыш*).

— Учора. А ты, Герцык, усё за ваданошу? Пэўна, і параход толькі таму да парогаў даходзіць, што ты ўсю ваду з Дзвіны перацягаў.

— Хэ-хэ-хэ. Вады на наш век хопіць. А нашто той параход, пан Станіслаў? Нашто? Калі ёсць балаголы: Шлёма, Эел-Бэр і Бэня Ша. Параход адбірае ў іх хлеб. Што будзе рабіць цёця Пэся-Брайна, калі ў Дубравіцах згарыць запалкавая фабрыка? Што будзе рабіць Хаця Камар, калі ў яго трэсне барабан? Але, да пабачэння!

І Герцык, яшчэ раз ветліва адшапкаваўшы, пайшоў, хістаючыся, далей.

На Духаўскай вуліцы заўважыў Стась балагола Эел-Бэра, які шпацыраваў, шукаючы пасажыраў да Віцебску. Нібы з аднэй сталёвай балванкі адлітавалі балагола разам з магутнымі рукамі, што прымусілі мускуламі сваімі трэснуць па шве рукаў вопраткі, разам з магутнымі нагамі, што прымусілі трэснуць па шве халявы вялікіх ботаў, але неяк дзіўна ішоў ён — увабраўшы галаву ў плечы, ледзь-ледзь грукаў па бруку, а па твары блукала вінаватая і палахлівая ўсмешка.

Учора ўсю дарогу Эел-Бэр маўчаў, і толькі калі даехаў да моста праз раку Касплю, раптам, звярнуўшыся да свайго пасажыра, сказаў:

— А вось тут, пан Станіслаў, я згубіў калісьці чатыры зубы. Ехаў я тады з Грайронку ў Віцебск, і толькі трапіў з аднаго боку на мост, як бачу — з другога боку на мост уз’ехаў конны вураднік, а за ім шасцерыком архірэйская карэта. Спяшаўся архірэй у Грайронак на фэст, а я сваёю будаю загарадзіў дарогу карэце: і ўбок — толькі за парэнчы збочыць, і назад — не адразу асадзіць можна. Пакуль я адцягваў коней, пачырванелы ад злосці, як бурак, вураднік даў мне навотлю так, што чатыры зубы да Касплі і паляцелі. Абмыўся я крывёю, а архірэй, праязджаючы паўз буду, як цяпер бачу, пажагнаў мяне. Цяжка жыць, і я часамі нават пачынаю баяцца людзей. Тыдзень таму майго сына Ічэ збіў зусім гімназіст — сын пратапопа Фаворскага. Збіў толькі за тое, што ён — сын жыда. А хто такі жыд? Га? Іншы конь менш працуе, як іншы жыд. І ўсё ж я, пан Станіслаў, люблю гэту краіну, і калі б мне параілі пераехаць у Ханаан, я ніколі не паеду. Я люблю і Віцебск, і Грайронак, і Дзвіну, і гэты шлях. Гэта мая бацькаўшчына, і чаму людзі кажуць, што я чужынец, калі мой прадзед Лейба Гарэлік, таксама балагол, пахаваны на могліцах у Грайронку, калі ўсё вакол мне знаёма ад калыскі? Чаму?

Сёння дзень не гандлёвы, і таму народу на рынку небагата, але падыходзіла свята кучак, і дзверы ўсіх крам адчынены на дзве палавінкі. Добра гандлявалі мясныя і рыбныя яткі, бо свята — не свята, калі ў хаце няма фіш[30] і флэйша[31]. Добра гандлявалі і сяляне, што прывезлі патрэбнае для намётаў яловае галлё. Ля ратушы заўважыў Стась Пэсю-Брайну. Яна сядзела ў сваёй шафцы і час ад часу гукала:

— А вось запалкі, агорткі, гузікі, куханы! А вось запалкі!

На століку ляжала некалькі скрыначак запалак, дзясятак куханаў, тузін агортак, тузін гузікаў і тры люстэркі.

— Падтрымайце, пане Галькевіч, гандаль! — закрычала яна, заўважыўшы Стася.

Купіўшы некалькі агортак, Стась пайшоў далей і спыніўся ля вялікай крамы, што некалькімі дзвярмі выходзіла на вуліцу. Над ёю была шыльда:

**УНИВЕРСАЛЬНЫЙ МАГАЗИНЪ**
**С. С. БАРАНБАУМА**

Фабрика тетрадей и переплётная мастерская

Отдѣлы:

| | |
|---|---|
| Книжный | Галантерейный |
| Нотный | Оптическій |
| Музыкальный | Парфюмерный |
| Писчебумажный | Табачный |

**Оптово-розничная продажа.**
**Цѣны внѣ конкуренціи.**

Баранбаўм належаў да ногідаў[32], і калі ён ішоў вуліцаю, шайвецы[33] і капцэны, згінаючыся ў крук, шапкавалі, а стары гарадавы Скрабка, які штомесяц атрымоўваў ад Баранбаўма новенькую трохрублёвую асігнацыю, яшчэ здалёк борзда браў пад казырок.

— Усё ўгару падымаецца, — думалася Стасю. — Два гады таму не было тытунёвага і аптычнага аддзяленняў.

[30] Рыба (*ідыш*).
[31] Мяса (*ідыш*).
[32] Багатыр *(стараяўр.)*.
[33] Саматужнік *(стараяўр.)*.

Ён намерыўся зайсці ў краму, тым больш што заўважыў праз акно твар нібы знаёмай дзяўчыны, але раптам зычны голас прымусіў яго абярнуцца, і ён убачыў старога знаёмага Хацю Камара. Цяжка было сказаць, глянуўшы, колькі Хацю гадоў, — пэўна, каля трыццаці. Ён быў рослы і такі хударлявы, што заўсёды абшмульганая і лапленая вопратка сядзела на ім, як на гародным пудзілу. Хадзіў вельмі хуткаю хадою, размахваючы нязграбна рукамі і высока задзіраючы твар, з вострым доўгім носам — здавалася тады здалёк, што па вуліцы ляціць нейкі невядомы дзіўны птах. Гаварыў аднастайнай скорагаворкай і заўсёды ў час гаворкі пераходзіў на больш высокую ці нізкую ноту, так што ў некалькіх кроках толькі чулася:

**— Зу-зу-зу,**
**за-за-за,**
**зэ-зэ-зэ.**

І адгэтуль атрымаў Хаця Камар ліпучую, як мэляс, мянушку. Як усе калбейнікі[34], кім ён толькі не быў — і барабаншчыкам тутэйшага аркестру, і выпадковым бахтаном[35], і нават, калі Скрабка знаходзіў на пляцы здохлага сабаку, ён прапанаваў Хацю за кухан завалачы яго за горад, і Хаця валок. Цяпер Хаця Камар расклейваў вялікія сінія афішы; вакол аднае ўжо збіраўся гурток чытачоў. Літары афішы паведамлялі:

**Гастроль XX вѣкъ. Проѣздомъ**
**Сынъ запада, постигшiй тайну науки**
**индiйскихъ iоговъ**

**АДОЛЬФ АНТЪ-АРРО**

Демонстрируетъ сеансъ гипноза.
Усыпленiе желающихъ изъ публики
и превращенiе въ животныхъ и птицъ.
Новейшiя достиженiя, агнестезiи, аленезiи,
анемозiи и анельгезiи.

**Зданiе Земской Управы**
**Начало въ 6 часовъ вечера**

С разрашэня гаспадына прыстава дазволивъ
старшы гарадавой Скрабка.

---

34 Чалавек паветра, Luftmensch *(яўр.)*.

35 Жартаўнік на яўрэйскім вяселлі *(яўр.)*.

Стасю хацелася пагаварыць з Хацем, але Хаця, не заўважыўшы яго, ужо рушыўся амаль што бягом далей і зычна крычаў:

— Спяшайцеся, яўрэі, бачыць Адольфа Яне Гару! Спяшайцеся, яўрэі!

Стась пайшоў з рынку проста дахаты. Неўпрыцям апынуўся ля абгрызеных часам муроў кармаліцкага кляштару і праз браму падышоў да касцёлу Марыі Магдалены. Дзверы касцёлу былі адчынены, і над дзвярыма зверх надпісу: Tu es lulius Dei, Tu es Rex Israel[36] — схіліўся вялізны круцыфікс. Падняўшыся па сходах, Стась спыніўся ля вобразу Вастрабрамскай Богамаці.

Пад гэтым вобразам дзевятнаццаць гадоў таму знайшлі дзіцянё з прышпіленай да коўдрачкі паперкай:

> «Шляхціц Станіслаў Галькевіч. Людзі добрыя, дзеля Пана Езуса, не дакарайце. Нельга інакш. Хай Маці Боская пільнуе маё дзіцянё.
>
> Маці».

Ксёндз Еранім Вайноўскі выгадаваў Стася, даў яму магчымасць скончыць гімназію, а цяпер — вучыцца ва ўніверсітэце. Пан Еранім паходзіў з арыстакратычнай польскай фаміліі і жыццёвую кар’еру пачаў афіцэрам лейб-гвардыі, а потым, нечакана для сваіх сяброў, змяніў шпоры і ківер на сутану і ружанец. Дзіцянё прытуліў ён таму, што яно было шляхецкім і даручана Вастрабрамскай Богамаці. Глухі сум па маці адчуваў з маленства Стась, аб ёй ён ведаў толькі тое, што ў тую ноч, калі яго знайшлі, праз Грайронак праязджалі дзве вельмі добра апранутыя жанчыны, і адна з іх на заезным двары амаль што наўзрыд увесь час плакала. Калі Стась падрос, пайшоў на заезны двор, але там быў ужо новы гаспадар, які нічога не ведаў пра тую жанчыну. Потым пан Еранім, з мэтай дасведчыць шляхецкае паходжанне Стася, звярнуўся з просьбай да арцыбіскупа, каб ксяндзы дыяцэзіі зрабілі даведкі ў метрычных кнігах касцёлаў. Неўзабаве адзін з ксяндзоў сумежнай губерні, дасылаючы метрычны выпіс, паведаміў пана Ераніма, што ў тым годзе, калі было знойдзена ў касцёле Марыі Магдалены дзіцянё, у яго значыцца — Станіслаў Казіміравіч Галькевіч. Бацькі — шляхціцы, буйныя землеўласнікі, але яны, прадаўшы маёнтак, даўно выехалі з губерні невядома куды. І маці пачаў сабе Стась уяўляць у выглядзе Богамаці, перад вобразам

[36] Ты ёсць Сын Боскі, Ты ёсць Цар Ізраільскі *(лац.)*.

якой яго знайшлі. Ужо ў апошніх класах гімназіі ён зразумеў хісткасць рэлігійных падстаў, але з маленства моцныя ніці злучалі яго з касцёлам Марыі Магдалены, з вобразам Вастрабрамскай Богамаці, з ксяндзом Еранімам Вайноўскім.

Выйшаўшы, Стась у нейкім забыцці прайшоў праз цвінтар да ледзь бачнай у зяляніне дрэў хаты ксяндза з кветнікам перад вокнамі. У нейкім забыцці, нават не адказаўшы на ветлівае прывітанне панны Малгажаты, на руках якой выгадаваўся, прайшоў у пакой айца Ераніма і пачаў нервова крочыць з кута ў кут. Усё вакол знаёма змалку — кніжныя з шклянымі дзверцамі шафы, пісьмовы стол, вальтэраўскія крэслы, масянжовае ўкрыжаванне, партрэт папежа Пія IX, сутана і капялюш на почапках. Неўпрыцям у пакой увайшоў ксёндз.

— Я, Стась, і не чуў, як ты раніцой выйшаў з хаты. Напэўна, ужо ўсюды ў Грайронку пабываў?

— Амаль што ўсюды, пан Еранім, і агульнае ўражанне — гарадок у летаргічным сне. Нельга намацаць пульс.

— Мінучы сон. Гісторыя — гэта прыплывы і адплывы культур. Яшчэ прыйдзе рэнесанс Рэчы Паспалітай, бо

Nigdy Polska nie stanie się Rosją,
Tego nigdy nie będzie! Nigdy!

Вялізны зрух ускалыхне ўсю краіну. Зашамацяць на яе шляхох зноў сутанамі жаўнеры Пана Езуса, рыцары Ватыкану, і ты тады не пазнаеш Грайронку.

Ксёндз, гаворачы, нават пастукваў кулаком па стале, нібы жадаў падкрэсліць тое, што казаў. Але Стась заўважыў:

— Якая ж гэта Польшча, пан Еранім? У Грайронку жывуць выключна яўрэі, вакол у вёсках — выключна беларусы, а палякі — вы, я, панна Малгажата, арганісты, сухотны аптэкар ды дзясяткі са тры шляхціцаў у павеце. Я больш як самога сябе люблю маці-Польшчу, але няма ў мяне сталай веры ў яе рэстаўрацыю.

— Больш шляхціцаў і не трэба, бо іх роля панаваць, бо шляхціц на загродзе роўны ваяводзе. Беларусы — гэта ўчорашнія без пяці хвілін палякі, і з дапамогаю вуніі яны канчаткова перакінуцца з беларусаў у чорнапалякаў, у палякаў другога гатунку, для чорнай працы. Роля ж яўрэяў — дробны гандаль і саматужніцтва. Кожны чалавек мае выконваць прызначаную яму небам працу. Місія ксяндза Ераніма Вайноўскага —

каланізаваць беларусаў. Місія Хаці Камара — біць у барабан. Місія Герцыка Віфэл Азэйгэр — цягаць ваду. Місія Мэера Мойжаса — шыць сутаны.

Калі пан Еранім памянуў Мэера Мойжаса, Стась увесь страпянуўся і нават адчуў, што пачынае чырванець.

«Гэта яе я сёння бачыў праз вакно Баранбаўмавага магазіну, — заварушылася ў думках. — Блюму Мойжас, дачку старога Мэера. І як я толькі не спытаў у Янкеля пра сястру?»

Пан Еранім яшчэ штосьці палка даводзіў, але Стасю здавалася, што гаманіў ён дзесьці ў сумежным пакоі. Проста перад ім усплыла да дзіўнасці знаёмая дзяўчына з вялікімі чорнымі вачыма на смуглым каларытным твары, з тужлівай рыскай у кутках поўных, прыгожа выгнутых губ, з грудным цёплым смехам. І Стась адчуў, што пачуццё суму пачынае прытупляцца і паступова знікае, як сівы ранішні туман над Дзвіною пад матчынымі праменнямі сонца.

Удзень было душна, і ўвечары цяжкія хмары зацягнулі шэрую гадзіну. Як зачараваныя стаялі дубы, спыніла гутарку срэбралісце стромкіх таполяў, застылі беланогія бярозы, ледзьледзь толькі чутна трымцелі асіны. І раптам блакітная бліскавіца разадрала хмары, і раптам завыў у галлі дрэў буй-вецер. Усю ноч навылет, нібы магніем, асвятлялі бліскавіцы Грайронак, усю ноч навылет грымеў гром і бушавала заціснутая ў каменні Грайронка, усю ноч навылет па абодвух узбярэжжах рэчкі сачылі з захапленнем за карманьёлай бліскавіц праз вокны — з хаты ксяндза і з хаты краўца — два юнакі.

Перад вачыма Стася імклівілі на ўсход харугва за харугвай вусатыя рэйтары і каронныя ўланы, спяшаліся спавітыя арыфламай папежа босыя капуцыны і фарсістыя кармаліты. І бачылася, як устаюць з-пад курганоў дзеці Пандара і Дрвенцы, Наровы і Ніды, і чулася, як кліча сыноў сваіх сівы Будрыс.

Перад вачыма Янкеля гармідарылі, прымусіўшы замерці ўсё вакол, вялізарныя сілы, сугучныя кірунку думак ад кагадзе прачытанай кнігі, і штохвіліну выбухі святла заганялі да кутоў пакоя шкумаццём густую цемру, асвятляючы старонку раскрытай кнігі:

> «Призракъ бродитъ по Европѣ, призракъ коммунизма. Для священной травли этого призрака соединились всѣ силы старой Европы — папа и царь, Меттернихъ и Гизо, французскіе радикалы и нѣмецкіе полицейскіе».

## II

Падчас гучнага вяселля тутэйшага цырульніка ў Зацвілішках, калі Хаця Камар ужо выкарыстаў усю сваю невялічкую скарбніцу вострых жартаў і мілагучных вершаў, у яго натхнёнай адчуваннем незвычайнай сытасці галаве нарадзілася думка:

— Трапіўшы ў Віцебск, не заўважыць пана губернатара — гэта тое ж самае, што, трапіўшы ў Грайронак, не заўважыць шаўца.

— Гэ-гэ-гэ! Хі-хі-хі! А-га-га-га! — зарагаталі госці, якія толькі кагадзе пачыналі сварыцца, чыя жонка прыгажэйшая і хто атрымаў за ёю большы пасаг.

А праз тыдзень, адшукаўшы здрадніцкую крыніцу, чырванатвары, з доўгімі вусамі Скрабка даводзіў Хацю ў цёмным катуху паліцэйскай управы, якое бяздонне між губернатарам з Віцебску і шаўцом з Грайронку.

— Пан губернатар, гніда, перад вачыма цара — тое ж самае, што, чатыры збоку, старшы гарадавы Скрабка перад вачыма пана прыстава, — гарлапаніў гарадавы, грукаючы сябе кулаком у грудзі, на якіх матляўся медаль у гонар каранацыі Мікалая Другога. — Я — пан Скрабка, гніда, ёсць правая рука пана прystава, а шавец — гэта, чатыры збоку, ёсць вось што. Вось што!

І Скрабка як мага ўдарыў Хацю кулаком па твары. Ударыў другі раз, трэці, і Хаця з залітым крывёю тварам стаяў нерухома, дрыжачы ўсім целам, а калі паслізнуўся і ўпаў на вільготную падлогу, гарадавы біў яго наском вялікага бота пад рэбры.

Праз два дні Хаця Камар выйшаў, хістаючыся, з катуха і пайшоў па вуліцы незвычайна для сябе ціхаю хадою. Разадраная вопратка, апухлыя вусны і нос, сінія крывяпадцёкі, праз якія ледзь толькі відны былі вочы, — сведчылі, што Хаця Камар грунтоўна азнаёміўся з канстытуцыяй Расейскай імперыі, але дасціпны афарызм пачаў разам з крыклівымі балаголамі вандраваць па мястэчках Наддзвіння, выклікаючы на стомленых тварах схіленых над варштатам людзей усмешкі і шчыры смех. Смяяліся таму, што тыя нагавіцы, у якіх пан губернатар з Віцебску прымаў у каранацыйныя дні парад, каштавалі больш за ўсю рухомую і нерухомую маёмасць шаўцоў з Грайронку, смяяліся таму, што востры жарт яўрэйскага калбейніка сцягваў пана губернатара з пастаменту, на які ён быў пастаўлены ўрадам, смяяліся і таму, што, сапраўды, ад большай часткі тубыльцаў Грайронку пахла скураю і шавецкаю смалою.

Згрыбелыя хаты вуліц гораду аздаблялі шыльды. Прыгожа намаляваныя боты са шпорамі на шыльдзе казалі без літар кожнаму пісьменнаму і непісьменнаму, незалежна ад нацыянальнасці, роду і ўзросту, што тут працуе шавец. Прыгожа намалёваны чыноўніцкі мундзір і сутана — што тут працуе кравец. Радзей спатыкаліся шыльды, на якіх кульбакамі і збруяй сведчылі аб сабе рымары, самаварамі ды імбрычкамі — бляхары, гадзіннікамі і пярсцёнкамі — ювеліры. І толькі кавалі ў кузнях на ўзбярэжжы Грайронкі, грукаючы па кавадлах, без усялякіх шыльдаў растлумачвалі чалавеку, у якім кірунку яму рушыцца пры патрэбе падкаваць каня альбо назубіць серп і падварыць сякеру.

Але ў гэтую раніцу, калі Хаця Камар выйшаў з катуха, Грайронак здаваўся пакінутым ягонымі тубыльцамі. На пляцы нідзе не натапырваліся аглоблямі сялянскія калёсы, і моцныя замкі з цяжкімі заваламі пільна вартавалі паліцы зачыненых крам. На вуліцах, дзе заўсёды бавіліся дзеці яўрэйскай галоты, а на лаўках каля хат сядзелі, вяжучы шкарпэткі, бабулькі, — цяпер нікога не было відаць, і толькі нудна рыпелі рознакаляровыя шыльды. Нават пагасілі свае горны кавалі і бляхары, нават даматурнічаў Герцык Віфэл Азэйгэр, аб чым сведчыў самотны каромысел, які беспрытульна прыхіліўся да ганку хаты, дзе кватараваў стары ваданоша.

Хаця незвычайна для сябе марудна крочыў, адчуваючы слабасць ва ўсім целе, і нічога не заўважаў. Гарэў, як ад вострай мяцеліцы, пачырванелы твар, і ў адным кірунку беглі неадчэпныя думкі:

— За што гэты гой мяне збіў? За тое, што я калбейнік на ўсё жыццё і бахтан на хвіліну? Дык гэта ж мой кавалак хлеба і селядзец! Хіба ж я схлусіў, калі параўняў губернатара, халера на яго галаву, з шаўцом? Хай губернатару столькі скулачак, колькі гарбінак на ўсёй мацы ад часу Майсея. Трэба толькі бачыць шыльды. Вось:

**«Шавец Арон Шалыт»,**
**«Шавец Хаім Фрэйдовіч»,**
**«Шавец Зуся Быхаўскі».**

Хаця ішоў, несвядома адкладваючы колькасць шаўцоў на пальцах, і нечакана, зірнуўшы ў адно акно, спыніўся. Ён паба-

чыў Мэера Мойжаса, апранутага ў талэс[37], і цяпер толькі адчуў, як ціха ў Грайронку, і цяпер толькі зразумеў, чым гэта тлумачыцца.

Сёння дзясяты дзень кучак, дзень суровага посту Ём-Кіпура, калі ўсемагутны Элогім[38] яшчэ раз сцвярджае наканаванае кожнаму яўрэю ў новым годзе. Сёння апошні дзень, калі яўрэй толькі зможа прасіць у вялікага Элогіма літасці ў выпадку прароцтва ліхой гадзіны. Сёння трэба ўвесь дзень ад раніцы да вечара прабыць у сінагозе, пералічваючы ў пацерах свае грахі.

Хацю агарнула жуда, калі ўявіў ён, што ў гэтыя дні над ім, замест кучкі, была вільготная столь катуха, а цяпер ён нават забыўся на сённяшняе свята і ўвесь абшарпаны і брудны стаіць на вуліцы ў той час, калі яўрэі моляцца. Але пачуццё радасці паступова выціснула жуду, і, прытуліўшыся да плота, Хаця шаптаў:

— Ну і няхай я абшарпаны і брудны. Няхай мяне збіў гэты гой[39], ён не ведаў, што, збіваючы яўрэя, ён зневажае гэтым вялікага Элогіма. Няхай у мяне апухлы твар, але я — левіт. Я належу да лепшай часткі яўрэйскага, абранага Богам народу і сёння мушу чытаць у сінагозе, дзе заўсёды стаю наперадзе за іншых, Кол-Нідрэ[40]. Тое, што я капцэн, што я калбейнік, што мне часамі дапамагае малбіш-арумім[41], — гэта часовая з’ява, бо ў маіх жылах цячэ чыстая, як крыніца Юдзеі, кроў леві, і калі суровы Элогім злітуецца нарэшце над сваім шматпакутным народам і верне яго ў краіну бацькоў, я першы прынясу ў новым храме ў Ерусаліме ахвяру.

Хаця яшчэ раз зірнуў на акно і, нягледзячы на тое, што ад хуткага руху ва ўсім целе адчуваўся боль, борзда пайшоў да сінагогі.

А Мэер Мойжас маліўся. І ў словы пацераў, што даўно зрабіліся звыклымі, як святло шабасовых свечак, упляталіся жыццёвыя ўспаміны. Высокага росту, згорблены цяжарам жыцця, з вялікай, ужо крыху кранутай сівізною барадою, ён чытаў, выспеўваючы, пацеры, гледзячы зверх звязаных ніткаю

[37] Белае з палоскамі адзенне жанатых мужчын у час пацер *(яўр.)*.
[38] Імя Бога *(яўр.)*.
[39] Не яўрэй *(яўр.)*.
[40] Урачысты пацер на свята Ём-Кіпур *(яўр.)*.
[41] Рэлігійнае брацтва, якое дапамагае бедным вопраткай *(яўр.)*.

акуляраў; ён пільна адганяў думкі пра мінулае, але ў дзень, калі Элогім падводзіць падрахунак вартасці кожнага яўрэя, гэтае мінулае мімаволі ўсплывала перад ім.

Калісьці ён быў моцны, як Галіяф, і падымаў на выцягнутай руцэ двухпудовік, тады Мэеру было васямнаццаць гадоў, а васямнаццаць гадоў Мэеру было дваццаць восем год таму назад. У яго была прыгожая, як Суламіф, жонка Лэя, побач з якой лягчэй было змагацца за жыццё.

З стогнам выкрыкваючы словы пацераў, Мэер намагаўся вызваліцца ад палону думак, але дарэмна.

Не заўсёды на шабас была фіш з неперамальным водарам цыбулі з перцам. Вельмі нячаста быў флэйш, такі апетытны, з хрэнам. Але заўсёды была нэндза, і мусіць таму раней часу адзвінелі сябры хеўра-кадышы[42] скарбонкамі перад мітай[43] з Лэяй, што пакінула Мэеру бязлетак-дачок і сына. Прыгожая была жонка; вось у старэйшай дачкі Блюмы — яе глыбокія чорныя вочы, у меншай, Гені, — яе смех, а ў сына Янкеля — яе складнасць і гнуткасць.

Адганяе думкі Мэер, адганяе думкі, але ўсё дарэмна, бо большая і лепшая палова жыцця ўжо за плячыма, па той бок жыццёвага пераналу.

Дзеці вось выгадаваліся, але няма ў іх шчырасці да яўрэйскага ды сінагогі; і ў гэтым вінаваты толькі ён, бацька, што не здолеў іх як трэба выхаваць, калі яны яшчэ былі падатлівей за воск, а цяпер у сваіх поглядах на вакольнае яны мацнейшыя за крэмень. Сын Янкель увесь час прабаўляе з гоямі, чытае забароненыя ўрадам газеты і нават у шабас зможа працаваць, дачка здолее з'есці агідную, пракрокамі забароненую свініну, і ў гэтым вінаваты толькі ён — што не выхаваў іх як трэба. І што рабіць, калі абяззбройваюць Мэера вочы Блюмы, смех Гені і постаць Янкеля?

Мэер закрыў малітоўнік, зірнуў на прэс, крэйду і ножны, што ляжалі занядбана на стале, апрануў паліто, рыхтуючыся ісці ў сінагогу. Калі выйшаў у сумежны пакой, заўважыў, як Блюма штосьці чытае, але, пачуўшы крокі бацькі, адразу хутка схавала кнігу, а Янкель, які таксама чытаў, так забыўся ў гэты час на ўсё, што нават не пачуў, як скончыў маліцца бацька. Мэ-

---

[42] Рэлігійнае брацтва для пахавання памерлых *(яўр.)*.
[43] Пахавальныя насілкі *(яўр.)*.

ер з выглядам, што нічога не бачыў, прайшоў, схіліўшы галаву, праз пакой, выйшаў на вуліцу і пакрочыў да сінагогі.

Як толькі зачыніліся за бацькам дзверы, Блюма зноў выцягнула кнігу і пачала хапатліва адшукваць старонку, на якой нечакана спынілася. Калі дзяўчына чытала, яе бровы дзіўна насупліваліся, і тады ёй, здавалася, — не сямнаццаць год, як было ў сапраўднасці, а гадоў пад трыццаць. Янкель, часамі спыняючыся чытаць, сачыў, усміхаючыся, за сур'ёзнасцю сястры, нарэшце падышоў ціхутка так, што яна нават не пачула, і, схапіўшы ў яе з рук кнігу, зірнуў на тытульную старонку:

И. С. Тургеневъ.
**«ДВОРЯНСКОЕ ГНѢЗДО».**
**РОМАНЪ.**

— А-ай, Янкель, які ты нядо-обры! — працягнула дзяўчына. — Вельмі цікавая кніга, а цяпер прыйдзецца зноў шукаць. Якое асабістае жыццё ў шляхты, і як яно не падобна да нашага!

— Сёння Ём-Кіпур, Блюма, і чытаць Тургенева грэх.

— Толькі не грэх чытаць Янкелю, — перабіла Блюма, — бо ён чытае падручнік па гісторыі. Ха-ха-ха!

Яны, брат і сястра, стаялі побач, так падобныя адно да аднаго і разам з тым так непадобныя. Нягледзячы на тое, што Янкелю было толькі дзевятнаццаць гадоў, ужо ў пераноссі пралягла, так падобная да тужлівых рысак у кутках губ Блюмы, зморшчка, цяпер выпрасаваная часовай усмешкай. Збітыя вялікія рукі, што трымалі падручнік, сведчылі аб тым, што Янкель займаўся цяжкою працаю, і такімі не падобнымі да іх былі невялічкія, амаль што дзіцячыя рукі Блюмы.

— Я ўчора бачыў Стася, — сказаў Янкель.

— Няўжо? — вырваўся ў Блюмы, нечакана для яе самой, радасны выкрык. Яна адчула, што пачынае чырванець, і, як гэта бывае ў вельмі сарамяжлівых людзей, ад адчування таго, што яна чырванее і брат гэта заўважае, пачырванела яшчэ больш.

У гэты момант у хату ўбегла малодшая сястра Геня, зусім яшчэ дзяўчынка, і, падскокваючы на аднэй ножцы, закрычала:

— А да нас Стась ідзе! Стась ідзе! Ужо ў дварэ! Ужо ў дварэ! А што, праўда? — калі дзверы адчыніліся і ўвайшоў Стась.

Некалькі разоў пасля тэй навальнічнай ночы збіраўся Стась зайсці да сяброў свайго маленства, і кожны раз штосьці (ён і сам добра не ведаў што) прымушала яго адкладваць гэта. Яму вельмі хацелася бачыць Янкеля і Блюму, але тады, калі не будзе ў хаце Мэера, і сёння, намеркаваўшы, што бацька напэўна ў сінагозе, а дзеці, магчыма, дома, — пайшоў да Мойжасаў.

Яшчэ на парозе, аддаўшы ветлівы дабрыдзень, убачыў Стась, што дрэнна захоўвае сваю радасць Блюма і замкнёна трымае сябе Янкель.

— Дабрыдзень! Сядай вось на крэсла, — сказаў Янкель, ціснучы руку.

— Як вы змяніліся, Стась, — заўважыла Блюма. Упершыню яна звярнулася так да Стася, і той адчуў, што і ён цяпер не здолее звяртацца да Блюмы інакш, бо гэта ўжо не тая дзяўчынка, якою ён бачыў яе апошні раз.

— А вельмі цяжка адзначыць, хто з нас больш змяніўся.

— А менавіта?

— Толькі не палічэце, Блюма, гэта за звычайны, як пятак нашмульганы, і танны камплімент, але вы яшчэ больш папрыгажэлі.

— Стась кпіць. Якая я прыгожая, я звычайная кравецкая дачка з Грайронку, а вы бачылі ў вялікім горадзе сапраўды прыгожых дзяўчат, — і Блюма, зноў чырванеючы, выбегла ў сумежны пакой.

— Як маецца Янкель? — спытаў Стась.

— Трэба б лепей, ды няма дазволу ад Скрабкі. Грукаю над кавадлам ад зары да зары. Напэўна, шляхцюкі і пападзюкі больш дрэнна маюцца? Напэўна, яны супраць, каб даслаць цару ў падарунак пяць залатнікоў волава? Напэўна, яны супраць, каб даслаць фабрыкантам і абшарнікам чырвонага пеўня?

Твар Янкеля перасмыкнула, скрывіўшы падбародак, нянавісць, яшчэ глыбейшая стала зморшчка ў пераноссі, і Стась зразумеў, што гэта ўжо не той Янкель, з якім калісьці ён лавіў у Грайронцы дробную рыбку, купаўся ў Дзвіне, руйнаваў на Вітавай Магіле птушыныя гнёзды.

— Але хіба ж усе яны дрэнныя, Янкель? — спытаў Стась. — Вось я, напрыклад, звольнены на некаторы час з універсітэту за ўдзел у студэнцкіх беспарадках, і шмат іншых разам са мною. Не гэтулькі цар вінаваты, колькі тыя, што навакол яго…

— Ха-ха-ха! Вы — рэвалюцыянеры, пакуль вучыцеся, а як станеце, пасля атрымання дыпломаў, суровымі кручкамі, следчымі ды пракурорамі, перакінецеся ў першых катаў.

— Крыўдна гэта, Янкель. Вельмі крыўдна. Мы ж сябры з маленства. Хіба ж ты не ведаеш мяне?

— А-а-а, сябры з маленства, сябры з маленства, — гіранічна працягнуў Янкель, — толькі ў маленстве і магчыма паміж намі сяброўства. А цяпер ты — шляхціц, пан Станіслаў Галькевіч, студэнт імператарскага ўніверсітэту, выхаванец ксяндза Вайноўскага, а я — жыд, агідны жыд, сын краўца, больш падобнага да жабрака, каваль. Нічога ў нас не можа быць сяброўскага, у лепшым выпадку — застанемся звычайнымі знаёмымі.

— Які ты, Янкель, негасцінны! — сказала, хутка ўваходзячы ў пакой, Блюма. — Не звяртайце на яго, Стась, аніякай увагі — ён астатнім часам хварэе на неўрастэнію.

Гутарка набыла больш спакойны характар. Стась даведаўся, што Блюма служыць за прыказчыцу ў кніжным аддзяленні ў магазіне Баранбаўма, шмат чытае і рыхтуецца здаваць пры гімназіі экзамен на аптэкарскую вучаніцу. Вочы дзяўчыны песцілі Стася, але праз колькі часу, выйшаўшы з хаты Мойжасаў, ён прыйшоў да вынікаў, што вялізныя муры будуюць гады паміж сябрамі з маленства.

Як толькі выйшаў Стась, Янкель, імпэтна падняўшыся з крэсла і швыргануўшы на стол кнігу, сказаў:

— Шляхцюкі гуляюць у рэвалюцыянеры. Што ёсць больш агіднае за калішнюю гамонку і за гэту святочную нуду! Пайду да сінагогі, хаця на людзей паглядзець, і то лепш будзе.

У сінагозе сёння было перапоўнена, і яшчэ здалёк чуўся несціханы стогн, жаласлівае нараканне і гоман, якія то заціхалі, то ўзрасталі, то зліваліся ў нястройны хор, то падзяляліся на паасобныя выклікі. Мужчыны, апранутыя ў талэсы, трымаючы ў левай руцэ старасвецкія малітоўнікі, уздымаюць правую руку. Яны хутка чытаюць якіясь заклёны і старанна моляцца, шукаючы чагосьці вачыма ў закуранай столі.

Дрыгавіца спеваў зліваецца нарэшце ў адзін пакутны лямант, і палкі тэнар раптам пакрывае лямант:

— Ля палацаў пакінутых!

— Самотныя сядзім мы тут і плачам! — падхопліваюць усе.

— Молім цябе, злітуйся над Сіёнам!

— Збяры дзяцей Ерусаліму! — падхопліваюць яўрэі.

А на пляцы гаспадарыў «бацька» Нілёнак. Рослы, зусім малады дзяцюк у венгерскіх вузкіх чынгірках, у вялікай кароткай бравэрцы і з кубанскай папахай на пахіленай долу галаве, ён, пахвостваючы сябе казацкім гарапнікам па халяве, хутка хадзіў узад і ўперад перад будынкам рэўкому. У будынку бандыты доўгі час шукалі старшыню Хмеляра, але дарэмна, бо ён быў на губернскай нарадзе, і тады, зваліўшы ў кучу, падпалілі.

Па пакоях будынку ўжо шпацыравала полымя, калі з вакна пачуўся стрэл і адначасна вохнуў «бацька», схапіўшыся за руку. З дзвярэй выскачыў і, адстрэльваючыся, хутка пабег усцяж ходніку курмелісты матрос, але праз хвіліну ён, злоўлены, стаяў перад «бацькам», якому адзін з бандытаў перавязаў руку. Стаяў, нібы нічога асаблівага не здарылася, і без усялякай палахлівасці глядзеў Нілёнку проста ў вочы — на бесказырцы пад чырвонай зоркай застылі выразлівыя літары «Аврора», усе гузікі бушлата блішчэлі, начышчаныя крэйдай, нагавіцы-клёш не загубілі фальбоны, здавалася, рыхтаваўся матрос да параду.

— Ты хто такі? — запытаў «бацька», адчуваючы нейкую дзіўную для самога сябе павагу да курмелістага чалавека.

— Бальшавік і чэкіст, матрос крэйсара «Аврора» Максім Стахноў.

— Ты ведаеш, што цябе чакае?

— Добра ведаю. Хіба ж табе здаецца, што я буду ў бандытаў літасці прасіць? Шкода толькі, што трапіў у руку, а не ў галаву.

«Бацька» навотлю ўдарыў здаровай рукой Максіма Стахнова па твары, але раней, як паспелі бандыты схапіць матроса, той з дзіўнай для яго гадоў і росту сілай скалануў «бацьку», узяўшы за грудзі.

— За тое, што ты з «Авроры», за тое, што ты бальшавік і чэкіст, — гаварыў праз хвіліну Нілёнак матросу, які стаяў са звязанымі рукамі, — сто шампалоў і сценка. Зух, зрабі, што трэба.

Другі матрос, які кагадзе шпурнуў бомбу ў сінагогу, падышоў чымсьці збянтэжаны да Максіма Стахнова і загадаў яму ісці.

— Ёсць! — адказаў Стахноў.

Нілёнак, як таежны воўк у клетцы, зноў хадзіў перад будынкам у нейкім хваляванні. У мінулым — студэнт горнай акадэміі, у мінулым — шляхціц Радкевіч, у мінулым — гаспадар маёнт-

ку, ён раптам адчуў, як і раней неаднойчы, немагчымасць звароту мінулага, і ён ведаў, што гэтае пачуццё закончваецца дзікай зухаватай гульбой.

А на пляц тымчасам аднаго за адным прыводзілі знойдзеных партыйцаў, толькі ніяк не маглі знайсці Блюму. Яе шукалі да таго часу, пакуль не з'явіўся Скрабка.

— Я толькі што прыгожую жыдовачку прыстукнуў у вербалозе. Узяў ад яе ўсё, чым дзеўкі, чатыры збоку, салодкія, а пасля і забіў, бо «Сміт» пры сабе цягала, дый наогул — жыдоўка.

«Бацька» так забыўся на вакольнае, што здрыгануўся, калі побач з ім раптам зашамкаў, сагнуўшыся крукам, пратапоп Фаворскі:

— Збаўца і ратаўнік Расеі, аспідамі і васіліскамі, сірэч бальшавікамі і жыдамі, знішчанай, дазвольваспець цябе вуснамі радасці на кімвале і гуслях, дазволь памаліцца перад прастолам Найвышэйшага, каб загінулі нашы агульныя ворагі, «яко тает воск ад ліца огня». Чада маё адзінаўтробнае — у цябе, і сам я, сакрушоны недугамі герэй, усё ж пайшоў бы ахвотна ў духоўнікі тваіх неабарымых салдат за невялічкую мзду, пакуль не знішчым канчаткова савет нечасцівых, а мы знішчым, бо з намі Бог, разумейце, языцы, і пакарайцеся, яко з намі Бог.

Нілёнка аж закалаціла, гэтулькі падліжнага было ў словах пратапопа. У Бога «бацька» ніколі не верыў, у яго з'явілася вострае жаданне як наймацней штурхануць папа ў карак і потым даць ногца, але, стрымаўшыся, адказаў:

— Я, айцец святы, не кацап, а шчыры беларусін, і каб яе пранцы з'елі, святую Расею, але памаліся за нас, памаліся, калі ёсць ахвота. Там, у тачанцы, скажы дзецюком, што я дазволіў, вазьмі парася, а духоўнікі нам пакуль што не трэба.

Неўзабаве, глыбокай ноччу, званы катэдры Святога Духа заклікалі падзякаваць пану Богу за шчырасць яго да Нілёнка. Перад брамай цвінтару рослы, з вялікай рыжай барадой бандыт заспяваў у лад званом шалёным басам, прыгрукваючы чобатамі па бруку:

Гэта справа была так,
Гоп-цір-дай-дай-дай.

А каля бабінца катэдры стаяў, прыхіліўшыся да сцяны, без бушлата, з абмытымі крывёю тварам і кашуляй, — Максім

Стахноў. Насупраць яго не зусім цвярозы Зух, паказваючы шомпалам на званіцу, гарлаў:

— Апошнюю шклянку тваю адбіваюць! Чуеш, камісар?

— Я смерць неаднойчы спатыкаў і вачыма перад ёю не лыпаў. Недарэмна атрымоўваў штодня Максім Стахноў ад галоднай рэспублікі чвэртку фунта чырвонаармейскага хлеба. А ты за што неўзабаве сканаеш? За рубель і шклянку гарэлкі?

— Маўчы!

— Бачыў я ў кастрычніку сямнаццатага забітага юнкерамі матроса з бесказыркай «Три Святителя» на рагу Ліцейнага праспекту. Ты яго мусіш ведаць — гэта быў Грыцько Сырамаха з-пад Міргарада. На лбе ў яго выразалі жоржыкі пяцікутовую зорку і потым мачыліся на яе. Ты не мачыўся?

— Маўчы! Га-ад! — і Зух ударыў Стахнова шомпалам па твары.

— Калі савецкая краіна клікала браткоў задрайваць франты, клікала браткоў на аўрал, толькі пацукі засталіся ў кубрыках, а там у самым пекле зноў былі «Аврора», і «Павел Первый», і «Рюрик», і «Цесаревич», і «Три Святителя». І толькі нялічныя здраднікі б'юць нажом у спіну рэспублікі і братком, і толькі адзін вырадак пайшоў да Нілёнка.

Заглушаны гармідарам званоў стрэл прымусіў Максіма Стахнова скрывіць гіморай твар, потым марудна папаўзці па сценцы дадолу і назаўсёды застыгнуць.

«Бацька» ўсё шпацыраваў і нарэшце раптоўна, звярнуўшыся да гарніста, крыкнуў:

— Благай на збор!

Праз некалькі хвілін амаль што ўсе бандыты былі на пляцы. Апырсканыя крывёю, у разадраных вопратках, з мяшкамі, поўнымі розных рэчаў... «Бацька» дбайна сачыў за сваімі салдатамі.

— Гэ-эй, тры свяціцелі! Зух! Дудка! Пад шторм, чатыры збоку, трапіў, ці што? — крычаў Скрабка матросу, які, ледзьледзь трымаючыся на нагах, усё ж асцярожна, як маці дзіцянё, прыціскаў да грудзей вялікую бутэльку з дэнатуратам, што знайшоў у аптэцы!

— М-м-матку тваю ў пана Ез... ік... са і святую тройцу! Каб ты ўвесь век, фараон селядцовы, сірэнай выў! — аскірзнуўся Зух і, яшчэ пільней прыціскаючы бутэльку, прайшоў каля «бацькі», співаючы:

Засвістаў наш боцман у дудку,
Мы забылі пра Машутку.

Барадаты бандыт, які кагадзе танчыў перад цвінтаром катэдры, цяпер сядзеў проста на бруку і пераабуваўся, акуратна раздзіраючы талэс на анучы.

Дзыбаты, у гімназічным і цяпер шынялі, Фаворскі з нейкім азвярэннем біў па твары яўрэя, крычучы:

— Хрыстапрадаўца ты! Катангенс агідны!

Вакол «бацькі» ўвесь час блытаўся кулямётчык Бурдыка. Маляўнічае мінулае кваліфікаванага дамушніка[64] і шырмача[65] Бурдыкі было ў шчыльнай і крэўнай сувязі з усімі турмамі імперыі, вочы яго заўсёды хапатліва блукалі, нібы ўзважваючы пробу ўсяго вакольнага. І неўзабаве Нілёнак пачуў, як Бурдыка крычаў на сваёй звычайнай мове:

— Ці бачыце, братоцкі, які я добры гадзіннік з жыдовацкі зняў?

Тады толькі «бацька», усміхаючыся, заўважыў, што ў яго згінуў кішанёвы гадзіннік. Яшчэ раз сыграў гарністы збор, і, калі нарэшце сабраліся ўсе, Нілёнак пачаў прамову:

— Цяпер, браткі, загадваю вам разбіць на пошце і радыёстанцыі ўсе апараты, падпаліць харчовыя склады і параходны затон, разбурыць масты на Грайронцы і затапіць паром праз Дзвіну. Загадваю выпусціць усіх з турмы, папырскаць трошкі з кулямётаў усіх прыведзеных на пляц, забіваць кожнага падазронага жыда, кожнага сабачага бальшавіка і напаскудзіць на трыбуне. Садух і жыдом і бальшавіком, але, калі хто з вас пальцам толькі кране паважанага пана Баранбаўма, які тыдзень таму даслаў нашаму добраахвотнаму імя Савінкава атраду трыста рублёў золатам, таго я адразу нацянькі накірую ў штаб Духоніна. Жыды ёсць усялякія — і нашы, і іхнія. Дык з панам Богам да працы, бо цяпер ужо другая гадзіна, а дзявятай жа мы маем ісці ў Буду-Курбацкую.

І праз хвіліну ўзляцелі над Грайронкам чырвоныя пеўні. Зарагатаў на пляцы кулямёт. Залуналі крыкі ахвяр.

[64] Кватэрны злодзей.

[65] Кішанёвы злодзей.

На золку бандыты ўжо ўсе на конях выязджалі з Грайронку па шляху на Буду-Курбацкую. Хтосьці п'яным голасам зацягнуў песню, іншыя падхапілі:

У Вяліжы дождж ідзе,
А ў Віцебску слізка!
Хавайцеся, бальшавікі,
Бо Нілёнак блізка!

А з другога боку імкліві ў да Грайронку атрад Чэка. Да Зацвілішак Янкель вёў атрад дзе вясковымі дарогамі, дзе сцежкамі, пільна абмінаючы шлях, каб неспадзёўкі напасці на колькасна ў тройчы большую банду, і ў тым месцы, дзе шчырлес адштурхнуў дарогу як мага далей ад шляху, незаўважаны Нілёнак прайшоў паўз. Потым ад разбуранага мястэчка гналі ўсхвалёваныя па свежых слядох стомленых коней назад. Ужо з паловы дарогі ўбачылі ўперадзе далёкія, зводдаль сонныя і нерухомыя водблескі пажару, а выехаўшы перад самым Грайронкам на пагорак, атрад адразу спыніўся.

У розных кірунках блукала над гарадком полымя, і да пагорку даносілася глуха, як па чулай зямлі даносіцца далёкая страляніна:

— Ааааааа…

Здавалася, стогне Грайронак, стогне Дзвіна, стогне лес.

Менш за хвіліну прастаяў атрад, і першы рынуўся наперад Эел-Бэр дэ Свабодэ.

— Нэ-э! Нэ-э, Мнохем Мендл[66]! — крычаў балагол на каня, грукаючы яго па запалых рабрынах абцасамі, і за плячыма ад руху шалёна падскоквала вінтоўка.

— Хі-хі-хі. Проста казак. Кузьма Кручкоў! — пачуў Эел-Бэр, праязджаючы каля хаты калісьці дзяржаўнага рабіна, і ўздрыгнуў. Ён не адчуў ніякай асабовай абразы, яму здалося дзіўным, што ў гэтую раніцу хтосьці смяецца, і балагол, лаючыся, стрэліў пад хатай у паветра.

Ад запырсканага крывёю, пракапцелага полымем пляцу коннікі пачалі паварочваць на шлях да Буды-Курбацкай, але Янкель рашуча спыніў атрад.

[66] Мнохем Мендл — яўрэйскі пісьменнік, які даў моцны вобраз балагола і яго каня, таму імя пісьменніка ў сучасных мястэчках зрабілася сінонімам.

— Ехаць, таварышы, далей наўздагонкі за Нілёнкам будзе непатрэбным вар'яцтвам. Нашы коні зрабілі без адпачынку восемдзесят кіламетраў і ледзь толькі жывыя, а нам яны яшчэ патрэбныя, як паветра. Першы раздзел разам са мною пойдзе тушыць затон, другі раздзел пад кіраўніцтвам Эел-Бэра мусіць патушыць харчсклады, трэці раздзел пад кіраўніцтвам Ічэ пойдзе падбіраць раненых і забітых, матросы вылучаюць варту, камбедаўцы маюць агледзець пільна коней і вычысціць вінтоўкі. Да працы, таварышы!

Неўзабаве рушыліся па вуліцах з пляцу раздзелы.

— Блюму забілі, — раптам пачуў побач Янкель і, абярнуўшыся, убачыў бледнага, са скрыўленымі вуснамі Стася.

— Што? — перапытаў, не даючы веры.

— Блюму забілі.

Дзіўна незнаёмымі вачыма глядзеў Янкель і потым, незвычайна для сябе заікаючыся, сказаў:

— Ты… ты… ты мабілізаваны мною ад гэтай хвіліны на тыдзень і мусіш ісці разам з трэцім раздзелам да раненых. Ад майго імя пашлі двух матросаў (браткі — без сентыментальнасцяў) пашукаць у ногідаў матэрыялаў для бінтоў. Ад майго імя перадай загадчыку аптэкай, што яна на тыдзень цалкам пад тваім загадам. Праз дзве гадзіны я дашлю табе на дапамогу камсамолак.

Янкель пабег да затону, а Стась пакрочыў да аптэкі, шэпчучы:

— Гэта не чалавек, а камлыга з пэўным сінтэзам мяса і касцей.

У затоне гарэлі лайбы і параход. Выхапілі з полымя толькі самае каштоўнае — параход, на якім абгарэла заледзьве палуба. Янкель хутка спусціўся па крутой лесвіцы ў машыннае і ўсміхнуўся, заўважыўшы нават неразбітае, толькі трошкі закапцелае шкло манометраў. І раптам горкі ўспамін перасмыкнуў твар чалавека ў салдацкім фрэнчы і прымусіў, як хворага на трасцу, задрыжэць, і абмыў няроўнымі штуршкамі крыві сэрца, і схапіў воўчай хопкай за горла, але праз момант чалавек крычаў на палубе сваім звычайным металёвым голасам:

— Цяпер, таварышы, мусім адбудаваць працу пошты і радыёстанцыі!

У гэты час Эел-Бэр з абпаленай барадой амаль што ўгрунь цягаў мяшкі з ахопленага полымем складу. Выбягаючы, аблі-

ваўся вадой і, закрываючы пальцамі нос, зноў бег разам з іншымі ў дымную муць. Узвод растварыўся ў натоўпе добраахвотнікаў. Балаголы, сярод якіх першымі прыехалі Шлёма і Бэня Ша, вазілі з Грайронкі ў дзежках ваду. Сажраў агонь толькі адзін склад, з якога напалову выцягнулі жыта, — сумежныя былі выратаваны. І апошнім разам, з Эел-Бэрам, выйшаў з вогнішча, трымаючы ў руцэ вёдры, Герцык Віфэл Азэйгэр.

А на пляцы доўгабароды ў латаным кажуху камбедавец, пагладжваючы ласкава па шыі каня, гаварыў:

— Што, стаміўся, Цымбаліст? Га? Прыйдзе час адпачынку, а сёння, па-мойму, яшчэ нельга. Усё вакол гарыць — і хаты гараць, і людзі гараць, і коні гараць, а калі знішчым буржуёў, мы табе, Цымбаліст, помнік паставім.

Конь сачыў за чалавекам з чырвонай зоркай на кучомцы разумнымі, вільготнымі вачыма і, не то ў адзнаку сваёй згоды, не то задаволены ласкаю, матаў мокраю галавою.

Ніколі не бачыў Грайронак такога вялікага пахавання, якое рушылася на другі дзень да Вітавай Магілы. Некалькі дзясяткаў трун плылі, гойдаючыся, над натоўпам. За першай цягнуўся Мэер і неяк па-дзіцячаму голасна плакаў. На веку другой, якую неслі панура матросы, ляжала прасякнутая крывёю бесказырка з надпісам «Аврора». Амаль што ўвесь знішчаны і акрываўлены Грайронак ішоў за трунамі.

Не луналі над магілай гукі жалобнага маршу, не гаварылі над магіламі палкіх прамоў, але ўтройчы вырас атрад Чэка. Нібы перуном збіты пасля смерці Блюмы, Стась застаўся ў атрадзе добраахвотна доктарам. І па шляхох, і па гасцінцах, і па вясковых дарогах памчаліся наўздагон за Нілёнкам. Калі віхурай улятаў атрад у мястэчка, бачылі, што не паспелі яшчэ астынуць трупы забітых людзей, яшчэ дагаралі пустыя хаты, але Нілёнак ужо загубіўся ў прасторы. Чырвонаармейцы валіліся ад стомы з коней, але ўсе рушыліся праз дзень, праз ноч, праз недасон — навылет — далей. Нілёнак усяляк абмінаў магчымасці сутычкі, хоць і былі ў яго слухмяныя люйсы і шошы. Часамі аскірзаючыся, паліваў чырвонаармейцаў валавянымі крупамі, каб знікнуць яшчэ хутчэй і непрыкметней. На працягу ўсяго лета цягнулася гэта змаганне, пакуль не пачала банда паступова спыняць імпэтнасць сваіх рэйдаў, бо з усіх бакоў — і з Віцебску, і з Буды-Курбацкай, і з Зацвілішак, і з Янавічаў, рушыліся чырвонаармейскія і партызанскія атрады для яе знішчэння.

І нарэшце, калі зарумзала аголенымі асінамі і бярозамі восень, спаткаўся атрад Янкеля Мойжаса з Нілёнкам каля зямлянак, дзе атаўбоўваўся «бацька» на зімовішча. Толькі некалькі чалавек засталося ў «бацькі», ужо не было на саджаных пуцявінах коней, але ён рашыў змагацца да апошняй кулі. І пачалі ўсплываць над зямлянкамі хмурынкі стрэлаў, загаманілі кулямёты, прымусіўшы чырвонаармейцаў злезці з коней, завухалі гранаты, уздымаючы пажоўклае лісцё і зямлю.

Да буды з чырвоным крыжам, якую ахвяраваў атраду Бэня Ша і якою загадваў Стась, прыцягнулі камсамолкі цяжка параненага Эел-Бэра. Адчуваючы вялізны боль, магутны балагол не самлеў і толькі раз-пораз стагнаў, гледзячы ўгару на рэбры буды, дзе праз дзіркі была бачна небасінь. А перад смерцю звычайна, нібы падрыхтаваўся ехаць у Віцебск, развітаўся з сынам і, стогнучы, прашаптаў:

— Калі ты, Ічэ, збочыш з таго кірунку, на які трапіў твой бацька і на якім ты сам цяпер, дык няхай расстраляюць цябе тады… Ідзі, там кожная вінтоўка каштоўна…

Магутная сіла, назвы якой Стась яшчэ не здолеў згадаць, прымусіла яго схапіць вінтоўку Эел-Бэра і разам з Ічэ выскачыць з буды вонкі.

Дзень навылёт ішла бойка, і першымі замоўклі кулямёты, а потым, калі ўжо змрок упаў на лясную аблонь, з зямлянкі нечакана выскачыў Зух і, прыгінаючыся, рынуўся бегма да хмызняку, нібы спадзеючыся знікнуць, ахінуўшыся шэрым вячэрнім муслінам. Праз некалькі крокаў, выпрастаўшыся на ўвесь рост пад стрэламі, павярнуўшы да чырвонаармейцаў скрыўлены ад болю твар, матрос закрычаў:

— Матку вашу ў тры струны і святую тройцу… — і, рынуўшыся на зямлю, застыў нерухома.

Яшчэ з гадзіну павольна адказвалі зямлянкі стрэламі, і нарэшце пачуўся зычны ў вячэрняй лясной цішы голас:

— Трымайце, апошні падарунак Нілёнка!

За словамі вылецела граната. Яна забіла аднаго чырвонаармейца і параніла Стася, пасля пачуўся з зямлянкі адзінокі стрэл, і ўсё заціхла.

Не заўважыўшы нават, што ён паранены, Стась рынуўся разам з усім атрадам наўсторч да зямлянкі. Нілёнак яшчэ цёплы ляжаў на ўбітай падлозе зямлянкі, засыпанай гільзамі, з заціснутым у руцэ рэвальверам. Побач з «бацькам» ляжаў,

неяк дзіўна падагнуўшы пад сябе нагу, Скрабка, і, даўно ўжо халодны, ён усё яшчэ трымаўся акрываўленымі рукамі за жывот. Над ім схіліўся, нібы дзівячыся чамусьці, Фаворскі. Моцна абдымаў здранцвелымі рукамі кулямёт Бурдыка, пазіраючы незвычайнымі для яго нерухомымі вачыма. Каля яго ляжаў хтосьці ў вельмі добрым паліто з мяккімі рысамі твару. Стась пачаў абшукваць незнаёмага і, выцягнуўшы з кішэні некалькі папер, пачаў разглядаць. Ён нават пахіснуўся ўбок, адчуваючы, як кроў прыліла да твару і вачэй. Выразлівыя літары дакуманту паведамлялі, што гаспадар яго быў:

**КАЗИМИР ЭДУАРДОВИЧ**
**ГАЛЬКЕВИЧ**

Стась пачаў ужо невядома ад чаго хістацца — ці ад раны, якую нарэшце заўважыў, ці ад вялікага хвалявання, — калі, разглядаючы іншыя паперы, выцягнуў раптам залітую крывёю фотакартку. Вачыма, поўнымі ціхага смутку, глядзела з яе жанчына, вельмі падобная рысамі твару да Стася, і надпіс на фатаграфіі казаў:

**ЯНИНА СИГИЗМУНДОВНА**
**ГАЛЬКЕВИЧ**

✝

**Sit terra tibi leuis**[67]
**15.VI.1905 г.**

— Вось калі я знайшоў бацьку, — шаптаў Стась. — Магчыма, гэта я забіў бацьку і яго крывёю абмыў матчына аблічча.

Боль быў такі моцны, што яго не заглушала рана, пакуль, самлеўшы, не ўпаў.

Назаўтра ўвечары прывезлі на сялянскіх фурманках забітых бандытаў у Грайронак. Людзі, даючы веры толькі ўласным вачам, збягаліся паглядзець на мёртвага «бацьку», які амаль што ў кожнай сям'і вырваў каго-небудзь блізкага, крэўнага. Па-драпежніцку ашчэрыўся труп са скрыўленымі тонкімі пальцамі рук.

---

[67] Хай пухам будзе табе зямля *(лац.)*.

## V

Падымаліся старчаком масты і віядукі, цягнікі і параходы, палацы і хаціны. Гаманілі наганы і кольты, вінтоўкі, карабіны, люйсы і максімы, гаўбіцы і гарматы — учора.

Падымаюцца старчаком з ватманаўскай і александрыйскай паперы пераплётам рыштаванняў і крант-вухосін, крокваў і бэлек каардынаты тэхнічных чарцяжоў. Гамоняць сякеры і пілы, кляўцы і кельні, рэйсфедэры і кронцыркулі — сёння.

Сённяшнія пейзажы і мелодыка звычайней за ісціну —

$$(a + b)^2 = a^2 + 2ab + b^2,$$

для яго аднагодкаў, але Мэер Мойжас, праходзячы часам па Грайронку, разглядае змены ў вакольным вачыма таежніка на вуліцах Сіці.

Апошні год дзед адпачываў, і ў яго хапала вольнага часу для азнаямлення з тым новым, якое ішло ў Грайронак, як буйны параснік на колішні выгар з усіх бакоў. На Мэеравым вяку шэсцьдзясят адзін раз хрумсцела красавіковымі крыгамі Дзвіна, але на выгляд яму было не менш за семдзесят гадоў. Асабліва падаўся ён з тэй жудаснай хвіліны, калі знайшлі ў вербалозніку Блюму. З таго моманту нават і ў акулярах шмат чаго недабачвалі вочы, дрыжэлі рукі і наогул — памірае кравец, калі нітка, перш як трапіць у вушка, доўга скача вакол, як чмель над канём. Кавалкам хлеба забяспечвалі цяпер старасць Мэера дзеці, якія зноў сабраліся пад адну страху. Янкель быў цяпер сакратаром павятовага камітэту РКП(б). Геня даўно ўжо скончыла палітэхнікум і астатнім часам працавала за інжынера на пабудове чыгункі.

Цяпер, ідучы па вуліцы да Вітавай Магілы, стары думаў пра адно:

— Я б яшчэ працаваў, і на печ мне яшчэ рана, але дзе падзеўся калішні заказчык? Праўда, і раней ён не ішоў на кравецкую шыльду так густа, як жнівеньская мятуліца на Дзвіне, а цяпер краўцы і шаўцы зусім без усялякай працы. І з кожным днём усё менш і менш на вуліцах шыльдаў.

Калісьці заказваў пашыць да свята шыракакрысную расу пратапоп Фаворскі, але пасля знішчэння Нілёнкавай банды пратапопа выслалі з Грайронку за ўрачыстае маленне ўначы і за сына бандыта. Выязджаючы, ён слязлівымі вачыма глядзеў на

яўрэйскі натоўп і, жагнаючы яго з выглядам пакутніка за грамадскую ідэю, шамкаў:

— Памалецеся, праваслаўныя, за мяне, вашага пастыра. Блаславенне Пана Бога на вас заўсёды і цяпер. Амін.

Цяпер пратапоп не закажа Мэеру Мойжасу ні ядвабнай расы, ні драпавага падрасніка, бо даўно ўжо адмовіўся ад кадзіла і крыжа. Калі нядаўна балагол Шлёма, забраўшы ў Віцебску на вакзале поўную буду пасажыраў, зварочваў сваіх коней з Замкавай вуліцы на шашу, дык пачуў на Катэдральным пляцы знаёмы голас:

— Дастойная ўвагі газета «Зара Краіны»! Дастойная ваісціну!

Крычаў, гандлюючы газетамі, дзед у палінялым капелюшы і ў пашарпанай латышскай світцы. Гэта быў пратапоп Фаворскі.

«Больш пратапоп не закажа расы», — нібы спачувае Мэер, але разам жа з’яўляецца думка: «І добра, што ён есць учарайшы хлеб Хаці Камара».

Раней да фэсту Марыі Магдалены заказваў сутану ксёндз Вайноўскі. Тады ксёндз жыў магнатам, а кагадзе панна Малгажата прынесла да Мэера пераніцаваць старую, нібы кармаліты яшчэ цягалі яе, сутану. Пасля прынесла таксама на пераніцоўку Стасеву студэнцкую світку, які кінуў пасля смерці Блюмы пасаду доктара ды жыў у Грайронку.

— Дзівак гэты Стась, — шэпча Мэер. — Жыве даматурам, чытае багата кніг, кажуць, што не мінае ніводнай імшы ў касцёле, а пры патрэбе і звоніць па душах змарлых і грае на арганах. Дзівак… Доктар, а шыецца ў дурні.

Да жывых Мойжасаў Стась больш ніколі не прыходзіў, і толькі бачылі яго неаднойчы на Вітавай Магіле каля пагорку, дзе была пахавана Блюма. Але, заўважыўшы, што хто-небудзь да яго падыходзіць, Стась хутка падымаўся, узнімаў каўнер світкі і хуткімі крокамі адыходзіў у супрацьлеглы бок.

Раней заказвалі чорныя і шэрыя жупаны шляхціцы, прыязджаючы ў іх у свята да касцёлу. Па-матчынаму выхоўвала шляхта зграю Нілёнка, ахвяраваўшы яму сваіх сыноў, па-матчынаму захоўвала ў клунях засценкаў апошніх бандытаў, і…

— Дзе цяпер тая амбіцыйная панцырная шляхта? — шэпча Мэер.

— А гут морген, рэбмэйшэ,[68] — выгукнуў хтосьці над самым вухам, прымусіўшы ўздрыгануцца ад нечаканасці. Зірнуўшы,

[68] З добрай раніцай, паважаны; рэбмэйшэ — звычайны зварот да больш старых па ўзросце *(яўр.)*.

дзед убачыў балагола Шлёму. Апошнім часам балагол хадзіў пануры і ўсюды лаяўся на чыгунку, якая адбірае ў бедных балаголаў апошні заробак. Цяпер ён чамусьці шчыра ўсміхаўся, і, прывітаўшыся, зацікаўлены Мэер спытаў:

— Як маецца?

— Лепей за вучонага яўрэя пры губернатары. Сваіх, Воранца і Буланага, я ўчора прадаў чыгунцы, і самога мяне залічылі на курсы кандуктараў. Учора Шлёма быў балаголам, а заўтра кандуктар. Добра маемся, паважаны Мойжас. Хе-хе-хе-хе.

Неўпрыцям апынуўся Мэер ля Вітавай Магілы, цяжка падняўся на гару і, сеўшы на дубовы корч, пачаў дапытліва разглядаць яскравы малюнак. Шмат чаго знікла ад дзядоўскіх вачэй, але большая частка ўсё ж бачылася.

Просты, як нацягнутая струна, раскалоўшы на дзве часткі бярозавы гай, разрэзаўшы чорны курган, падтаптаўшы пад сябе наспай іржавую багну, — прабег праз Грайронак чыгуначны шлях. Унізе пад дзедам з дакладнасцю і ўпартасцю ўдарніка працаваў над выемкай у тоўшчы Вітавай Магілы паравы экскаватар. Угрызаўся ў падзол сваім, падобным да брытвы, сталёвым кантам вялікі чарпак і потым, узлятаючы ўгору, дбайна прытрымліваўся крантам, плыў шматтонны з лёгкасцю стрыжа ўбок і, перакульваючыся, высыпаў вякамі нярушаную зямлю.

— Вось табе і юхнаўскі грабар. Ха-ха-ха! — пачуў дзед і ўсміхнуўся.

Направа будавалі праз Дзвіну мост. Зенітнымі гарматамі здаваліся капуры, бамбардзірамі здаваліся будынкі, што торгалі па чарзе поўразы каромысла, і з кожным рыўком каромысла, грукам капура ўсё глыбей і глыбей уваходзілі ў пахаваную ракой цаліну бетонныя палі. Ужо з двух узбярэжжаў, апіраючыся на быкі, павіслі карункавыя фермы і, абрываючыся, застыглі ў імпэце цicнуць з жалезнай змогай адна другой рукі. А пад фермамі бегла і, б'ючыся грудзьмі аб цвярдыні быкоў, галасіла ад болю фанабэрыстая краля Дзвіна.

Мэер глядзеў на пабудову, адчуваючы гонар, што сярод гэтай грамады будаўнікоў, якія дзеля працы пакінулі дзесьці свае сем'і, працуе і яго дачка, інжынер Геня Мойжас. Раптам ён ціха, па-дзядоўску засмяяўся пры ўспаміне цікавага здарэння.

Аднойчы Бэня Ша ехаў з Віцебску ў Грайронак, і якраз пасярэдзіне дарогі пачаў заходзіць шабас. Бэня лагодна на вачох здзіўленых пасажыраў выпраг коней, таксама лагодна паклаў

перад сабою на чыстай хустачцы дзве халы і пачаў маліцца. Канькалі пасажыры перад балаголам, дабаўляючы яму грошай, каб ехаць далей, але богабаязны Бэня не зламаў суботы і толькі ўвечары, калі прачытаў гаўдолэ[69], запрог коней і паехаў не спяшаючыся далей.

— Напэўна, і хуткія цягнікі ў тым выпадку, калі машыніст яўрэй, маюць спыняцца і толькі апасля гаўдолэ рушыцца далей, — заўважыў, усміхаючыся, і, устаўшы з карча, пайшоў памалу да Грайронку. Прайшоў паўз брамы яўрэйскіх могліц і раптам пачуў, як на ратушы забілі на гвалт. Людзі беглі на пляц, і калі, павялічыўшы крок, Мэер дайшоў да катэдры, убачыў, што гарыць магазін Баранбаўма.

У першыя гады НЭПу Баранбаўм, ачуняўшы пасля моцных удараў грамадзянскай вайны, зноў пачаў тлусцець і кінуў вітацца, спатыкаючыся з капцэнамі і шэйвецамі, але потым крамы павятовай кааперацыі прымусілі тавары Баранбаўма зімаваць на паліцах, а прыбыткі яго крута пайшлі ўніз. І заўтра павінны былі запячатаць магазіны, а сёння ён загарэўся. Полымя шугала з вокан і дзвярэй, пачалі ўжо займацца сумежныя крамы, а перад магазінам бегаў гаспадар і, ломячы рукі, лямантаваў:

— Ой-ёй-ёй! Якая страта! Цяпер я не ногід, а жабрак! Апошні жабрак!

І раптам аднекуль загаласіла, знячэўку выскачыўшы, Пэся-Брайна:

— Ой, мае запалкі, ой, мае кастыгі, ой, мае агорткі! Трымайце яго, гэта падпальнік! Ой, мае кастыгі!

Праз галашэнне Пэсі-Брайны амаль што ўсё зрабілася зразумелым. На ноч яна хавала сваю скрыню з таварам у скляпенне магазіна Баранбаўма. Учора яна бачыла, як Баранбаўм і яшчэ нейкі чалавек, прыходзячы некалькі разоў у памяшканне з парожнімі мяшкамі, выходзілі адтуль з поўнымі. У апошні раз Баранбаўм прынёс вялікую бутлю і, паставіўшы яе поруч са скрыняй Пэсі-Брайны, сказаў:

— Вось няхай каля твае крамы да раніцы пастаіць бутля з газай. Няма часу яшчэ раз адмыкаць дзверы, каб занесці ў магазін.

І пажар сёння пачаўся з скляпення магазіна. Даўно ўжо скончыў лямантаваць Баранбаўм і, гледзячы проста ў вочы Пэсі-

[69] Малітва, якой канчаецца шабас *(яўр.)*.

Брайны, стаяў аслупянеўшы, пакуль міліцыянер не прапанаваў яму ісці.

Праз тыдзень Баранбаўма, які прызнаўся нарэшце ў падпале, адпраўлялі ў губернскую турму. Праходзячы паўз гурток рабочых на ходніку, ён, зірнуўшы спадылба, загарлапаніў:

— Яўрэі, — вас раскалолі гоі! Няма цяпер цвёрдага, як дыямент, кагалу, няма пашаны да святых слоў магідаў і рабінаў. І, як у часы Юдэі, зноў зваліць на вас неба, хай Элогім[70], сваю помсту!..

Рэзкі прарэзлівы свіст і рогат прымусілі Баранбаўма скончыць гутарку і павялічыць крок. Злосць бязмежная за тыя абшары, якія ён убачыў, выйшаўшы з Грайронку, выклікала ў яго жаданне рынуцца на канвойных, крычаць моцна і дзіка, як крычыць, трапіўшы ў пастку, буйны драпежнік.

Гандлявала яшчэ некалькі тыдняў пасля пажару на сваім звычайным месцы Пэся-Брайна. Апранутая ў ліхое паліто, яна, з лінялым парасонам у кастрычнікавую халепу, з казанком гарачага вугалля ў снежаньскую сцюжу, сядзела з маленства, як квактуха, над сваімі куханамі і агорткамі. Здавалася, зруйнуй гарматы, віхрастужы, паводкі Грайронка ўшчэнт, яна б з загадкавасцю егіпецкага сфінкса сядзела сярод крушняў на сваім звычайным месцы. І калі б на полі, засеяным ільном, нечакана ўзышла бульба, сяляне здзівіліся б меней, як заўважыўшы аднойчы ў гандлёвы дзень, што на гэтым месцы няма Пэсі-Брайны. Яшчэ не распрадаўшы ўсяго таго, што выпадкова не згарэла, Пэся-Брайна, трымаючы парасон у руках, пайшла ў кантору пабудовы фабрыкі і праз невялікі час падавала, стоячы побач з мулярам, цагліну за цаглінай.

А мулярам быў учарашні калбейнік Хаця Камар…

Чаго толькі не бачыў на франтох Хаця. Перш яго прызначылі за барабаншчыка ў дывізійны аркестр, і на другі дзень ён уцёк у перадавыя часткі. Як належнае адбыў за ўцёкі з аркестру спагнанне, але ўсё ж застаўся ў перадавым пяхотным палку. І крывой сейсмографу скакаў шлях Хаці Камара па мала ўзварушанай краіне:

Ліўны, Царыцын, Гайсін, Вільня,
Кіеў, Ціхарэцкая, Берасце.

Увесь час быў ён у перадавых частках і толькі ў апошнія месяцы вайны апынуўся паранены ў вайсковым шпіталі.

70 Кляцьба імем Бога *(яўр.)*.

На сумежным з Хацем ложку, у галавах якога быў надпіс:

**ЯНІС СТАСУЛІС**

— ляжаў цяжка паранены латышскі стралок і дзень і ноч безупынку ў бяспамяцці стагнаў. Аднойчы раніцой ён апрытомнеў і, звяртаючыся да Хаці, ледзь чутна спытаў:

— А што, таварыш, як Харкаў, у чырвоных?

Потым дзень цалкам, гадзінамі адпачываючы, штосьці пісаў, падобны да свячы, якая, перш чым канчаткова дагарэць, яскрава шугае. Увечары ён сказаў:

— Вось, таварыш, просьба да цябе вялікая. Памру я неўзабаве, і гэта праўда, як тое, што сёння аўторак, а заўтра будзе серада. Дашлі, калі ласка, гэты ліст да маці. Апрача мяне, нікога ў старой няма. Адрас у скрынцы. Прачытай, калі ёсць ахвота.

Дрэнна ведаў Хаця Камар расейскую мову, як дрэнна ведаў яе і Яніс Стасуліс, але ўсё ж разабраў:

> «Матулька мая сівая і самотная!
>
> Помню я, як ты калісьці ўпікала мяне, што пайшоў ахвотнікам у латышскія стралкі, — на тое ты і маці. Але ж і помніцца мне наская вясковая песня, якую ты спявала мне ў маленстве.
>
> Памажы, Божа! Курляндка!<br>Ты мыеш вугальныя мяшкі?<br>Звар'яцела ты, ліфляндка!<br>Гэта братавы святочныя кашулі.
>
> Хіба ж гэта песня, а не галашэнне? І бацька мой быў наймітам баронаў Розенбергаў, і маці была найміткай, але сын ім не будзе. Досыць галасіць. Слязьмі сыходзяць Дзвіна і Эгяль, Эвікшта і Пікстэрн. На трупах пабудаваны палацы Рыгі і Мітавы. У ружах — замкі баронаў, у палыне — вёскі сялян. Цяпер разумееш, даражэнькая, чаму я пайшоў у латышскія стралкі? Лепш год вайны, як вякі прыгнечання. Ляжу цяпер у вайсковым шпіталі. Рана мая зусім нікчэмная, і неўзабаве прыеду да цябе на пабыўку. Побач са мною ляжыць з аднаго боку яўрэй Хацкель Шнэерсон, з другога — беларус Тамаш Сякера, а далей — венгр Стэфан Пурліт. Ляжаць таму, што ў кожнай краіне ёсць бароны. Да пабачэння! Яніс.
>
> Матулька мая сівая і самотная».

І ўначы сканаў так, што ніхто не заўважыў, латышскі стралок. А на раніцу перашукалі ўсё ў чырвонаармейскай скрын-

цы, і ніякага адрасу не знайшлі. Гэтак і застаўся ліст у Хацi, як успамін, гэта ён жа і быў тым апошнім жыццёвым падлікам слодычы і пакуты, які прымусіў Хацю ўступіць у партыю бальшавікоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цагліну да цагліны, цагліну да цагліны, пастукваючы кельняй, Хаця Камар з радасцю сачыў, як падымаюцца ля сутокі Грайронкі і Дзвіны будынкі. Ён усёабдымны калбейнік, а не прафесіянал-муляр, але працуе з дакладнасцю гадзіншчыка, бо гэта ж для самых сябе, бо ў верасні мае пайсці фабрыка.

— Сам на фабрыцы не застануся, — разважае Хаця. — Мяне накіроўвае павятком на курсы стрэлачнікаў чыгункі, і ўсё ж, колькі калбейнікаў і шайвецаў знойдуць тут сабе сталае месца. Будзе працаваць і Бэня Ша, і Пэся-Брайна, і Герцык Віфэл Азэйгэр.

Але аднойчы ўвечары, ідучы дахаты, Хаця Камар заўважыў гурток яўрэяў ля ганку аднэй з хат Духаўскай вуліцы. Зацікавіўшыся, падышоў і пабачыў, што на прыступках ганку, неяк дзіўна схіліўшы галаву, сядзіць Герцык Віфэл Азэйгэр, апусціўшы рукі на латаныя калені нагавіц. Побач з ваданошам поўныя вёдры, да дзвярэй прыхілены каромысел. Дзед пачаў ужо халадзець, і гэта былі апошнія вёдры, якія ён прыцягнуў з Дзвіны.

Ужо, абсыпаючы зямлю белымі пялёсткамі садоў, праходзіў травень, а праца на пабудове фабрыкі пачала кульгаць. Працавалі і ў дні адпачынку, і ў свята, але ўсё ж недахоп цэглы спыняў учаснае выкананне плану. Зрыў пабудовы фабрыкі запалкавай саломкі прымусіць перайсці на тэмпы балаголаў і двойчы пашыраную фабрыку запалак у Дубровіцах. А цэглы нідзе не было, і ўсё радзей і радзей падымаліся ўгору кабінкі крант-вукосін.

— Хі-хі-хі. Зрыў! Мы з вамі так і раней наконт іхніх пабудоў гаманілі, пан рэбэ. Што чакаць, калі калішні барабаншчык стаў гаспадаром? Вось ён як спяшаецца. Проста не Хаця, а пан гарадскі галава. Хі-хі, — гаварыў учарашні лесапрамыслоўца Фішман рабіну, паказваючы з акна хаты на вуліцу. Па бруку крочыў з кельняй за поясам Хаця Камар, крочыў, усміхаючыся, да будынку павяткому РКП(б), амаль што ўслых гадаючы:

— Ха-ха-ха. Колькі цэглы. Колькі цэглы. На тры фабрыкі хопіць.

Праз дзень на агульным, надзвычайна скліканым пасяджэнні гарадскога партактыву была прынята прапанова Янкеля Мойжаса.

— Трэба, — казаў Янкель, — цэгла, і яе няма, і не заўтра яна будзе, бо бліжэйшая цагельня закантрактована пад ударную пабудову чыгункі. Мы, спадзеючыся ў гэтым стасунку на вонкавыя магчымасці, зусім забыліся на тутэйшыя. А вакол нас вялікія горы цэглы. Гэта:

крушні замку каралевы Боны,
сінагога на Духаўскай вуліцы,
муры і вежы кармаліцкага кляштару,
касцёл Марыі Магдалены.

Па ініцыятыве муляра пабудовы фабрыкі Хацкеля Шнэерсона былі даследаваны гэтыя горы. Цэгла замку і муроў кляштару ад часу зрабілася вельмі крохкай і зможа пайсці толькі як друз для бетаніроўкі, але на гэтую мэту ў пабудовы ёсць багата добрага ўзбярэжнага жвіру. Пасля, замкавыя крушні з'яўляюцца яшчэ і пэўнай гістарычнай каштоўнасцю. Застаюцца сінагога і касцёл. Цэгла іх вельмі добрая і якраз таго гатунку, у якім пабудова адчувае патрэбу. Ад сінагогі рэлігійнае брацтва адмовілася, што да касцёлу, дык ён апошнім часам зусім быў без рэлігійнага брацтва, бо даўно ўжо ў засценках — камуны і калгасы. Сінагогу, на маю думку, шкода руйнаваць, і ўласна таму, што яе, больш за касцёл падобную да жыллёвага будынку, лепш скарыстаць пад кінатэатр ці пад клуб чыгуначнікаў. Застаецца касцёл. Цэгла з яго, па самым павярхоўным падліку, не толькі пакрые недахоп цэглы на пабудове фабрыкі, але яшчэ застанецца на пабудову электрастанцыі.

Пасля Янкеля выступіў з прамовай Ічэ Гарэлік, сакратар павяткому РКСМ.

— Камсамол прымае шэфства над пабудовай фабрыкі запалкавай саломкі і дае абяцанку ў назначаны ўрадам тэрмін пусціць у рух балансірныя пілы. Самых лепшых таварышоў накіруе павятком РКСМ і на разборку касцёлу і на пабудову фабрыкі, перакінуўшы іх часова з пабудовы чыгункі. Камсамол не дапусціць ні адной хвіліны прастою на запалкавай фабрыцы ў Дубравіцах.

Праз некалькі дзён пачалі разбіваць касцёл Марыі Магдалены. Выносілі вонкі праз расчыненыя назаўсёды дзверы

жырандолі, пратэсы, статуі, абразы. Беспарадна схіліўся ў жагнанні мармуровы Ян Непамуцэн над вобразам Вастрабрамскай Богамаці, што ляжаў на бруку. Скінулі з шпіляў вялікія крыжы, спавітыя металёвымі лілеямі і дзідамі, скінулі са званіц аздобленыя візарункамі святых і каралёў званы. Толькі два невялічкія званы асцярожна вынеслі па сходах і панеслі — адзін да ратушы, другі да вакзалу. Ужо разбіралі прыбочныя алтары, цагліны з якіх спускалі па латках проста на фурманкі.

І зноў уздымаліся ўгару поўныя кабінкі крант-вукосін, зноў падавала цагліны Пэся-Брайна, зноў выкладваў муры Хаця Камар.

Як дакладна раней, амаль што першай, прыходзіла Пэся-Брайна на пляц, так дакладна і цяпер, амаль што першай, прыходзіла на пабудову.

— Ты, Пэся-Брайна, раней гандлявала запалкамі, а цяпер сама мусіш іх рабіць, — сказаў ёй аднойчы Хаця, і тая, усміхаючыся, адказала ў лад:

— Я — Пэся-Брайна, раней гандлявала запалкамі, а цяпер сама мушу іх рабіць.

Калі часамі спадаў цагляны струмень, калі не паспявалі крант-вукосіны за працай муляраў, тады камсамольцы, схапіўшы козы, пачыналі на спінах дадатковым жывым упартым струменем рушыць цэглу па лесвіцы ўгору.

— Давай, давай, камса! Давай, давай, сынкі! — крычаў згары, усміхаючыся, ад поту мокры Хаця Камар.

Ужо разбурылі шпілі касцёлу, знялі жалеза з страхі і пачалі разбіраць скляпенне. Дзівіў рабочых спакойны твар ксяндза Вайноўскага, калі штодня па некалькі разоў хадзіў ён вакол касцёлу. Што хавае пад стрыманай маскай святога баптыста дзед у сутане? Ці ён, як манахі некаторых сярэднявечных ордэнаў, адчувае слодыч у валасяніцы і вярыгах, ці ён, як паранены ў гарачай бойцы, першы час не заўважвае раны, а потым зваліцца ад вялікай страты крыві?

Ніхто не адчуваў у Грайронку так балюча паступовага знішчэння мінулага, як Стась. За апошнія гады ў яго з’явіліся сівыя валасы на скронях і зморшчкі каля вачэй. Стась шмат чытаў, шукаючы ў кнігах адказу на рубам пастаўленыя сучаснасцю пытанні. І калі ў гімназічныя гады ён пільна хаваў па закутках ксяндзоўскай хаты забароненыя кнігі Маркса, Бебеля, Лафарга, дык цяпер на яго стале заўсёды ляжала:

**Евангелле,**
**Шапенгаўэр — «Афарызмы»,**
**Шпенглер — «Закат Еўропы».**

Стасю здавалася, што пражыў ён не дваццаць дзевяць гадоў, а поўны балючых сумненняў, з мізэрнымі перамогамі і вялізарнымі зняможаннямі век. І аднойчы раніцой, пасля звычайнай апошнім часам бяссоннай ночы, ён, падышоўшы да стала, пачаў пісаць:

«Ліст самазабойцы да сэрцам чулых.

Шляхціц па паходжанні і інтэлігент па становішчы, я радзіўся ўчора, мадзею сёння і не бачу заўтра, не належачы да тых людзей, якія а дзявятай гадзіне раніцы да апошняй клеткі свае істоты ненавідзяць сучаснасць, а ў дзевяць гадзін вечару захапляюцца ёю. Ува мне самім змагаюцца два пачаткі, выклікаючы боль, мацней ад болю ўсіх забітых пад Вердэнам, і адзіная матэматычна абгрунтаваная раўнадзейная, адзіны лагічны вынік гэтых двух пачаткаў — самазабойства. Фізічную гангрэну лячылі распаленым жалезам, псіхічную трэба лячыць браўнінгам. Праз некалькі хвілін я буду трупам, і, пакуль пульсуе сэрца і асацыіруюцца думкі, трэба зірнуць у мінулае. Зірнуць, каб, згодна з мудрай радай Піфагора, не пакінуць пасля сябе пылу.

Нікога блізкага ў мяне не было, акрамя адной дзяўчыны, якую закатаваў Нілёнак. Я адпомсціў Нілёнку і забіў яго. Забіў яго не таму, што ён вораг савецкай улады і тых, якія клічуць сябе пралетарамі, а толькі таму, што ён забіў маю каханку, маю і больш нікога. Да забойства Нілёнка я прыйшоў праз забойства свайго бацькі, апырскаўшы ягонаю крывёю картку мае маці, вобраз якой убачыў тады ўпершыню. Але не гэтае штурхае мяне на самазабойства.

Пачуццё суму па каханай, калісьці вялізнае і бязмежнае, даўно прытупілася і зрабілася звычайным і будзённым, як пратэзы для інваліда. Боль, які я адчуваў, адшукаўшы сярод забітых бандытаў бацьку, даўно мінуў, а ад фотакарткі маці я нічога не атрымаў, бо ўяўляў яе сабе з маленства зусім інакш. Не гэтае штурхае мяне на самазабойства.

Вобраз Вастрабрамскай Богамаці, пад якім мяне знайшлі і ў выглядзе якой я ўяўляў сабе маці, валяецца на бруку. Арганы, якія кагадзе раджалі ў касцёле мелодыі Баха і Бетховена, цяпер заскуголяць джыгу і лявоніху. Званы з візарункамі Mater Dolorosa з мелодыкамі, поўнымі радасці па душах жывых, поўнымі смутку па душах змарлых, разбіты ўшчэнт. Засценкі панцырнай шляхты,

якія з’яўляліся культурнымі аазісамі ў пустэльні хворых на каўтун і каросту, знішчаны.

«Как потускло золото наилучшее. Камни святилища раскиданы по всем перекресткам», — так плакаў калісьці натхнёны Ерамія над крушнямі Ерусаліму, так плачу сёння я над крушнямі ўчарашняга. Была прыгожая раніца, быў сонечны поўдзень і хмуры Potterda nimerung[71].

«Твой попел
грукоча мне ў сэрца,
Клас».

Але ж я не агністы юнак Уленшпігель, а патрыцый часоў заняпаду, і над зняважанай Фландрыяй маёй навісла несмяротная ноч. Загублены компас, і хмары зацягваюць віткі зор. Жахліва і холадна.

Прыйшлі новыя людзі, і над імі ўзыходзіць новае сонца. Яны па-свойму развязалі ўсе праклятыя пытанні і па-свойму ўзважылі ўсе святыя каштоўнасці. Яны імкліваць, поўныя жыцця, да будучыні, вымятаючы непатрэбны ім пыл мінулага. І, здаецца, я ёсць гэты пыл.

Калі б у мяне цяпер была граната, я б шпырнуў яе ў тых, што разбіраюць касцёл Марыі Магдалены, але ж я інтэлігент з вялікай галавой, трухлявым асяродкам і нікчэмнымі мускуламі. Боль, які вялікі боль! Праз момант я пачну ўжо халадзець, і як добра аднойчы забіць сябе, як усё жыццё пакутаваць ад бяссільнай сваёй нянавісці.

Станіслаў Галькевіч».

Стась, устаўшы, спакойна выцягнуў з кішэні світкі браўнінг. Перавёў забяспечнік з «Sur» на «Teu». Зірнуў у акно. Ад касцёлу чамусьці беглі прэч, крычучы, людзі, сярод якіх спазнаў Ічэ. У некалькіх дзясятках крокаў ад акна падрэзваў ля альтанкі акацыі пан Еранім. Бліжэй пад самым акном сядзела на лаўцы, чытаючы кнігу, панна Малгажата. Адышоў ад стала на сярэдзіну пакою і для стойкасці расставіў ногі. І раптам хутка аберуч паднёс браўнінг да скроні і націснуў гашэтку.

Самотны стрэл зліўся з вялізарным гулам за сценамі хаты. Рухнула скляпенне касцёлу. Высока да неба паднялася белая хмара, засланіўшы потым сабою ўвесь касцёл.

Панна Малгажата пачула стрэл і рынулася бегма ў хату. Убегшы ў пакой, спярша спынілася, а пасля, схіліўшыся

[71] Змрок багоў, смерць багоў; загаловак кніжкі Фр. Ніцшэ *(ням.)*.

на калені каля Стася, на твары якога застыгла нейкае дзіўнае неўразуменне, загаласіла:

— Ой, Стась! Матка Боска! Ой, мой Стасік! Езус-Марыя!

А ксёндз не пачуў стрэлу! Некалькі хвілін ён стаяў нерухома, углядаючыся ў вапенную хмару, нібы нічога не разумеючы. Потым грымаса перакрывіла твар ксяндза, і ён з дзіўнай для яго гадоў хуткасцю пабег па вуліцы ад касцёлу. Ужо далёка за горадам, упаўшы ад стомы на пагорак і кідаючыся па зямлі ад вялізарнага болю, дзед раздзіраў на сабе ў шкумаццё сутану і крычаў адзінае:

— Ай-яй-яй-яй! Ай-яй-яй-яй!

## VI

Білі парогі штодзень.
Білі парогі штоноч,
Білі парогі ў час каралевы Боны,
Білі ў час імператара Мікалая.
Білі парогі…

Галасіла, марнуючы сілу дарэмна, Дзвіна.

І прыйшлі людзі з ланцугамі, і пачалі вымерваць гушчар дзядоўнікаў тэадалітамі, і пачалі закідваць у кіпень віроў лоты. Бачыла Дзвіна адвеку на Барысавым каменні крыжы, сёння пабачыла на скалах радыкалы, а заўтра ўспырсне ў артэрыі краіны юнацкі хмель тысяч кілават.

І нават Давід Гарлац, які, харчуючыся ўсё жыццё аплявухамі, нічому добраму не даваў веры, шчыра заўважыў на ўзбярэжжы аднаму з нялічных сумнявальнікаў:

— Чаму не? Гэта таксама бясхібна, як тое, што масёнжнік Давід Гарлац цяпер вартаўнік электрастанцыі, як тое, што барабаншчык Хаця Камар цяпер пераводзіць стрэлкі, як тое, што балагол Шлёма цяпер кандуктар чыгункі, як тое, што банкірша Пэся-Брайна цяпер працуе бракёрам на фабрыцы, як тое, што каваль Янкель Мойжас цяпер член Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, як тое, што дачка краўца Геня Мойжас цяпер працуе інжынерам. Калі пералічваць для прыкладу, хто ды ўва што перакінуўся, не хопіць дзён ад Пэйсаха да кастрычнікавых святаў, а мне трэба спяшацца на работу. Толькі слухай сюды.

Нашы бальшавікі звяжуць да купы і ўпартасць калбейнікаў, і веды Гені Мойжас, а ўсе разам — мы маем стрыножыць Дзвіну. І, магчыма, я не ўбачу, але калі праз пяць год вось тут не будзе праз раку грэблі, дык тады прыйдзі на могліцы і гукні:

— Клеіў дурня Довід Гарлац! Брахаў стары недарэка!

Нельга пазнаць у жанчыне, якая разам з Янкелем цяпер падымаецца да могліц на Вітавай Магіле, калішнюю Геню. У спецвопратцы, у чырвонаармейскіх галіфэ, у высокіх рыбацкіх ботах, яна была падобна да прыгожага хлапца. Моўчкі падняўшыся, падышлі яны да магілы, на гранітнай пліце якой пад пяцікутовай зоркай быў надпіс:

Блюма Мойжас.

Сакратар<br>
павятовага рэвалюцыйнага<br>
камітэту<br>
Цагліна<br>
сацыялістычнага будавання

Таксама моўчкі крыху пастаялі і пайшлі далей, спыніўшыся на паляне, адкуль відзён быў увесь Грайронак.

Надыходзіла шэрая гадзіна, і разам з пахамі шалвеі плылі пахі машыннай алівы і паравознай смолкі. На чыгунцы перагукваліся манеўровыя цягнікі. Вухаючы ў тупікох, адпачывалі некалькі хвілін, каб прапусціць хуткі пасажырскі, таварныя. Былі ў іх вагонах:

**нафта,** **лес,**<br>
**руда,** **жыта,**<br>
**вугаль,** **бульба,**<br>
**машыны,** **лён,**<br>
**тканкі**

Былі на іх вагонах надпісы станцый адпраўлення:

**Масква,**<br>
**Ленінград,** **Грайронак,**<br>
**Зацвілішкі,**<br>
**Крывы Рог,** **Буда-Курбацкая,**<br>
**Баку,** **Янавічы.**

І раптам мост праз Дзвіну загаманіў кожнай фермай — рушыўся хуткі цягнік. Чутно было, як ён, спыніўшыся, прастаяў крыху ў Грайронку і потым, коратка гукнуўшы, пайшоў далей, паступова зліваючы пачатковую выразлівасць руху ў вокамгненны чардаш. А за ім адзін за адным зноў пайшлі, пагрукваючы на стыках, цяжка вухкаючы, таварныя.

Ад фабрыкі чулася, як пад бліскучы зубаты дыск балансірнай пілы, глуха грукаючы па бярвенні, падкочваецца двухметровы асінавы камель. Запявае піла над горадам і ваколіцай басавітай гучнай нотай. Усё хутчэй мітусенне зваротаў дыску, усё мацней віханне песні, і ў храматычную гаму звонкай сталі ўрываецца раптам лямант пахучай асіны.

Першая, зірнуўшы на гадзіннік, парушыла маўчанку Геня:

— Ужо без дзесяці хвілін сем, Янкель. Трэба дахаты, бо ў мяне а дзявятай тэхнічная нарада. А мой гадзіннік крыху хлусіць, і ўжо няма Герцыка Віфэл Азэйгэр. Няма Блюмы, няма Эел-Бэра, няма Максіма Стахнова. Няма і антыпода іх Стася.

— І ніхто па Стасю не загалосіць, — перарваў Янкель. — Чула, Геня, як ювеліры адрозніваюць штучныя дарагія каменні ад натуральных? Яны abліваюць іх азотнай кіслатой, і дыяменты, смарагды, рубіны застаюцца цэлымі, а мізэрныя бліскаўкі рассыпаюцца на дробны пыл. Стась не вытрымаў гэтай суровай спробы, а грошы Гедыміна, Ягайлы і Альгерда сёння не каціруюцца. Ён спазніўся на век. Толькі.

Яны пачалі спускацца з Вітавай Магілы і, калі выйшлі на вуліцу, заўважылі ўперадзе чалавека з адзінай у горадзе хадой. Гэта быў Хаця Камар, які крочыў, памахваючы чырвона-зялёным ліхтарыкам у руцэ, і спяваў:

Рэбэйнішэ лэйлом!
Іх віл фюр дір
Ам дудке шпілн[72]…

*Масква, 1932 г.*

---

[72] Паважаны Пан Бог!
Я хачу табе
На дудцы сыграць… *(з яўр. песні).*

# «УЗВЫШША»[73]

Часопіс «Узвышша» стаўся першым беларускім часопісам, у якім у № 9–10 за 1929 год я надрукаваў сваё апавяданне «Як загінуў Ясь», — дагэтуль я друкаваўся ў літстаронках і літаратурных дадатках розных газетаў.

Паказальны лёс менавіта гэтага апавядання. Спачатку я даслаў яго ў літдадатак да газеты «Савецкая Беларусь», дзе неўзабаве ў паштовай скрынцы з’явіўся наступны адказ Міхася Чарота[74]: *«Ю. Віцьбічу. Вашае апавяданне «Як загінуў Ясь», дарэчы, напісанае вельмі добра, друкавацца не будзе, бо ў ім слаба адбіліся класавыя супярэчнасці на вёсцы»*.

Тады без усякіх зменаў я даслаў гэтае апавяданне да «Ўзвышша», дзе пабачыў яго надрукаваным пад зменены Літбелам назовам «Млынарова рука», і адначасна атрымаў ад Кузьмы Чорнага прачулы ліст, які, па сутнасці, з’яўляўся дыпломам на годнасць пісьменніка. Мне прыемна таксама прыгадаць, што тады ж адзначылі мае літаратарскія здатнасці Уладзімір Дубоўка і Язэп Пушча. Гэткім партызанскім чынам я прыйшоў да часопісу «Ўзвышша», стала друкуючыся ў ім, а таму для мяне зусім натуральным стаўся пазнейшы ўваход у Згуртаванне «Ўзвышша», але ён адбыўся не без змагання з паасобнымі пабочнымі чыноўнікамі.

---

73 Тэкст успамінаў Юркі Віцьбіча пра «Узвышша» быў упершыню апублікаваны ў: Юрэвіч, Лявон. «Узвышша», «Шыпшына» і Юрка Віцьбіч // Архіўная кніга / Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1997. С. 360–363.

74 Міхась Чарот (Кудзелька) (1896–1937), паэт, празаік, драматург. Друкаваўся з 1919 г. З 1920-га — супрацоўнік, у 1925–1929 гг. — рэдактар газеты «Савецкая Беларусь». Ініцыятар стварэння і кіраўнік літаб’яднання «Маладняк». Арыштаваны і расстраляны ў 1937 г. Аўтар кніг «Завіруха», «Босыя на вогнішчы» (1922), «Беларусь лапцюжная» (1927) і інш.

З 1922 году я жыў у Маскве, працуючы на ейных хімічных заводах і зарабляючы тым самым сабе на кавалак хлеба штодзённага і права на вышэйшую асвету, бо гэтага права я не меў як сын «лішэнца». Менавіта ў 1929–1930 гадах працаваў на Дэрбенеўскім фарбавым заводзе, а жыў разам з паэтам Алесем (цяпер Аляксеем) Зарыцкім у пазбаўленым дзённага святла сутарэнні на Арбаце (дом 51), у якім знаходзіўся Цэнтральны беларускі клуб, і, магчыма, нягледзячы на зусім не спрыяльныя для творчасці жыццёвыя ўмовы, мае творы, а значыцца, і іхні аўтар, сталіся знанымі для суродзічаў, бо вычуў бадай паляванне на сябе з боку розных літаратурных інстытуцыяў, каб я стаўся іхнім сябрам.

Бадай адначасна я атрымаў прапановы ўвайсці ў іхні склад ад Нацыянальнае секцыі расейскага згуртавання «Кузніца» і Беларускае секцыі МАПП (Маскоўская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў) — першую ачольваў маладняковец паэт Міхась Дуброўскі[75], а другую — таксама былая сяброўка «Маладняка» Зінаіда Бандарына[76]. Спаслаўшыся на сваю літаратурную маладосць, я адмовіўся ад гэтых прапановаў. Пазней у Маскве былы сябра Літаратурна-мастацкае камуны (група беларускіх футурыстаў) паэт Паўлюк Шукайла[77], расстраляны ў 1938 годзе бальшавікамі[78], спрабаваў разам з вядомым удмурцкім паэтам Кузебай Гердам[79] стварыць МОНП

[75] Міхась Дуброўскі (1897–1983), паэт, драматург, перакладчык. Быў членам «Маладняка», УАПП, «Кузніцы». У 1920–1930-х гг. жыў пераважна ў Маскве (у 1922–1925 гг. — студэнт Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава). Працаваў у газеце «Гудок», выкладаў, настаўнічаў.

[76] Зінаіда Бандарына (1909–1959), паэтка, празаік. Разам з А. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм выдала ў 1926 г. лірычны зборнік «Вершы». Аўтар зборніка вершаў «Веснацвет» (1931), аповесці «Шуміць тайга» (1929), «Ой, рана на Івана…» (1956), «Галіна Ільіна» (1959), шэрагу апавяданняў. У 1930–1933 гг. навучалася на літаратурна-сцэнарным факультэце Інстытута кінематаграфіі ў Маскве.

[77] Паўлюк Шукайла (1904–1939), паэт-футурыст, празаік, крытык, грамадскі дзеяч. Аўтар кнігі паэзіі «Акрываўленая зямля» (1930). Стваральнік «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны». З 1928 г. і да трагічнай смерці жыў і працаваў пераважна ў Маскве і Ленінградзе.

[78] Паўлюк Шукайла быў расстраляны 14.04.1939.

[79] Кузебай Герд (Кузьма Паўлавіч Чайнікаў, 1898–1937), удмурцкі паэт, празаік, краязнаўца, філолаг. Друкаваўся з 1914 г. У 1922–1925 гг. —

(Маскоўскае згуртаванне нацыянальных пісьменнікаў). І я прысутнічаў на ягоным арганізацыйным паседжанні. Аднак на гэтым паседжанні МОНП і скончыўся пасля наступнага, паводле словаў Шукайлы, адказу ЦК ВКП (б): у Маскве ёсць нацыянальныя секцыі пры расейскіх згуртаваннях, і няма аніякае патрэбы ў стварэнні паасобнага апрычонага згуртавання нацыянальных пісьменнікаў. У тыя ж часы я атрымаў прапанову з Менску ад пісьменніка Хвядоса Шынклера[80], што загінуў у апошнюю вайну пад Сталінградам, далучыцца да БелАПП, у якую ў 1929 годзе ператварыўся «Маладняк». У гэтым выпадку мяне выратавала тое, што статут БелАПП прадугледжваў сяброўства ў ім толькі тых, што жывуць у межах БССР.

Уваход у тую ці іншую з вышэйпрыгаданых літаратарскіх інстытуцый з’яўляўся найбольш мэтазгодным з пункту гледжання прыстасавання да савецкае рэчаіснасці. Аднак я пайшоў па лініі найбольшага супраціву. Можа, сімвалічна, што гэты рашучы крок я зрабіў пасля з’яўлення ў трэцім нумары «Ўзвышша» за 1930 год майго апавядання «Грыміць Перакагрыж», якое прысвечана перамаганню плытагонамі найбольш небяспечнага на Дзвіне парогу Перакагрыж.

Я паслаў з Масквы ў Менск да «Ўзвышша» просьбу прыняць мяне да гэтае славутае літаратарскае сям’і, якое сябры тады ўжо напалову апынуліся за бальшавіцкімі кратамі, а самы назоў, «узвышэнец», гучаў для савецкага вуха бадай, як «контррэвалюцыянер». (Трэба яшчэ дадаць, што ад самога «Ўзвышша» я не атрымліваў аніякіх прапановаў далучыцца да яго). У адказ на сваю просьбу я атрымаў паведамленне за подпісам Кузьмы

---

студэнт Вышэйшага літаратурна-мастацкага інстытута імя В. Брусава. У 1932 г. арыштаваны ў якасці кіраўніка міфічнага «Саюза вызвалення фінскіх народнасцяў» і прыгавораны да расстрэлу. Прысуд быў заменены 10 гадамі лагераў, як мяркуецца, па хадайніцтве М. Горкага. 10 кастрычніка 1937 г. у складзе вялікай групы салавецкіх вязняў быў расстраляны.

[80] Хвядос Шынклер (1903–1942), паэт, празаік, крытык. Друкаваўся з 1922 г. Аўтар кніг «Ічэ» (1929), «Стрэлачнік Мігай» (1930), «Сонца пад шпалы» (1933) і інш. Член «Маладняка», БелАППа. З канца 1920-х гг. — супрацоўнік рэгіянальных выданняў. У 1935–1941 гг. працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Полымя». Загінуў 25.10.1942 пад Сталінградам.

Чорнага[81] (старшыня) і Кандрата Крапівы[82] (сакратар), што, насуперак традыцыі Згуртавання аб прыёме новых сябраў, я аднагалосна прыняты да «Ўзвышша» на першым паседжанні ягоных сябраў, а паводле традыцыі маім «хросным бацькам», які падрабязна пазнаёміў узвышэнцаў з маім жыццём і творчасцю, стаўся Кузьма Чорны. Мне дагэтуль цяжка пераказаць тую радасць, якую я вычуў тады з прычыны гэтага паведамлення.

У канцы 1931 году адбылося гэтак званае «самаразвязванне» «Ўзвышша». Ягонага старшыню Кузьму Чорнага выклікалі ў ЦК КП(б) і сказалі, што існаванне «Ўзвышша» з'яўляецца непатрэбным і шкодным. Пад надрукаванай у апошнім нумары часопісу[83] і тагачасных газетах пастановай аб «самаразвязванні» ёсць подпісы ўсіх сябраў, за вылучэннем майго. Каб я жыў у Менску, дык, без сумлеву, меўся б і мой подпіс, але я напісаў потым, што нібы не атрымліваў ад Змітрака Бядулі[84] гэтае пастановы для подпісу. Аднак калі ўзвышэнцы быццам далі гэтаму веры, дык крытык Лукаш Бэндэ[85] дамагаўся ад мяне, каб я паасобна ў друку далучыўся да «самаразвязвання»…

Усё гэтае дае мне нават юрыдычнае права разам з сябрамі ўзвышэнцамі, якія не падпісалі пастановы, бо пакутавалі на

---

[81] Кузьма Чорны (Мікалай Карлавіч Раманоўскі, 1900–1944), празаік, крытык, драматург, публіцыст. Аўтар шматлікіх твораў, якія даўно сталі нацыянальнай класікай. У 1926–1931 гг. — намінальны старшыня згуртавання «Узвышша» (фактычным старшынёй быў Уладзімір Дубоўка, які стала жыў у Маскве).

[82] Кандрат Крапіва (Атраховіч, 1896–1991), сатырык, мовазнаўца. У 1926–1931 гг. — сябра згуртавання «Узвышша». У 1932–1936 гг. — загадчык аддзела ў часопісе «Полымя». Народны пісьменнік БССР (1956).

[83] Гл.: Пастанова літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Ўзвышша» // Узвышша. 1931. № 11–12. С. 178–180. Падпісанты — *«Зьмітрок Бядуля, П. Глебка, С. Дарожны, Лукаш Калюга, Т. Кляшторны, Крапіва, Максім Лужанін, А. Мрый, Кузьма Чорны»* (с. 180).

[84] Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік, 1886–1941), паэт, празаік, крытык. Друкаваўся з 1910 г. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы. Пасля рэвалюцыі ўваходзіў у літаб'яднанні «Маладняк» і «Узвышша».

[85] Лукаш Бэндэ (1903–1961), крытык-вульгарызатар. Друкаваўся з 1925 г. Працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва БССР, Дзяржаўным выдавецтве ў Ленінградзе, Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі Дом). У час Вялікай Айчыннай вайны — у войсках НКВД (Ленінград). Аўтар некалькіх кніг, шматлікіх артыкулаў, складальнік хрэстаматый па беларускай літаратуры.

бальшавіцкай катарзе, лічыць сябе не «самаразвязаным» узвышэнцам, і ці варта ўжо гаварыць пра тое найгалоўнае, што калі ўзвышэнцам я стаўся з першага свайго твору «Ян Непамуцэн», дык застануся ім да таго часу, калі смерць выб’е з мае рукі пёрка.

*4 траўня 1957 году*

# ЛІСТЫ ДА АНТОНА АДАМОВІЧА[86]

*20 лістапада 1951 году*

Глыбокапаважаны Спадар Адамовіч[87]!

Мне хочацца ўдакладніць у гэтым лісце адно пытанне, што не хацелася рабіць у прысутнасці спсп. Панькова[88] і Юхнаўца[89].

Мяне вельмі абышла Вашая заўвага ў прысутнасці вышэйадзначаных сведкаў, што ўзвышэнства Юркі Віцьбіча бадай што з'яўляецца ягоным асабістым домыслам і Вам асабіста нічога рашуча не вядома, каб Віцьбіча калі-небудзь прымалі ў сябры «Ўзвышша». У сувязі з усім гэтым сп. Панькову ў маёй прысутнасці даручана прагледзець беларускія газеты і часопісы за адпаведны час, каб праверыць узвышэнства Віцьбіча.

Больш чым зразумела, што Вашая заўвага мяне вельмі і вельмі балюча закранула. Сапраўды, уявіце чалавека, якому спрабуюць давесці, што ягоная матка не з'яўляецца ў сапраўднасці ягонай маткай, а таму і сам ён штосьці накшталт «Ивана, не помнящего родства».

---

86 Упершыню лісты Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча былі апублікаваныя ў: Архіўная кніга / Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1997. С. 365–379.

87 Антон Адамовіч (1909–1998), крытык, літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст. У 1920-х гг. — сябра згуртавання «Узвышша». У 1930 г. арыштаваны па справе «СВБ» і асуджаны на 5 гадоў высылкі. Вызвалены ў 1938 г. Падчас нямецкай акупацыі — у рэдакцыях «Беларускай (Менскай) газеты», «Раніцы» (Берлін). З 1949 г. — у ЗША.

88 Мікола Панькоў (1911–1995), публіцыст, бібліёграф, дзеяч эміграцыі. З 1944 г. — у Германіі. З 1951 г. — у ЗША. Падрыхтаваў даведнікі «Хто ёсць хто на эміграцыі», «Беларуская прэса на эміграцыі» і інш.

89 Янка Юхнавец (1921–2004), паэт, празаік, драматург. З 1944 г. — у Германіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Шорах моўкнасці» (1955), «Новая элегія» (1964), «Калюмбы» (1967), «Творы» (у 3 тамах; 1989–1990). З 1949 г. жыў у ЗША.

Пачну з таго, што нібы Кузьма Чорны ці Кандрат Крапіва ўзялі з «Чырвонага Сейбіту» мае не змешчаныя там апавяданні і змясцілі іх ва «Ўзвышшы». У сапраўднасці было наступнае. Я паслаў сваё апавяданне «Як загінуў Ясь» у нядзельную літаратурную старонку газеты «Савецкая Беларусь». Праз колькі дзён у «Паштовай скрынцы» гэтага дадатку я прачытаў наступнае: *«Вашае апавяданне (дарэчы, вельмі добра напісанае) друкавацца не будзе, бо слаба адбівае класавыя супярэчнасці на вёсцы»*.

Як значна пазней даведаўся, гэты адказ належаў Міхасю Чароту. Тады Я САМ гэтае самае апавяданне (без усякае перапрацоўкі) паслаў да «Ўзвышша». Паслаў менавіта да «Ўзвышша» зусім не выпадкова, бо лічыў, што з усіх тагачасных часопісаў гэты з'яўляецца для мяне найбліжэйшым, бо лічыў, што гэты часопіс менш за ўсё цікавяць класавыя супярэчнасці на вёсцы. Сапраўды, у № 9 за 1929 год я ўбачыў сваё апавяданне пад загалоўкам «Млынарова рука». Новы загаловак аж занадта падкрэсліваў класавыя супярэчнасці, а таму пазней у сваёй кніжцы «Смерць Ірмы Лайммінг» я аднавіў стары загаловак. Як мне перадаваў пазней Пятро Глебка[90], гэтае апавяданне вельмі спадабалася Уладзіміру Дубоўку[91]. У сувязі з гэтым апавяданнем я атрымаў вельмі добры і цёплы ліст ад Кузьмы Чорнага (найвыдатнага беларуса і чалавека), у якім ён запрашае мяне стала супрацоўнічаць у часопісе «Ўзвышша». Хачу ўсім гэтым сказаць, што я сам прыйшоў да часопісу «Ўзвышша» і ніхто мяне туды гвалтам не цягнуў. Гвалтам мяне цягнулі ў іншыя месцы.

Вы сцвярджаеце, што я падаў заяву ў сябры Згуртавання «Ўзвышша», маючы за спіной 2–3–4 апавяданні, і мяне туды

---

[90] Пятро Глебка (1905–1969), паэт, перакладчык, публіцыст. Друкаваўся з 1925 г. Сябра згуртавання «Узвышша», у 1928–1930 гг. — сакратар рэдакцыі аднайменнага часопіса. У 1930-х працаваў у рэдакцыях газеты «Калгаснік Беларусі», часопіса «Полымя рэвалюцыі». Аўтар кніг паэзіі «Шыпшына» (1927), «Урачыстыя дні» (1930) і інш. У 1930-х гг. актыўна ліставаўся з Ю. Віцьбічам (гл.: Полымя. 1998. № 1–3).

[91] Уладзімір Дубоўка (1900–1976), паэт, перакладчык, празаік. Друкаваўся з 1921 г. Скончыў у 1924 г. Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава. Адзін з заснавальнікаў і фактычны кіраўнік згуртавання «Узвышша». У 1930 г. рэпрэсаваны. Пасля рэабілітацыі ў 1957 г. стала жыў у Маскве. Аўтар кніг «Строма» (1923), «Трысцё» (1925), «Credo» (1926) і інш.

не прымалі ці не адразу прынялі. Гэта не зусім так, дакладней, — зусім не так. Я ўжо меў 2–3–4 дзясяткі апавяданняў і аповесць «Арцыбіскуп і смерд», калі за мною пачалі літаральна паляваць прадстаўнікі розных беларускіх літаратурных згуртаванняў. Паўлюк Шукайла спрабаваў зацягнуць мяне ў створанае ім МОНРП (Московское объединение национальных революционных писателей), Хвядос Шынклер па даручэнні Міхася Лынькова[92] і Платона Галавача[93] цягнуў мяне непасрэдна ў менскі БелАПП, Зіна Бандарына, з якой мяне ў той час лучылі і вузка асабістыя дачыненні, цягнула мяне (па месцы тагачаснага жыхарства) у Беларускую секцыю МАПП.

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што ў той час я ўжо меў «свайго» ўласнага сексота, а менавіта паэта Алеся Зарыцкага[94]. Ён прыехаў з Менску ці з Рагачову (дакладна не помню) у Маскву, каб жыць разам з Віцьбічам. Яго цікавіла маё ліставанне, мае выказванні па тых ці іншых пытаннях, мая чарговая творчасць і г. д. Калі я змяняў кватэру, дык адначасна са мной змяняў яе і Зарыцкі, абы толькі жыць разам з Віцьбічам. Нарэшце адразу з дзвюх крыніцаў — ад былога артыста тэатра Галубка[95] сп. Мароза[96] і ад Зіны Бандарынай я даведаўся, што Алесь Зарыцкі — сексот.

---

[92] Міхась Лынькоў (1899–1975), празаік. Друкаваўся з 1919 г. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў БелАППа. Працаваў у Дзяржвыдавецтве БССР (1930–1932), галоўным рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі» (1933–1941), старшынёй Праўлення СП БССР (1938–1948). Аўтар кніг «Апавяданні» (1927), «Гой» (1929), «Андрэй Лятун» (1930), «Міколка-паравоз» (1937), «Векапомныя дні» (1958) і інш.

[93] Платон Галавач (1903–1937), празаік. Друкаваўся з 1921 г. З 1928 г. — 1-ы сакратар ЦК ЛКСМБ, у 1929–1930 гг. — намеснік наркама асветы БССР. Адзін з кіраўнікоў «Маладняка» і БелАППа. У розны час быў рэдактарам газеты «Чырвоная змена», часопісаў «Маладняк», «Полымя». 29.10.1937 расстраляны. Аўтар кніг «Дробязі жыцця» (1927), «Хочацца жыць» (1930), «Спалох на загонах» (1930) і інш.

[94] Алесь (Аляксей) Зарыцкі (1911–1987), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1927 г. У 1936 г. скончыў Маскоўскі інстытут замежных моваў. Член СП СССР з 1935 г. Аўтар кніг «Эпічныя фрагменты» (1932), «Дняпроўскае рэха» (1946) і інш.

[95] Маецца на ўвазе «Трупа Галубка», створаная ў 1920 г. (з 1932 г. — БДТ-3) Уладзіславам Галубком (1882–1937), драматургам, акцёрам, рэжысёрам, народным артыстам БССР (1928).

[96] Асоба не высветлена.

Згадзіцеся цяпер са мной, што пры наяве ціску з боку Шукайлы, Шынклера, Бандарынай, пры наяве А. Зарыцкага падаць заяву менавіта ва «Ўзвышша», у якім на той час не было ўжо Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі, а здаецца, не было ўжо і Вас, ва «Ўзвышша», якое цкавалі з усіх бакоў, трэ' было мець вялікую мужнасць. Пазней мне менавіта гэтая мужнасць неаднойчы вылазіла бокам, але я дагэтуль ганаруся, што мне не забракла яе, каб трапіць менавіта ва «Ўзвышша».

Помню, што, пасылаючы з Масквы заяву ва «Ўзвышша», я лічыў сябе асабіста не дарослым да гэтага, але, разам з тым, я хацеў публічна падкрэсліць, з кім я, да якога лагеру належу. Аднак літаральна праз тыдзень атрымаў ліст ад Крапівы, што мяне аднагалосна прынялі ў сябры «Ўзвышша», атрымаў адначасна таксама адмысловае пасведчанне за подпісамі К. Чорнага і К. Крапівы. Я ў той час быў яшчэ вельмі малады, а таму помню, што з вялікім задавальненнем пры першай нагодзе тыцнуў гэтае пасведчанне пад нос Шукайлу і Бандарынай. Добра помню, што прыняцце мяне ў сябры «Ўзвышша» адбылося не 26 траўня, а, здаецца, у кастрычніку ці ў лістападзе — пэўне, у гэты час ужо не прытрымліваліся ранейшых традыцыяў згуртавання. Пазней мне, калі я ў Маскве досыць цяжка захварэў, сябры «Ўзвышша» прыслалі дапамогу ў 300 рублёў.

Яшчэ пазней я атрымаў ад Кузьмы Чорнага ліст з прапановай падпісаць паперу аб самазліквідаванні «Ўзвышша». Я не адказаў на гэты ліст, а потым спасылаўся на тое, што ўвогуле гэты ліст не атрымаў. Таму сёння нават і юрыдычна я лічу сябе верным да канца ўзвышэнцам. Дакладна я не помню цяпер дату майго прыняцця ў сябры «Ўзвышша», але затое добра помню, што калі праз некаторы час пасля «самазліквідавання» я завітаў у Менск, дык не знайшоў ужо і Максіма Лужаніна[97].

З нерэпрэсаваных сяброў «Узвышша», магчыма, ніхто не меў гэткага цкавання за «нацыяналістычныя памылкі», як самы малады ўзвышэнец Юрка Віцьбіч. Мяне не прынялі не толькі ў сябры, але нават і ў кандыдаты ССПБ. Між тым, туды адразу былі прынятыя старэйшыя ўзвышэнцы — Кузьма Чорны, Кан-

---

[97] Максім Лужанін (1909–2001), паэт, перакладчык, нарысіст. Друкаваўся з 1925 г. Быў сябрам згуртаванняў «Маладняк», «Узвышша». У 1933 г. рэпрэсаваны, але праз два гады выпушчаны з лагераў.

драт Крапіва, Змітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны[98]. Толькі Тодар Кляшторны[99] быў прыняты кандыдатам, але не за былое ўзвышэнства, а за справы ТАВІЗу. Дарэчы, сябрам тады быў адразу прыняты Мікола Целеш[100]. Юрка Віцьбіч не трапіў у сябры ці кандыдаты не таму, што ён не дарос да гэтае «высокае годнасці», бо ў лік сябраў трапіў зусім недалужны віцебскі паэт Браніслаў Люгоўскі[101]. Юрка Віцьбіч не трапіў вылучна таму, што, як яму шчыра сказаў Клімковіч[102]: *«Вы тымчасам не наш. Мы не адкідаем вас зусім, мы не адкідаем вашых здатнасцяў, мы не забараняем вам друкавацца, але вашая сучасная творчасць не адпавядае некаторым параграфам статуту ССПБ»*.

Калі ў Вас ёсць магчымасць перагарнуць старонкі газеты «Літаратура і мастацтва» за час, папярэдні стварэнню ССПБ, дык амаль у кожным нумары гэтае газеты Вы знойдзеце лаянку ў сувязі з памылкамі Юркі Віцьбіча. Пры гэтым у большасці гэтых лаянак заўсёды падкрэсліваецца, што памылкі Віцьбіча ідуць ад ягонае былое прыналежнасці да «Ўзвышша». Куль-

---

[98] Сяргей Дарожны (Серада, 1909–1943), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1925 г. Быў сябрам згуртаванняў «Маладняк» і «Узвышша». У 1936 г. рэпрэсаваны. Загінуў у лагеры. Аўтар кніг «Звон вясны» (1926, у суаўт. з І. Плаўнікам), «Васільковы россып» (1929), «Пракосы на памяць» (1932).

[99] Тодар Кляшторны (1903–1937), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1925 г. Быў сябрам «Маладняка», «Узвышша», БелАППа. Арыштаваны ў 1936 г., у 1937-м — расстраляны. Аўтар кніг «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Палі загаманілі» (1930), «Праз шторм — на штурм» (1934).

[100] Мікола Целеш (1900[1904?] — пасля 1976), празаік, публіцыст. Друкаваўся з 1929 г. Апавяданні і аповесці публікаваліся ў часопісах «Маладняк», «Полымя рэвалюцыі», «Паляўнічы Беларусі» і інш. Аўтар кніг «Апавяданні паляўнічага» (1931), «Са стрэльбай і сабакам» (1932), «Курылка» (1935) і інш. Ад 1944 г. жыў на эміграцыі ў ЗША. Пасля яго смерці ў выдавецтве БІНІМа выйшаў збор твораў «Хмары над Бацькаўшчынай».

[101] Браніслаў Люгоўскі (1908 — пасля 1940), паэт. Быў сябрам віцебскай філіі «Маладняка», пасля — Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў «Віцебскім пралетарыі», «Маладым аратым», «Чырвонай змене». У 1933 г. разам з Р. Жалязняком выдаў кнігу вершаў «Першы вытап». Лёс невядомы.

[102] Міхась Клімковіч (1899–1954), крытык-вульгарызатар, драматург. Друкаваўся з 1928 г. У 1932–1934 гг. — старшыня аргкамітэта, у 1934–1939 гг. — старшыня Праўлення СП БССР.

мінацыйнага пункту гэтая лаянка дасягнула ў часе гэтак званай рэформы правапісу[103]. Вы знойдзеце ў газеце «Звязда» за той жа час вялікі артыкул Андрэя Александровіча[104], дзе ён расклаў ворагаў па паліцах, а менавіта: *«Уладзімір Хадыка[105] — прадстаўнік кулацтва, Юлі Таўбін[106] — старое, не савецкае інтэлігенцыі, Юрка Віцьбіч — дваранства»* і г. д.

У той жа самы час у газеце «Літаратура і мастацтва» (на трэцяй старонцы зверху, злева) з'явіўся вялікі артыкул «Нашыя абвінавачванні Ю. Віцьбічу» за подпісамі М. Клімковіча, А. Александровіча і М. Лынькова[107]. Разам з тым, Вы нідзе не знойдзеце, каб Віцьбіч пакаяўся ў сваіх «памылках», хаця гэтага ад яго патрабавалі і гэтае ў той час лічылася абавязковым.

Гэтае цкаванне мяне перасягнула межы БССР. У «Литературной газете» на той час ёсць лаянка ў адрас Віцьбіча і нават карыкатура на яго. У часопісе «Калоссе», у раздзеле «Хроніка» (гэты часопіс я бачыў у доктара Янкі Станкевіча[108]), прыгадваюцца імёны У. Хадыкі і Ю. Віцьбіча як найбольшых апазіцыянераў да рэформы правапісу. У д-ра Станкевіча

---

[103] Маецца на ўвазе рэформа правапісу 1933 г., якая скасоўвала многія пункты рэзалюцыі Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. і шмат у чым набліжала беларускую мову да рускай.

[104] Андрэй Александровіч (1906–1963), пралетарскі паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1921 г. Адзін з арганізатараў літаб'яднання «Маладняк». У 1934–1937 гг. — намеснік старшыні Праўлення СП БССР. Рэдагаваў часопіс «Малады араты». Рэпрэсаваны ў 1938 г. Аўтар шматлікіх кніг, сярод якіх «Камсамольская нота» (разам з А. Вольным, 1924), «Па беларускім бруку» (1925), «Угрунь» (1927), правакатарскай паэмы «Цені на сонцы» (1930).

[105] Уладзімір Хадыка (1905–1940), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1926 г. Быў сябрам «Маладняка». Працаваў у часопісе «Полымя». Аўтар кніг «Суніцы» (1926), «Выбраныя вершы» (1932), «Радасны будзень» (1935). У 1936 г. арыштаваны і адпраўлены ў ГУЛАГ. Загінуў у лагеры.

[106] Юлі Таўбін (1911–1937), паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1926 г. Аўтар кніг «Агні» (1930), «Каб жыць, спяваць і не старэць» (1931), «Мая другая кніга» (1932), паэмы «Таўрыда» (1932). У 1933 г. рэпрэсаваны, у 1937 г. — расстраляны.

[107] ЛіМ. 1934. 6 лют.

[108] Янка Станкевіч (1891–1976), мовазнаўца, гісторык, грамадскі дзеяч. З 1949 г. — у ЗША. Далей Ю. Віцьбіч згадвае працу Я. Станкевіча «Зьмена граматыкі беларускага языка ў БССР» (Вільня, 1936).

ёсць, нарэшце, адмысловая праца, прысвечаная ў сваёй пэўнай частцы рэформе беларускага правапісу, дзе таксама прыгадваецца Юрка Віцьбіч. Пра ўзвышэнскія памылкі Віцьбіча прыгадвае і Плашчынскі[109] ў «Літаратуры і мастацтве» за 1939 г. у артыкуле «Пра творчасць Ю. Віцьбіча»[110]. За той жа самы час у часопісе «Полымя рэвалюцыі» ёсць вялікі артыкул Кучара[111], прысвечаны беларускай літаратуры за 30 год, дзе ў абзацы, што мае дачыненне да Ю. Віцьбіча, таксама падкрэсліваецца былая прыналежнасць яго да «Ўзвышша»[112]. Здаецца, усяго гэтага хопіць, хаця яно не абдымае цалкам усё тое, што я меў за «Ўзвышша». Аднак тут ёсць адна вялікая памылка з боку тых, што мяне лаялі. Я прыйшоў да «Ўзвышша» ўжо ўзвышэнцам. Характэрны ў гэтай галіне хаця б прыклад з апавяданнем «Як загінуў Ясь». Наадварот, некаторыя сябры «Ўзвышша» ў той час ужо значна адхіліліся ад ранейшае ўзвышэнскае лініі (Пятро Глебка), якое я саматугам прытрымліваўся.

Не захаваю ад Вас, што калі б хто-небудзь іншы ўзяў бы пад сумніў маю прыналежнасць да «Ўзвышша», дык мяне б гэта не абышло. З мяне цалкам хапае таго, што я з'яўляюся найлепшым сведкам майго ўласнага жыцця. Але калі гэты сумніў ідзе ад Вас, дык мне гэта крыўдна і нават незразумела. Незразумела тым больш, што ў адным сваім нядаўнім лісце да мяне Вы пішаце: *«Не прыміце майго «ўзвышэнскага прывітання» за штамп з таго боку — «с ком. приветом». Яно ў мяне ад шчырага сэрца, тым болей, што на цэлай эміграцыі пра-*

[109] Ізыдар Плашчынскі (на эмігр. Гуткоўскі, 1908–1986), крытык, публіцыст. З 1927 г. друкаваўся ў часопісах «Чырвоны сейбіт», «Узвышша», «Полымя рэвалюцыі», газеце «ЛіМ». Пасля вайны — на эміграцыі. Працягваў выступаць у друку з крытычнымі артыкуламі. У апошнія гады збіраў матэрыялы да кнігі пра свайго брата, паэта Язэпа Пушчу.

[110] Насамрэч гэты тэкст быў у газеце за 15 лютага 1941 г.

[111] Алесь (Айзік Евелевіч) Кучар (1910–1996), крытык-вульгарызатар. Друкаваўся з 1928 г. Працаваў у рэдакцыях літаратурных выданняў, выдавецтвах, апараце СП БССР. Аўтар кніг «Вялікая перабудова» (1933), «Творчасць Максіма Багдановіча» (1939) і інш.

[112] Відаць, маецца на ўвазе артыкул М. Клімковіча «Літаратура Савецкай Беларусі за 15 гадоў» у часопісе «Полымя рэвалюцыі» (1934, № 6–7), дзе на с. 215 разглядаецца творчасць Віцьбіча. Закідаў што да прыналежнасці Віцьбіча «Узвышшу» там не выяўлена.

*ва на гэткае прывітанне маем толькі мы з Вамі ўдвох і больш ніхто. Ант. Адамовіч».* Менавіта таму мне хочацца думаць, што я не зусім правільна зразумеў Вас у часе нашага спаткання ў Брукліне. Менавіта таму і гэты мой ліст атрымаўся аж занадта вялікі.

Шчыра зычу Вам усяго добрага.

Чакаю Ваш ліст.

З узвышэнскім прывітаннем

Юрка Віцьбіч

*5 снежня 1951 году*

Дарагі Спадар Адамовіч!

Удзячны за Ваш ліст. Уважліва прачытаўшы яго, пераканаўся, што мы, пэўне, абодва не ў стане цалкам абысціся без шпількаў, але затое не сумняваюся, што мы абодва ў стане абстрагавацца ад іх, не заўважаць іх. Прынамсі, я асабіста цяпер цалкам прытрымліваюся апошняга.

Вас цікавіць МОНРП. У канцы 30-х гадоў у Маскве мелася значная колькасць нацыянальных пісьменнікаў — адныя з іх вучыліся ў Інстытуце Валерыя Брусава, другія з’яўляліся палітэмігрантамі, толькі нязначная частка з іх увайшла ў склад нацыянальных секцыяў МАПП, пераважная большасць з іх стварыла свае нацыянальныя секцыі пры расейскім згуртаванні «Кузница». Галоўнымі «кавалямі» між «нацменаў» былі — летувіс Сігізмунд Валайтыс[113], удмурт Кузебай Герд, беларус Дуброўскі, украінец Аляксеенка і інш. Я асабіста ў той час не прымаў чыннага ўдзелу ў паседжаннях гэтых секцыяў, бо хаця і меў 2–3 друкаваныя апавяданні, але ад Дуброўскага атрымаў годнасць кандыдата, а не сябра і амаль ніколі не запрашаўся ім на агульнае паседжанне ўсіх «нацменаў».

Між іншым, праца беларускае секцыі «Кузницы» звычайна працякала ў Беларускім клубе на Арбаце, дзе Дуброўскі выкладаў беларускую мову і літаратуру. Тут жа я неяк пазнаёміўся з Паўлюком Шукайлам, якога ўжо раней ведаў як паэта.

[113] Сігізмунд Валайтыс (1892–1942) — літоўскі празаік, крытык, драматург, папулярызатар прыбалтыйскай літаратуры. Складальнік зборнікаў «Эстонские рассказы» (М.; Л.: Госиздат, 1927), «Поэзия народов СССР» (М.: ГАХН, Моск. т-во писателей, 1928).

Паўлюк Шукайла ў той час вучыўся ў Інстытуце чырвонае прафесуры (між іншым, ён яго не скончыў). Аднойчы (даты не помню) Шукайла запрашае мяне ў Дом пісьменніка на паседжанне ўсіх нацыянальных пісьменнікаў.

Як малады, я прыйшоў, зразумела, на гэтае паседжанне раней за ўсіх. Пакрысе падышлі Валайтыс і яшчэ два летувісы разам з ім, Кузебай Герд, цыганскі паэт Роман, індус Лугані, украінец Аляксеенка, ад беларусаў — Дуброўскі і Ус[114], увогуле каля 30 асобаў. Апошнім прыйшоў Паўлюк Шукайла, якога пераважная большасць прысутных бачыла ўпершыню. На галаве ён меў баброўую шапку такое велічыні, што яна нагадвала баярскую з тэатральнага рэквізіту (яе ён паклаў перад сабою на стале), вельмі добрае паліто з кенгуровым каўняром ён не скінуў, хаця ў пакоі было досыць цёпла, у руках трымаў свой заўсягдашні кій. Прысеў ён не дзе-небудзь збоку, а на самым пачэсным месцы, адсунуўшы пры гэтым крыху ўбок Дуброўскага і аднаго з летувісаў.

З'яўленне Шукайлы, а тым больш ягоная імпазантная вонкавасць зрабілі вялікае ўражанне на ўсіх прысутных. Што да Дуброўскага, які старшыняваў на гэтым паседжанні, дык той адразу пачаў заікацца, і, між іншым, меў рацыю. Шукайла досыць ветліва папрасіў у яго слова, у якім спачатку адрэкамендаваўся як шырака знаны ў беларускім народзе паэт, як стваральнік новае школы ў беларускай літаратуры і г. д., а потым раптам абваліўся на Дуброўскага, выказваючы сваё вялікае здзіўленне і нават абурэнне, што тут прысутнічае «такое ўбоства».

Дуброўскі сваім тонкім галаском паспрабаваў спачатку пярэчыць, але, зірнуўшы неяк спадылба на славуты кій, што ляжаў на стале побач з баярскай шапкай, дэманстратыўна пакінуў паседжанне. За ім выйшаў Аляксеенка, бо на ягоную рэпліку Шукайла заўважыў: «А хто, акрамя вашае сям'і, ведае пра тое, што вы паэт?» Ужо каля самых дзвярэй і нават крыху прыадчыніўшы іх, Дуброўскі затрымаўся, пачаўшы нешта благое выкрыкваць на адрас Шукайлы. Не падумайце толькі,

[114] Антон Ус (1894–1980), мастацтвазнаўца, педагог. Друкаваўся з 1930 г. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт у 1929 г. Загадчык кафедры мастацтвазнаўства Маскоўскага ўніверсітэта (1930–1932), сектара літаратуры і мастацтва ЦК КП(б)Б (1932–1934).

Спадар Адамовіч, што гэтае ёсць перабольшанне, але Шукайла схапіў кій і рынуўся да Дуброўскага, які ўмомант знікнуў за дзвярыма і больш не з'яўляўся.

І адразу неяк сталася так, што старшыняваць на паседжанні стаў Шукайла, хаця яго ніхто не выбіраў, а наадварот, ён выгнаў кагадзе абранага старшыню. Шукайла, даўшы сабе слова, літаральна заявіў наступнае: *«Не выпадае нам, нацыянальным пісьменнікам, знаходзіцца ў падсуседках ці прымаках пры іншых згуртаваннях. Нас тут досыць, каб стварыць МОНРП. Сёння я быў у ЦК КП(б) і ўжо палагодзіў гэтую справу. Дазвольце зачытаць вам праект статуту».*

Жыццёвая напорыстасць Паўлюка Шукайлы агульнавядомая. Між іншым, яна знайшла добры адбітак у паэме Крапівы «Хвядос — чырвоны нос»[115]. На Дуброўскага і, магчыма, Аляксеенку падзейнічаў ягоны кій, на нейкую частку — іншыя аксесуары: шапка, паліто з каўняром, нібы залаты гадзіннік, на значную частку — прыгадванне ЦК і амаль на ўсіх — тое, што сапраўды нікому не хацелася прымакамі стацца. Таму аднагалосна было вырашана стварыць МОНРП, а ягоным тымчасовым (да зацверджання статуту) старшынёй быў абраны Паўлюк Шукайла.

Пасля ніякіх паседжанняў МОНРПу не адбывалася. На мае запытанні аб прычынах гэтага Шукайла адмоўчваўся. Дуброўскі сцвярджаў, што Шукайлам зацікавілася ГПУ. Сумняваюся, каб Шукайла не ведаў, як адчыняюцца дзверы ў гэтай установе, хаця не сумняваюся, што Дуброўскі мог запабегчы ў гэтай справе. Значна пазней ад Сігізмунда Валайтыса я даведаўся, што Шукайла быў у ЦК пасля паседжання, а не перад ім, як ён запэўніваў, і ЦК не даў дазволу на існаванне МОНРПу, бо гэтым самым нацыянальныя пісьменнікі як бы хочуць свядома адмежавацца ад расейскіх.

---

[115] Прамой адсылкі да Шукайлы ў паэме Крапівы «Хвядос — чырвоны нос» (1930) няма, але ёсць шэраг сатырычных выпадаў у бок урбаністычнай маладой паэзіі. Магчыма, маюцца на ўвазе радкі «А другія, каб угнацца, / Дык рабілі вельмі проста: / Не ўзіраючыся ў працу, / Пераймалі дым і лёскат, // Дый ў абнімку з камінамі, / Ды ў начальства ўсё на воку… / Часта масы ўспаміналі / Толькі масы — дзесьці збоку» (Крапіва К. Выбраныя творы: у 2 т. Т. 1. Мінск: Мастацкая літаратура, 1986. С. 318).

Крыху наконт Паўлюка Шукайлы. А ўсё ж ён здатны паэт, добры беларус, неблагі арганізатар і ўвогуле вельмі цікавы чалавек. Вы, пэўне, ведаеце, што ягоныя радкі

> *«На Беларусі вада з крыві,*
> *палеткі з курганоў і крыжоў»*[116]

былі ўзятыя Міхасём Зарэцкім[117] як мотто[118] да «Крывічоў». Прынамсі мне пра гэта гаварыў сам Зарэцкі, але чамусьці (цяпер не помню чаму) яму яго выкраслілі. Прыгадваецца з Шукайлы таксама:

> *«Мары марыш, Марылька.*
> *Смехам душыш слёзы.*
> *Гавары, радная гаварыка,*
> *Аб чым там шэпчуць бярозы»*[119].

І хаця помніцца пародыя (здаецца, Сяргея Дарожнага):

> *«Выйду я на сенажаць*
> *ды з нагана ў жабу — бац!»,*

але з’яўленне Паўлюка Шукайлы ў новай беларускай літаратуры не з’яўляецца чымсьці выпадковым. І на гэтае невыпадковае месца больш за іншых надаваўся па сваіх якасцях менавіта Паўлюк Шукайла.

---

[116] Верш П. Шукайлы «На Беларусі…» надрукаваны ў зб. «Наддзьвіньне» (Полацак, 1926. С. 68–70): *«На Беларусі / вада з крыві, / палеткі з курганоў / і крыжоў. / Хто нож ёй у грудзі / ня ўбіў?.. / Ня плюнуўшы ў твар / хто пайшоў?..»*

[117] Міхась Зарэцкі (Касянкоў, 1901–1937), празаік. Друкаваўся з 1922 г. Быў сябрам «Маладняка», з 1927 г. — аб’яднання «Полымя». Рэпрэсаваны. Аўтар кніг «У віры жыцця» (1925), «Ракавыя жаронцы» (1930), раманаў «Сцежкі-дарожкі» (1928) і «Вязьмо» (1932). Далей Віцьбіч гаворыць пра раман Зарэцкага «Крывічы», пачатак публікацыі якога (Полымя. 1929. № 4) быў ашальмаваны вульгарна-сацыялагічнай крытыкай.

[118] Мотто (з італ. «выказванне») — афарызм, цытата, якая ставіцца перад творам у якасці эпіграфа.

[119] Пачатак верша П. Шукайлы «Марыльцы» (Наддзьвіньне. Полацак, 1926. С. 70–71).

Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна — Таварыства аматараў выпіць і закусіць. Па сутнасці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему. Вынаходнікам самае назвы ёсць Міхась Багун[120]. Гэтая назва неаднойчы прыгадвалася і ў друку, і на паседжаннях, і ў пратаколах гэтых паседжанняў. У склад ТАВІЗу ў розныя часы, або адначасна, уваходзілі Тодар Кляшторны, Уладзімір Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль[121], Алесь Дудар[122], Міхась Багун, Валеры Маракоў[123], Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Збіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-й гасцініцы, калі я прыязджаў з Віцебску, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы — уніз па вул. Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэнні Дому пісьменніка, дзе меўся пэўны час рэстаран. У сувязі з апошнім меў непрыемнасць: у адказ на заўвагу Эдуарда Самуйлёнка — «паграбок Аўэрбаха» — заўважыў: «А можа, паграбок Авербаха?» У той жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які даводзіў мне геніяльнасць Леапольда Авербаха[124].

---

[120] Міхась Багун (Блошкін, 1908–1938), паэт, празаік, перакладчык. Друкаваўся з 1925 г. У 1932–1936 гг. працаваў у Дзяржвыдавецтве БССР і ў рэдакцыі газеты «ЛіМ». Рэпрэсаваны. Аўтар кніг «Рэха бур» (1931), «Рэвалюцыі» (1932).

[121] Васіль Каваль (Кавалёў, 1907–1937), празаік. Друкаваўся з 1926 г. Працаваў у рэдакцыі часопіса «Маладняк». Рэпрэсаваны. Аўтар кніг «Як вясну гукалі» (1927), «На загонах» (1928), «Крыніца» (1929).

[122] Алесь Дудар (Дайлідовіч, 1904–1937), паэт, празаік, крытык, перакладчык. Друкаваўся з 1921 г. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў літаб’яднання «Маладняк». Рэпрэсаваны. Аўтар кніг «Беларусь бунтарская» (1925), «Сонечнымі сцежкамі» (1925), «І залацісцей, і сталёвей» (1926), зб. апавяданняў «Марсельеза» (1927), зб. артыкулаў «Пра літаратурныя справы» (1928).

[123] Валеры Маракоў (1909–1937), паэт. Друкаваўся з 1925 г. Быў сябрам літаб’яднання «Маладняк». Рэпрэсаваны. Аўтар кніг «Пялёсткі» (1926), «На залатым пакосе» (1927), «Вяршыні жаданняў» (1930), «Права на зброю» (1932).

[124] Леапольд Авербах (1903–1937), літаратурны крытык, сябра СП СССР, член рэдкалегіі часопіса «На посту», адказны рэдактар і ідэолаг часопіса «На литературном посту». Адзін з заснавальнікаў РАПП, генеральны сакратар УАПП (1926–1932). Расстраляны.

Беларуская багема, бадай, нічым не адрознівалася ад багемаў іншых нацыянальнасцяў. Яна з'яўлялася пратэстам супраць існуючага «Пракрустава ложа». На паседжаннях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя «маскі», пра якія прыгадваў Язэп Пушча[125]. ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны, а мне здаецца, што ён існуе і сёння. Прынамсі, добра сказана ў пасляваеннага Максіма Лужаніна:

*Тут плоціцца дзесяць марак*
*і ставіцца дзесяць чарак,*
*а мне трэба больш купіць —*
*і ўжыць, і сябрам наліць*[126].

Шчыра зычу ўсяго добрага.
Чакаю Ваш ліст.
З пашанай да Вас
Юрка Віцьбіч

*11 студзеня 1952 году*

Дарагі Спадар Адамовіч!

Удзячны за Ваш ліст, які атрымаў учора, і, адкінуўшы ўбок сваю чарговую працу, спяшаюся адказаць на яго.

Пачну з верша Дзям'яна Беднага пра «Янкін голас»[127]. Упершыню пачуў яго ў 1919 годзе ў Вяліжы ад свайго настаўніка

---

[125] Маюцца на ўвазе радкі з верша Язэпа Пушчы «Прарокі і вучні» з цыкла «Перад скупым аблiччам часу» (упершыню: Узвышша. 1929. № 5): *«Усе, усе мы носім маскі, / Нат скінуць дома баімося. / Да слёз смяёмся ў вечар майскі. / Да слёз спяваема увосень».*

[126] Крыніца цытаты не ўстаноўлена.

[127] Дзям'ян Бедны (1883–1945), рускі пралетарскі паэт. Маюцца на ўвазе яго надрукаваныя ў газеце «Правда» радкі, прысвечаныя Янку Купалу ў перыяд паслярэвалюцыйнага міжчасся: *«Янки посвист соловьиный / Превратился в шип змеиный, / Да, в змеиный».* Ант. Адамовіч цытуе верш Дз. Беднага ў ч. III сваёй кнігі «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры» якраз паводле артыкула А. Сянкевіча (гл.: Адамовіч Антон. Творы / Укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк: БІНІМ, 2003. Заўвага № 50 да ч. III).

М. Навіцкага. У другі раз — у Маскве, у часе дэкады беларускае літаратуры, калі яго ўжыў у сваім рэфераце, прачытаным у тамтэйшым Доме пісьменніка «таварыш» Сянкевіч, які ў той час узначальваў па партыйнай лініі беларускіх пісьменнікаў[128]. Між іншым, ягоны рэферат напалову складаўся з лаянкі на Янку Купалу і Якуба Коласа, пэўне, падрыхтоўвалася глеба для іхняга знішчэння. Потым гэты рэферат быў выдадзены паасобнай брашурай. Калі не памыляюся, дык, здаецца, ён быў змешчаны таксама ў «Литературной газете» (ці не ў 1930–1931?)[129]. У самым крайнім выпадку, калі пошукі першакрыніцы застануцца без выніку ды калі толькі, спадзяюся, нічога не маеце супраць, можна спаслацца на «Шыпшыну». Прынамсі, на яе некалькі разоў спасылаліся ў сваіх навуковых працах праф. Біржышка і праф. Вакар[130]. Што да «Завулку Янкі Купалы», дык вялікія фрагменты з яго змешчаныя ў найстарэйшай у ЗША летувіскай газеце «Келэйвіс» у Бостане.

Крыху яшчэ пра ТАВІЗ. Вы вельмі трапна ахарактарызавалі ягоную існасць — сапраўды гэта быў супраціў стварэнню пісьменніцкага калгасу. Гэта зусім не згуртаванне алкаголікаў. Характэрна, што аднойчы зусім п’яны Ўладзімір Хадыка прыгадаў з Максіма Рыльскага[131]: *«Ти випив самогону з кварту і, весь у бруді, п’яний, спиш»*, а недзе ёсць *«Паэты, сонца і Парыж»*. Не менш характэрна, што таксама зусім п’яны Эдуард Самуйлёнак крычаў: «Чаму я мушу эміграваць у Грузію?» Можна прывесці яшчэ з дзясятак прыкладаў.

---

[128] Аляксандр Сянкевіч (1884–1939), крытык, партыйны дзеяч БССР.

[129] Гаворка ідзе пра яго артыкул «В борьбе за пролетарскую литературу Белоруссии» (Литературная газета. 1930. 24 дек.).

[130] Мікалай Вакар (1897–1970), расійскі гісторык. Удзельнічаў у белым руху. З 1920 г. — на эміграцыі ў Францыі. Працаваў у рэдакцыі эміграцыйнай газеты «Последние новости». Ад сярэдзіны 1940-х жыў у ЗША. Выкладаў гісторыю ў каледжы г. Нортан (Масачусетс), Гарвардскім універсітэце. Аўтар работ беларусазнаўчай тэматыкі «The Name White Russia» (1949), «A Bibliografical Guide to Belorussia» (1956), «Belorussia. A Making of Nation. A Case Study» (1956).

[131] Максім Рыльскі (1895–1964), украінскі паэт, перакладчык. У 1920-х гг. належаў да аб’яднання «неакласікаў», выдаў каля 10 зборнікаў вершаў. У 1931 г. быў арыштаваны, год правёў у турме. Пасля гэтага творчасць Рыльскага скіравалася ў бок афіцыйнай савецкай паэзіі. Сябраваў з Якубам Коласам.

Да нейкае ступені, вельмі невялікае ступені, гэты наш ТАВІЗ нагадвае ясенінска-марыенгофскую «Зойкину квартиру»[132]. І тут, і там — літаратарская багема, аднак на гэтым падабенства і канчаецца. У нас ТАВІЗ набыў характар не толькі палітычнага, але і нацыянальнага супраціву, а таму невыпадкова не сыходзіў з парадку дзённага на партпаседжаннях.

Прыемна, што ТАВІЗ знойдзе адбітак у Вашай працы.

Пра канец Паўлюка Шукайлы чуў ад ягонага сваяка Самахвалава, які загадваў бібліятэкай у Беларускім клубе на Арбаце. Па ягоных словах, Шукайлу прызначылі дырэктарам Інстытуту кінематаграфіі ў Ленінградзе. Прыехаўшы туды, ён, ні з кім не ўзгадніўшы гэтага пытання, перайменаваў Інстытут у Акадэмію, а сябе ў прэзідэнты яе, заказаўшы адначасна адпаведныя бланкі і пячаткі. Сапраўды, усё гэтае вельмі характэрна для Шукайлы, але сумняваюся, каб толькі за гэтае яго расстралялі. Ад Данілы Абакшонка, дырэктара Беларускага клубу на Арбаце, чуў, што Шукайлу расстралялі як нацдэма і што да ягонага арышту спрычыніўся Іл. Барашка[133]. Між іншым, гэта той самы Даніла Абакшонак, які змясціў некалькі сваіх апавяданняў ва «Ўзвышшы» і якога Хв. Шынклер (па словах самога Абакшонка) заўсёды вітаў воклічам: «Здароў, Даніла, што памачыў х… у чарніла».

Дуброўскі, Шукайла і ГПУ. Дуброўскі быў сексотам, і менавіта за гэтае, але навонкі, безумоўна, па іншай прычыне, «камуніст» Абакшонак выставіў яго з Беларускага клубу. Усё ж Абакшонка прымусілі аднавіць Дуброўскага на ранейшай пасадзе. Тым не менш, праз два тыдні Абакшонак (трэба аддаць яму павіннае) выкінуў Дуброўскага зноў. Шукайла, на маю думку, па самой сваёй натуры не надаваўся на тое, каб стацца сексотам. Аднак, самаабараняючыся, ён, безумоўна, мог лёгка знайсці дзверы ГПУ.

---

[132] Відаць, маецца на ўвазе камедыя М. Булгакава «Зойкина квартира» (пастаўлена ў 1926 г.), дзе іранічна адлюстравана жыццё тэатральнай багемы.

[133] Іллары Барашка (1905–1968), празаік, сцэнарыст. Друкаваўся з 1923 г. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Полымя», «Малады араты», «Маладняк», газеты «Чырвоная змена». У 1932–1936 гг. — на студыі Белдзяржкіно ў Ленінградзе. З 1938 г. узначальваў Упраўленне навучальных устаноў Камітэта па справах кінематаграфіі пры СНК СССР. Аўтар кніг «У прасторы» (1926), «Камунары» (1931), «Буржуазныя плыні ў сучаснай літаратуры» (1930) і інш.

Шукайла і Зіна Бандарына. «Сувязь» іхняя ёсць вынаходка Звонака[134], які за штосьці помсціўся Бандарынай. Прынамсі, добра ведаю, што Бандарына за гэтую вынаходку пры людзях аплявушыла Звонака і хацела прыцягнуць яго да большае адказнасці. І хаця сама Зіна Бандарына была прыхільніцай «крылатага Эраса», аднак чуткі аб ейнай сувязі з Шукайлам не адпавядаюць сапраўднасці.

«Выйду я на сенажаць…». Мне цяпер прыгадалася, што калі аднойчы мы ўтрох (Дарожны, Лужанін і я) сядзелі за гарэлкай і Лужанін парушыў між іншым гэтае пытанне, дык Дарожны амаль хрысціўся, што аўтарам гэтае эпіграмы ёсць Міхась Багун. Крыху падобна на гэтае. Асабліва калі прыгадаеш, што на зборнік Кляшторнага «Праз шторм на штурм» Багун змясціў у «Чырвонай змене» рэцэнзію пад загалоўкам «З дарогі, крот і кракадзіл». Сам Кляшторны не надаваўся на тое, каб за гэтае вылаяць Багуна, але проста з гора безупынку цэлы тыдзень піў. Сам Шукайла гэтую эпіграму прыгадваў з пенай на вуснах, таму не думаю, каб ён быў ейным аўтарам.

Крыху наконт «Літаратурна-мастацкай камуны». Сапраўды, найздатнейшым у ёй быў Прыбытак Лад[135]. Мяне хвалюе сумны лёс найвыдатнага Макара Шалая[136], які таксама належаў да «Камуны», а значыцца, добра вядомы Вам. Мне даводзілася калісьці чытаць ягоныя добрыя творы і рэцэнзіі. Пра яго цяпер там ніхто не згадвае. І хоць я асабіста яго не ведаў, але мушу напісаць аб ім.

Між іншым, у «Літаратурна-мастацкай камуне» была жалезная шукайлаўская дысцыпліна. Чуў, што аднойчы, калі Менск наведаў Міхаіл Святлоў[137] і наладзіў свой літаратурны

---

[134] Алесь Звонак (1907–1996), паэт, сцэнарыст, перакладчык. Друкаваўся з 1925 г. Працаваў у газетах «Чырвоная Полаччына», «ЛіМ», часопісе «Маладняк», на Беларускім радыё. У 1936–1954 гг. — у сталінскіх лагерах. З 1955 г. жыў у Мінску. Аўтар кніг «Буры ў граніце» (1929), «На лінію агню» (1932), «Мая Радзіма» (1935) і інш.

[135] Прыбытак Лад — псеўданім Уладзіміра Прыбыткоўскага (?–1941?), літаратурнага крытыка. Друкаваўся з 1926 г. Быў сябрам «Маладняка», «Літаратурна-мастацкай камуны». Рэпрэсаваны.

[136] Макар Шалай (Шалаеў, 1906–1937), крытык. Сябра «Беларускай літаратурна-мастацкай камуны», «Маладняка», БелАППа. Расстраляны.

[137] Міхаіл Святлоў (Шэйнкман, 1903–1964), рускі паэт-лірык, надзвычай папулярны ў 1920–1930-х гг., у прыватнасці дзякуючы вершу «Гренада» (1926).

вечар, дык шукайлаўцы з’явіліся ў поўным сваім складзе і літаральна затукалі Святлова. На гэты год прыпадае 25-годдзе «Літаратурна-мастацкае камуны», і я хачу прасіць колішняга ейнага сябра Рыгора Крушыну[138] напісаць пра яе адмысловы артыкул у «Шыпшыну».

Кузебай Герд. Бачыў яго толькі аднойчы і менавіта на тым паседжанні, якое прыгадваў у папярэднім лісце да Вас. Чуў, што ва ўдмурцкай літаратуры ён займаў месца, раўназначнае нашаму Янку Купалу. Чытаў ягоныя вершы ў перакладзе на расейскую мову — моцныя і глыбока патрыятычныя. Ад Пятра Глебкі пазней даведаўся пра ягонае рэпрэсаванне.

Мне хочацца думаць, што Вы ў сваёй працы не аміняце супраціву беларускіх пісьменнікаў рэформе беларускага правапісу і ўвогуле русіфікацыі нашай мовы. Акрамя газетаў, гэты супраціў знайшоў адбітак у кнізе «Акадэмія Навук БССР. Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. Менск: Выд. Беларускай Акадэміі Навук. 1934 г.»

Кніга гэтая ёсць у Нью-Ёркскай бібліятэцы. Між іншым, пераглядаючы нашыя эміграцыйныя выданні, знайшоў у адным з іх вялікі спіс беларускіх кніжак, што ёсць у гэтай бібліятэцы. Пры гэтым складальнік спісу адзначае, што спіс ёсць павярхоўны і зусім не абдымае ўсяго таго, што ёсць на 42-й вуліцы.

Тымчасам усяго добрага.

Прашу перадаць прывітанне Вашай сям’і ад маёй сям’і.

З пашанай да Вас

Юрка Віцьбіч

П. С. Перачытаў уважліва ліст і ў сувязі з ТАВІЗам прыгадаў, што ў мяне тут ёсць фотакартка Валерыя Маракова, дзе ён сядзіць у шашлычнай за кухлем піва і перагортвае свае добрыя вершы. Ёсць у мяне таксама добрае і невялікае памерам клішэ з партрэту Ўладзіміра Хадыкі. Хочацца пры нагодзе апублікаваць яго, але не ў малых газетах, бо яны занадта палітычныя для гэтае мэты.

Яшчэ раз усяго добрага.

[138] Рыгор Крушына (1907–1979), паэт, публіцыст. У часе Другой сусветнай вайны працаваў у акупацыйнай перыёдыцы. Пасля — жыў за мяжой. Выдаў зборнікі паэзіі «Лебедзь чорная» (1947), «Выбраныя творы» (1957), «Хвіліна роздуму» (1968) і інш. Яго ўспаміны пра П. Шукайлу былі надрукаваныя ў 1961 г. у газеце «Бацькаўшчына» (гл. Р. Крушына. Выбраныя творы / Уклад., прадм., камент. М. Скоблы. Мінск: Кнігазбор, 2005. С. 298–300).

*15 чэрвеня 1956 году*

Дарагі Сябру!

Перад усім аб «Узвышшы». (…) Калі мне не давялося асабіста ведаць Дубоўку, Жылку[139], Пушчу, Бабарэку ды іншых старэйшых узвышэнцаў, а з Вамі, здаецца, пазнаёміўся толькі ў часе вайны ў Менску, дык затое меў сталую беспасярэднюю і лістовую лучнасць з іншымі ўзвышэнцамі. Максіма Лужаніна, нягледзячы на ўсе ягоныя перайманні, лічу адным з нашых найбольш таленавітых і цікавых паэтаў. Нас пазнаёміў у Менску Сяргей Дарожны, і ў мяне склалася ўражанне пра Лужаніна, што як чалавек ён куды больш валявы, заўзяты, чым той жа Сяргей Дарожны або Тодар Кляшторны. Захоўвалася ў мяне і жменька ягоных лістоў, добрых, сяброўскіх. У «Шыпшыне» я перадрукаваў некаторыя вершы Лужаніна («Вільнянка», «Дзве вясны» і інш.), што выклікала абурэнне з боку Клішэвіча[140], Сядуры[141], Дудзіцкага[142] і Сяднёва[143]. Яны штосьці супраць яго маюць, але я ім не сказаў пра тое, што і супраць іх хтосьці

[139] Уладзімір Жылка (1900–1933), паэт, перакладчык. У 1923–1926 гг. — вучыўся ў Чэхіі на гістарычна-філалагічным факультэце Карлавага ўніверсітэта ў Празе. У 1926 г. пераехаў у БССР. Быў сябрам згуртавання «Узвышша», працаваў у газеце «Звязда». Арыштаваны ў 1930 г. Памёр у лагеры. Аўтар кніг «Уяўленне» (1923), «На ростані» (1924), «З палёў Заходняй Беларусі» (1927).

[140] Уладзімір Клішэвіч (1914–1978), паэт. Друкаваўся з 1931 г. У 1936–1940 гг. — у сталінскіх лагерах. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у рэдакцыі «Газеты Случчыны». З 1948 г. — у ЗША. Аўтар кніг «Далячынь» (1964), «Васіль Каліна» (1965), «Сняцца сны мне залатыя» (1973).

[141] Уладзімір Сядура (Глыбінны, 1910–1997), празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. У часе вайны быў рэдактарам «Новага шляху». Пасля — жыў у ЗША. Аўтар кнігі «Доля беларускае культуры пад Саветамі» (1956), аповесцяў і крытычных нарысаў.

[142] Уладзімір Дудзіцкі (Гуцька, 1911–?), паэт, грамадскі дзеяч. У часе вайны — адзін з аўтараў «Беларускай газэты» і іншых выданняў. Пасля вайны — на эміграцыі, выкладаў, працаваў на радыё «Вызваленне». Лёс невядомы. Найбольш поўна яго спадчына рэпрэзентаваная ў кнізе «Творы» (Мінск: Лімарыус, 2010).

[143] Масей Сяднёў (1915–2001), паэт, празаік. Друкаваўся з 1933 г. у выданнях «Чырвоная змена», «ЛіМ», «Савецкая Беларусь», «Полымя рэвалюцыі» (1930-я гг.), у акупацыйных часопісах і газетах (1940-я). Арыштаваны ў 1936 г. і адпраўлены ў ГУЛАГ на 5 гадоў. У 1941 г. ўратаваўся. З 1943 г. — у Беластоку, пасля — у Германіі. З 1950 г. — у ЗША. Аўтар кніг «У акіяне ночы» (1946), «Спадзяванні» (1947), рамана «Раман Корзюк» (1985) і інш.

на эміграцыі штосьці мае. А ўвогуле ж *«не судзіце ды несудзімыя будзеце»*. Каб аб’ектыўна заглядацца на нашую родную літаратуру, мы не будзем пазычаць акуляры ў баранцэвічаў[144], як і ў іхніх беларускіх прыспешнікаў.

Мне хочацца напісаць артыкул або нарыс, прысвечаны ўзвышэнцам напярэдадні і пасля «самазліквідавання». Мне хочацца прыгадаць у гэтым нарысе Змітрака Бядулю, Кузьму Чорнага, К. Крапіву, Т. Кляшторнага, П. Глебку, С. Дарожнага, В. Шашалевіча[145], як і ўскосна, праз успаміны прыгаданых, ужо рэпрэсаваных бальшавікамі сяброў Згуртавання. (…)

Шчыра зычу ўсяго добрага.

З пашанай да Вас

Юрка Віцьбіч

*8 верасня 1962 году*

Дарагі Сябру!

(…) Дастаў просьбу ад аднаго нашага выдання напісаць успамін пра Янку Купалу і пішу пра… Якуба Коласа, а ўласне: «З Якубам Коласам па грыбы».

Давялося мне калісьці летаваць у Падбярэззі пад Пухавічамі, паблізу (2 км) ад лецішча Коласа і неаднойчы разам хадзіць па грыбы. Там Якуб Колас, бадай, нічым не нагадваў афіцыйнага Коласа з Дому пісьменніка на вул. Савецкай, 67 у Менску: «Зірні, браце, гэта табе не дыялектычны матэрыялізм, а баравік, духмяны шчыры грыб».

Хтосьці ўцякаў ад савецкай рэчаіснасці (ад таго ж дыямату ды іншага, паскуднага) у шашлычную на Камсамольскай ці ў «Еўропу», а Якуба Коласа ратавала замілаванне да грыбоў, ягадаў, кветкаў, птушкаў, да сустрэчаў з «простымі, звычайнымі» людзьмі, а ўвогуле — да таго, у чым адбівалася

[144] Слова, вытворнае ад імя Івана Баранцэвіча, былога школьнага настаўніка, які ў 1953 г. узначаліў «Объединение белоруссов-федералистов» (ОБФ) у ЗША. Быў аўтарам артыкулаў, скіраваных супраць нацыянальна свядомых беларусаў на Захадзе, што публікаваліся на старонках газеты «Новое русское слово» і якія Юрка Віцьбіч ніколі не пакідаў без увагі.

[145] Васіль Шашалевіч (1897–1941), драматург, празаік, малодшы брат сатырыка Андрэя Мрыя (Шашалевіча). У 1930–1931, 1937–1941 гг. — у сталінскіх турмах. Загінуў у лагеры на лесапавале. Аўтар п’ес «Апраметная» (1925), «Змрок» (1927), «Воўчыя вочы» (1928–1929), «Рой» (1931), «Сімфонія гневу» (пастаўлена ў 1935 г.).

ягоная бязмежная любоў да свае краіны і народу. Згадваецца эпіграма Кандрата Крапівы на Якуба Коласа:

*Быў я ў Парыжы на Кангрэсе,*
*То ў Загібельцы, браце, лепш:*
*Грыбоў няма ў Булонскім лесе,*
*А ў Сене — хоць бы адзін лешч.*

Вось акурат каля гэтае самае Загібелькі (надзвычай прыгожая мясцовасць на беразе Свіслачы) і хадзілі разам па грыбы.

Я арганічна не ў стане зрабіць агляд творчасці таго ці іншага нашага пісьменніка, хоць, можа, і няблага ведаю ягоную творчасць. Ніхто гэтае не зробіць лепш за Вас. Затое мне вельмі падабаецца праз тую ці іншую дэталь паказаць жывога, сапраўднага чалавека. І мне здаецца, што суродзіч лепш зразумее дзядзьку Змітрака Бядулю, калі даведаецца, як ён шукаў у Магілёве старую гэбрайскую школу, лепш зразумее Янку Купалу, калі дазнаецца, як ён сам ставіўся да свае «Над ракой Арэсай», лепш зразумее Якуба Коласа, калі пачуе, як ён для самога сябе, для душы і ад усяе душы пад скрыпку ўпаўголасу пяяў: «Колесницегонителя фараона погрузи…»[146] Вось і тут грыбы — нешта іншае, як тая ж дэталь. (…)

З пашанай да Вас

Ваш Юрка Віцьбіч

[146] Пачатак праваслаўнага кананічнага царкоўна-славянскага песнапення: *«Колесницегонителя фараона погрузи чудотворяй иногда Моисейский жезл, крестообразно поразив и разделив море: Израиля же беглеца пешеходца спасе, песнь Богови воспевающа».*

# НЕ ЧАРНІЛАМ, А КРЫВЁЮ[147]

*На зломе дзвюх эпох злавесных,*
*У неспрыяльным ветры злым,*
*Сваё жыццё прайшоў я чэсна:*
*Пясняр, змагар, бядняк праз век, —*
*Быў перш за ўсё я — чалавек.*

Уладзімір Жылка
«Тастамант»

*Мне лёсам вызначаны*
*Гэтакі прымус.*
*Аб шчасці сяння*
*Можна сніць і марыць.*
*За тое,*
*Што я толькі беларус,*
*Мне гэтакая кара!*
*Я кару іхную*
*З пагардаю прыняў,*
*Бо я — сын верны*
*Маці-Беларусі.*
*І я святога,*
*Гордага імя*
*Не адракуся!!!*

Тодар Лебяда[148]
«Надпіс на сцяне 95-й камеры»

[147] Тэкст быў апублікаваны ў: Юрэвіч Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 133–144.

[148] Тодар Лебяда (сапр. Шырокаў, 1914 — 1970) — паэт, драматург. У 1936 г. асуджаны на 5 гадоў зняволення. У часе Другой сусветнай вайны друкаваўся ў акупацыйнай перыёдыцы, быў рэдактарам газеты «Беларускае слова» (Віцебск), выдаў кнігу «Песні выгнання» (Менск, 1944). Пасля вайны быў паўторна рэпрэсаваны, асуджаны на 25 гадоў ГУЛАГу. З 1960 г., пасля лагера, стала жыў у Беларусі.

*Церні не звялі, церні замоўклі, —*
*бачыў я сёння, бачыў праз вокны.*
*З іхных калючак, з іхных бальзамаў*
*вяжуць вянок мне, вяжуць — я знаю.*
Язэп Пушча
«Вечар асенні, вечар маўклівы»

*Боль дурны я загаю,*
*Загаю і не загіну.*
*Як каханую сваю,*
*Я люблю Краіну.*
Уладзімір Хадыка
«Пасярод зямлі аблонь»

*Пайду ў сенажаці,*
*пайду на вазёры.*
*Не журыся, мая маці, наша доля — гора.*
*Або крыжам лягу,*
*або захлынуся.*
*Будуць мне тады пасагай слёзы Беларусі.*
Уладзімір Дубоўка
«Грахі чубатыя»

*Мастацкі дух ніколі не памрэ.*
*Не пахаваць яго пад курганамі,*
*не вычарпаць гадамі і вякамі.*
*Яму ў агні пякельным не згарэць.*
*Ён вырвецца з багны разводдзем буйным рэк*
*і загарыцца зноў бліскучымі агнямі.*
Алесь Дудар
«У музеі залатую бранзалету»

*Да самага скону*
*Усякім прымусам*
*І сіле прыгону*
*Скажу: «Беларусам*
*Павек астануся!» —*
*Свае ўласнай волі*
*Не здраджу ніколі.*
Власт[149]

[149] Власт — псеўданім Вацлава Ластоўскага (1883–1938), празаіка, гісторыка, этнографа, грамадскага дзеяча, паэта.

*Ваша імя святое цяпер*
*Вырываюць з крывёю ў жывых,*
*І смяецца у вус Крыважэр*
*Над ахвярамі ўчынкаў сваіх.*
*Паліняў, у задуме стаіць*
*Край адвечнай, жывой пекнаты.*
*Аб вас гутарка ў свет не бяжыць,*
*Закаціўся ваш век залаты,*
*Адзвінеўшы, ў імгле ён заціх…*
*Глум нясцерпны, і гвалт, і кірмаш…*
*У няволі сярод чужых*
*Памірае патомак ваш.*
Масей Сяднёў.
«Крывічам». Нова-Іванаўскі лагер. 1937

**Александровіч Андрэй — 10 гадоў**

У адной са сваіх паэмаў паэта піша аб сабе і аб сваёй Радзіме:

*…а па Александровічу Андрэю*
*ахрысцілася ў завеях*
*і цяпер завецца*
*Беларуссю Савецкай*[150].

У час допытаў следчыя НКВД зламалі яму два рабры. Пасля гэтага ён трапіў на 10 год за Палярны Круг у Ігарку. На сабе асабова паэта адчуў, што значыць «Беларусь Савецкая».

**Аляхновіч Мікола[151] — 8 гадоў**

У «Пішчалінскім замку» (Менская турма) спрабаваў скончыць жыццё самагубствам. Ён іржавым цвіком ускрыў сабе на руках

[150] Гл. у «Паэме імя Вызвалення» А. Александровіча (Менск: БДВ, 1930. С. 12): *«Беларусь у Янкі Купалы / безназоўнаю векавала. // А ў Якуба Коласа / і пазбаўленая права голасу. // У Бядулі — бядой бедавала. / У Гартнага — ледзь бунтавала. // А выйшла — / безназоўная і безгалосая / па Чароту на вогнішча босая. // Па Александровічу Андрэю / ахрысьцілася ў завеях / і цяпер завецца / Беларусьсю Савецкай».*

[151] Мікола Аляхновіч (1903–1959), крытык. Друкаваўся з 1919 г. (як крытык — з 1926 г.). Быў сябрам літаб'яднання «Маладняк», працаваў выкладчыкам, навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. Рэпрэсаваны ў 1936 г. Пасля рэабілітацыі ў 1957 г. жыў у Ленінградзе.

вены. І, непрытомнага ад страты крыві, яго знеслі ў турэмную бальніцу, там крыху падлячылі, а потым саслалі на 5 год у Сібір.

**Аляхновіч Францішак[152] (Монвід) — 10 гадоў, Салаўкі**

Жывучы ў Вільні, паверыў савецкай прапагандзе, што ў СССР будуецца беларускі дом, і пераехаў з Польшчы ў Менск. Праз нейкі нязначны час ДПУ яго арыштавала і саслала на 10 год на агульнавядомыя Салаўкі. Там досыць папакутаваў, пакуль «фашыстоўская Польшча» не абмяняла яго на аднаго патрэбнага бальшавікам польскага камуністага. У час вайны, ужо цяжка хворы, забіты ў сябе на кватэры агентам НКВД. У ягоным пахаванні ўзялі ўдзел шырокія колы Вільні. Нават тэндэнцыйная польская прэса адзначыла, што такога пахавання горад не бачыў з часу пахавання сэрца маршала Пілсудскага.

**Баранавых Сымон (Баранаў)[153] — 8 гадоў, Марыінск — Нова-Іванаўск — Калыма**

Ніхто з маладых беларускіх пісьменнікаў, акрамя Каваля Васіля, не здолеў так яскрава паказаць сялянскую цягу да зямлі, як Сымон Баранавых. Ягоны ўлюбёны герой — гэта селянін, які, працуючы, нібы чорны вол, ад досвітку да змроку, стварае нарэшце сваім мазалём і гарбом на месцы багны або пушчы сваю гаспадарку. Зразумела, што спярша бальшавіцкія крытыкі залічылі Баранавых у ранг кулацкіх пісьменнікаў, а потым НКВД зрабіла з гэтага адпаведныя вывады.

У эшалоне зняволеных беларусаў, які марудна рушыўся ад Марыінску да Ўладзівастоку, Баранавых пазнаёміў аднойчы сваіх сяброў з сюжэтам свайго першага і апошняга раману «Калі ўзыходзіла сонца», які перад сваім арыштам ён скончыў і здаў у друк. Трэ' было здзіўляцца, з якой падрабязнасцю, амаль слова ў слова, перадаваў ён змест вялікага твору. Галоўны герой гэтага раману гіне ў той момант, калі пасля ўпартай барацьбы са шматлікімі перашкодамі нарэшце пачало ўзыходзіць

[152] Францішак Аляхновіч (1883–1944), драматург, тэатральны рэжысёр, публіцыст. Друкаваўся з 1917 г. Аўтар дзясяткаў п'ес, мемуарнай кнігі «У кіпцюрох ГПУ» (1937). Забіты 03.03.1944.

[153] Сымон Баранавых (1900–1942), празаік. Друкаваўся з 1927 г. З 1936 г. — у сталінскіх турмах і лагерах, дзе і памёр. Аўтар кніг «Злосць» (1930), «Чужая зямля» (1930) і інш. Раман «Калі ўзыходзіла сонца» быў упершыню надрукаваны ў 1957 г.

сонца ягоных найлепшых надзеяў. Усе папярэднія апавяданні і аповесці Баранавых здаваліся «пробай пёрка» ў параўнанні з гэтым вялікім раманам, які меўся аздобіць сабой беларускую мастацкую літаратуру. І вось і сам таленавіты аўтар, сапраўдны сын свайго народу, гіне, «калі нарэшце ўзышло сонца» ягоных пісьменніцкіх імкненняў. Чорныя бальшавіцкія хмары назаўсёды закрылі ад чытачоў гэтае яскравае сонца.

Яшчэ з Менскае турмы Баранавых пісаў заявы на імя Сталіна, Калініна, Яжова і іншых савецкіх правадыроў з просьбай перагледзець ягоную справу. Пісьменнік усё яшчэ спадзяваўся, што ягоны арышт — нейкае непаразуменне і яго абавязкова вызваляць. Праз нейкі тэрмін прыйшоў адказ: *«Ваша справа скончана і больш пераглядацца не будзе»*.

Так, сапраўды, справа пісьменніка была скончана. Баранавых меў тыповае для ўнука і сына селяніна моцнае здароўе, але, трапіўшы пасля шэрагу турэмных этапаў на Калыму, ён у хуткім часе апынуўся ў ліку «дахадзягаў». Так на мове савецкай катаргі называюць тых зняволеных, з якіх ужо выціснуты ўсе сілы і яны неўзабаве маюць памерці.

Справа была скончана, але хочацца думаць, што прыйдзе светлы час, і яна будзе перагледжана вольным народам.

### Браништэйн Якаў[154]

Савецкая ўлада мела на мэце знішчыць нашую нацыянальную інтэлігенцыю. Адзін за адным зьнікалі за турэмнай брамай беларускія пісьменнікі. З дапамогай катавання, падробленых дакументаў, крывасведкаў следчыя НКВД фабрыкавалі акты абвінавачванняў. Ім шчыра дапамагалі ў гэтым пісьменнікі-камуністыя. І асабліва вылучаўся ў гэтай галіне крытык Якаў Бранштэйн. Па даручэнні НКВД ён пісаў такія «рэцэнзіі» на творчасць арыштаваных пісьменнікаў, што нават пратаколы следстваў здаваліся больш гуманнымі ў параўнанні з імі. За гэтую сваю подлую працу невук Бранштэйн атрымаў годнасць прафесара. Але ўсё ж няма «пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі» ні адной устойлівае кар’еры.

[154] Якаў Бранштэйн (1897–1937), крытык-вульгарызатар, літаратуразнаўца. Быў супрацоўнікам, членам-карэспандэнтам АН БССР, адказным сакратаром аргкамітэта СП БССР. Расстраляны. Аўтар кніг «Атака» (1930), «Праблемы ленінскага этапа ў літаратуразнаўстве» (1932), «Вынікі 15-гадовай барацьбы за марксізм-ленінізм у літаратуразнаўстве» (1932).

*«Аднойчы ўначы, — расказвае адзін малады паэта, — выклікалі мяне з Менскае турмы ў будынак НКВД на допыт. Звычайна нас перавозіла туды адна з тых страшных і пашыраных у СССР аўтамашынаў, якім народ даў красамоўнае імя «чорны воран». Жудасная, без вакенцаў, яна і ў сярэдзіне падзялялася на рад катухоў, каб абвінавачаныя не зносіліся паміж сабой. Усё ж пераборкі не даходзілі да столі машыны, і звычайна ў час кароткага пераезду абвінавачаныя перагаворваліся, назваўшы спярша сваё імя. І вось толькі я назваў сваё прозвішча, як пачуў з суседняга катуха адказ:*

*— Бранштэйн.*

*Не даючы веры сваім вушам, я перапытаў:*

*— Які Бранштэйн?*

*— Якаў Бранштэйн, крытык.*

*Тут я не вытрымаў і, успомніўшы ягоныя рэцэнзіі, пачаў лаяцца, а ў адказ чуў толькі адзінае:*

*— Дык я ж цяпер таксама з вамі. Я — з вамі!»*

Не, ніколі Якаў Бранштэйн не будзе разам з гаротнымі песнярамі беларускага народу. Ягоныя больш-менш аб’ектыўныя артыкулы пра творчасць нашых паасобных пісьменнікаў ніколі не пераважаць сабой ягоных ганебных «рэцэнзіяў»-пашквіляў.

**Галубок Уладзіслаў**

Гэта быў разнабочна даравіты самародак — драматург, рэжысёр, мастак, паэта, белетрысты. А галоўнае, гэта быў шчыры беларус, які ўсе свае здольнасці ахвяраваў свайму народу. Створаны ім вандроўны тэатр, напамінаючы часам цыганскі табар, аб’ездзіў амаль усе шматлікія мястэчкі Беларусі, пранікаючы ў самыя глухія вёскі яе. Гледачы гэтага сапраўды народнага тэатру не крычалі «біс» або «брава», але часта ўголас смяяліся або плакалі…

У Суражы, калі скончылася пастаноўка п’есы Галубка «Плытагоны», да аўтара падышоў селянін-дзед. У яго на нагах былі лапці-кавярзні, на галаве маргелка[155], а на плячах — стары латаны кажух. Паказваючы на сваю вопратку, ён сказаў:

— Дзядзька Галубок, вось гэты кажух мяне так не грэе, як твае «Плытагоны» мяне сагрэлі.

---

[155] Лямцавы капялюш.

Пасля Галубок расказваў, што ніякі ганарар ён не прамяняе на гэтую падзяку суражскага дзеда.

Галубок быў беларус, таму ён атрымаў ад савецкай улады не ордэн, а 10 год турмы. Розныя крыніцы даносяць, што ён недзе ў Сібіры загінуў.

**Гваздоў Мікола[156] — 3 гады, Ухт-Пячора**

Паходзіць з Віцебшчыны, скончыў у Віцебску кінатэхнікум, вучыўся ў БДУ.

Ён быў разнабочна даравітым чалавекам. Прагледзеўшы той ці іншы кінафільм, Гваздоў пісаў на яго рэцэнзію непараўнальна лепш за таго ці іншага прысяжнага тэатральнага крытыка. Музычныя інструменты — ці то гітара, ці то скрыпка, ці то мандаліна — гучалі ў ягоных руках, як у сапраўднага *maestro*. Усё ж перш за ўсё ён быў паэтам са сваім асаблівым тварам мадэрністага. Ягоны верш «Кавалак ночы ў Берліне» з'яўляецца ўзорам сапраўднага мастацтва. Ён быў яшчэ зусім малады, яшчэ толькі пачыналася ягонае свядомае жыццё, але…

НКВД саслала Гваздова на 3 гады — на край свету — у далёкую суровую Ухт-Пячору. Праз невялікі час ягоныя сябры Сяднёў і Хатулёў[157] атрымалі адтуль ліст з просьбай: «Прышліце мне гальштук». Гэтая просьба не патрабуе тлумачэння.

І ўспамінаецца балада Гваздова аб расстраляных, якія некалі выбухнуць з-пад зямлі дынамітам.

**Суднік Канстанцін — 6 гадоў**

Ёсць маладыя пісьменнікі-пачаткоўцы, якія вельмі ганарацца сваім знаёмствам, часта эфемерным, з тым ці іншым сталым пісьменнікам. Да ліку такіх маладых належаў студэнт БДУ Канстанцін Суднік. Прынамсі, ён заўсёды і ўсюды, пры ўсякім зручным, а часам і зусім не зручным выпадку, гаварыў:

— Я знаёмы з Язэпам Пушчам. Ён хваліў мой падрыхтаваны да друку зборнік «Гукі сэрца».

---

[156] Мікола Гваздоў (1916–1938?), паэт. Друкаваўся з 1932 г. Вершы публікаваліся на старонках газет «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і інш. Арыштаваны ў 1936 г. і асуджаны на 5 гадоў лагера. Верагодна, загінуў у ГУЛАГу.

[157] Пятро Хатулёў (1912–1937), крытык. Друкаваўся з 1932 г. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». Выступаў супраць вульгарна-сацыялагічных метадаў у крытыцы. Расстраляны.

Кажуць, што гэты зборнік меў усе дзіцячыя пісьменніцкія хваробы, але, разам з тым, сведчыў і аб таленавітасцi Судніка, якую заўважыў Пушча. Суднік ведаў на памяць усяго Пушчу і, шукаючы свайго собскага творчага твару, рушыў менавіта ў гэтым кірунку.

Калі як паэта-лірык Суднік толькі ўваходзіў у літаратуру, дык як майстра эпіграмы ён адразу вылучыўся сярод шматлікіх аўтараў-пачаткоўцаў. Зразумела, што пераважную большасць гэтых эпіграмаў ні ў якім разе нельга было друкаваць. Накіраваныя галоўным чынам супраць сталінскіх лізуноў, яны пачыналі жыць без газетаў і часапісаў. Сатыра — старая грозная зброя. Таму за эпіграму

*У Александровіча Андрэя*
*адно голая ідэя…*

аўтара пачалі абвінавачваць у спробе ахаяць пралетарскую літаратуру. А такіх эпіграмаў былі дзясяткі, і ўсе яны, як адзначалі ў сваіх пратаколах следчыя НКВД, з’яўляюцца контрсавецкімі творамі.

**Хведаровіч Мікола (Чарнушэвіч Мікола)[158]**

Нарадзіўся ў 1904. Капыль. Брат Чарнушэвіча Нічыпара.

Успамінаецца адзін з лепшых вершаў паэта, прысвечаны разгрому панскай Польшчай у 1927 г. Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады. З вялікім абурэннем чытаў ён тады ў час мітынгу з трыбуны на Пляцы Волі ў Менску:

*Краіна! Краіна!*
*Сыноў павялі*
*на ганьбу,*
*на здзекі,*
*на мукі…*

Здавалася, ягоны палкі пратэст ад шчырага сэрца паляцеў адсюль аж да кратаў Картуз-Бярозы і Лукішак.

[158] Мікола Хведаровіч (Чарнушэвіч) (1904–1982), паэт, перакладчык, мемуарыст, брат паэта Нічыпара Чарнушэвіча. Друкаваўся з 1924 г. Працаваў у часопісах «Бальшавік Беларусі», «Чырвоная Беларусь», «Полымя рэвалюцыі» і інш. У жніўні 1938 г. рэпрэсаваны. З 1956 г. — у Мінску. Аўтар кніг «Настроі» (1929), «Рытмы» (1930), кнігі ўспамінаў «Памятныя сустрэчы» (1977) і інш.

Прайшло ўсяго толькі 6 год. У 1933 г. НКВД арыштоўвае 96 выдатных дзеячаў Заходняе Беларусі, пачынаючы з паслоў «Грамады»: Рак-Міхайлоўскага, Мятлы, Гаўрыліка, Дварчаніна. Частку з іх пакаралі смерцю, частку на доўгі тэрмін саслалі ў Сібір.

А яшчэ праз 3 гады НКВД саслала туды і Хведаровіча. Разам з лепшымі сынамі Краіны бальшавікі павялі паэта

*на ганьбу,*
*на здзекі,*
*на мукі…*

**Шалай Макар**

Ніколі Менская турма не бачыла ў сваіх мурох такой колькасці інтэлігентаў, як за часы савецкай улады. Тут, чакаючы суду, гібелі, пакутавалі акадэмікі і прафесары, пісьменнікі і крытыкі, мастакі і акторы, дактары і інжынеры. Цяжка (невыказна цяжка) у турме, але ўсё ж яна — яшчэ не магілкі і арыштанты — не трупы. Яшчэ пульсуе сэрца, яшчэ асацыююцца думкі. Таму часам інтэлігенты распачыналі спрэчку вакол той ці іншай літаратурнай тэмы. Яны цытавалі на памяць класікаў сусветнай літаратуры і сваіх айчынных пісьменнікаў, спасылаючыся на шматлікія капітальныя працы беларускіх і замежных вучоных.

Такія дыскусіі мелі месца і ў той камеры, дзе сядзеў малады крытык Макар Шалай. Спачатку ён не браў у іх ніякага ўдзелу і, здавалася, нават спаў, лежачы на сваім верхнім палку. На яго таксама ніхто з дыспутантаў не звяртаў ніякай увагі. Але раптам, калі спрэчкі дасягалі кульмінацыйнага пункту, адтуль, зверху, раздаваўся гучны зык: «Гы-ы-ы!» Магчыма, менавіта з гэтым крыкам кідаліся ў атаку на гусараў Радзівіла казакі Антона Нябабы. У сапраўднасці з гэтым крыкам кумільгом злятаў са свайго палка ўніз Макар Шалай, і адразу пачыналася нешта вельмі падобнае да збівання царом Ірадам юдэйскіх младзенцаў. Праз якіх-небудзь пяць хвілінак акадэмікі і прафесары неяк збянтэжана паглядвалі і адзін на аднаго, і на маладога бязвусага крытыка, іхнага ўчарашняга студэнта, які перакуліў тэзісы ўсёй камеры так жа лёгка, як хлапчук разбурае ка́ртавы дамок. А тым часам Макар Шалай ужо зноў ляжаў на сваім верхнім палку сам-насам са сваімі думкамі.

Ніхто так не кпіў са следчых, як Макар Шалай. І зразумела, што гэтыя кпіны ён часцей падаваў пад такой сафістычнай

падліўкай, што не адразу можна было адчуць усю горкасць прыгатаванае ім ежы. А часам і проста абсячэ следчага, і той нават не ведае, пра што далей пытацца ў Макара. Такім чынам ён абышоў усіх старых дасведчаных следчых і нарэшце патрапіў да маладога стажора.

Калі стажор, які прыйшоў на пасаду следчага адразу ад варштату, не маючы за спіною амаль ніякай агульнай і прафесійнай адукацыі, зірнуў на Шалая, дык вельмі ўзрадаваўся. Перад ім стаяў з вельмі пакорлівым выразам на твары сціплы юнак. Стажор нават усміхнуўся, бо нельга было сумнявацца, што ягоны дэбют пройдзе паспяхова.

На ўсе рашуча запытанні стажора Шалай даваў самыя падрабязныя станоўчыя адказы. На пытанне:

— А скажыце, вы сапраўды хацелі адарваць БССР ад СССР?

Ён адразу адказваў:

— А як жа, зразумела, хацелі.

— І далучыць яе да Польшчы? — падказаў следчы.

— Не, чаму да Польшчы? — нават абураўся абвінавачаны. — Крый Божа нас ад гэтага. Мы хацелі далучыць яе да Індыі.

І стажор, для якога Індыя з’яўлялася «terra incognita», з паслухмянасцю фанографа запісаў гэты адказ.

У гэты момант у пакой увайшоў стары следчы.

— Ну, як? — запытаўся ён у стажора, і той задаволена адказаў:

— На пяць з прысыпкай. Прызнаўся ва ўсім.

Следчы спадылба зірнуў на Шалая, як на свайго старога знаёмага, неяк недаверліва гмыкнуў і пачаў чытаць пратакол следства. А Шалай тым часам сядзеў на крэсле з тварам пераможанага, які нарэшце не вытрымаў націску нязрушных фактаў. Калі следчы дайшоў да Індыі, ягоны твар пачырванеў. Гэты дасціпны адказ красамоўна падкрэсліваў усю беспадстаўнасць бальшавіцкіх абвінавачанняў і, выйшаўшы з пакояў НКВД, прагучаў па ўсёй краіне, як аплявуха па твары савецкай, з дазволу сказаць, юстыцыі.

Следчы з лаянкай вытурыў стажора вон і яшчэ з большай лаянкай пагнаў Шалая ў карцар.

## «ЛЮБЛЮ Я, РАЗУМЕЕЦЕ, ВІЦЕБСК»[159]

Парыж — другі Віцебск.
Марк Шагал[160]

Цяжка ўявіць сабе стары Віцебск без Юрыя Пэна[161]. На працягу, бадай, паўстагоддзя віцябляне прызвычаіліся бачыць свайго мастака, які спяшаўся да аблюбаванае ім напярэдадні мясціны або персанажа. Яны добра ведалі ягоную агульнадаступную карцінную галерэю, што была адначасна і атэлье, і школай малявання, і кватэрай для самотнага Пэна. А віцябляне

---

[159] Артыкул Юркі Віцьбіча «Люблю я, понимаете, Витебск» быў надрукаваны ў расейскамоўнай газеце «Новое русское слово» 1 верасня 1971 г. Пазней быў апублікаваны паводле беларускамоўнага арыгінала, які перахоўваецца ў Фундацыі Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк), у кнізе: Юрэвіч Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 145–149.

[160] Марк Шагал (1887–1985), адзін з самых уплывовых мастакоў XX стагоддзя. Нарадзіўся ў Лёзне. У 1906–1907 гг. вучыўся ў студыі Ю. Пэна. Пасля — з'ехаў у Пецярбург, дзе вучыўся ў Л. Бакста, М. Дабужынскага і інш. У 1910 г., атрымаўшы творчую стыпендыю, апынуўся ў Парыжы сярод мастакоў-авангардыстаў А. Мадыльяні, О. Цадкіна, Х. Суціна і інш. З пачаткам Першай сусветнай вайны вярнуўся ў Віцебск. Прыняўшы рэвалюцыю, Шагал стаў віцебскім губернскім камісарам па мастацтве, заснаваў у горадзе Віцебскую народную мастацкую школу, дзе выкладалі К. Малевіч, Э. Лісіцкі, М. Дабужынскі, Ю. Пэн. У 1920 г. з'ехаў у Маскву, а ў 1922 г. эміграваў у Еўропу, жыў пераважна ў Францыі.

[161] Юры (Юдаль, Іегуда) Пэн (1854–1937), мастак і педагог. У 1881–1886 гг. вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. З 1896 г. стала жыў у Віцебску, дзе адкрыў уласную студыю жывапісу (першую ў Беларусі) і вёў асветніцкую працу. Праславіўся творамі, прысвечанымі побыту местачковых яўрэяў, а таксама знакамітымі вучнямі — Маркам Шагалам, Саламонам Юдовіным і інш.

і Віцебск, ахутаныя сардэчнай цеплынёй, знайшлі вялікі адбітак на шмат якіх палотнах мастака.

Сам Юры Пэн не быў паводле свайго паходжання віцяблянін. Ён нарадзіўся ў 60-х гадох у ціхім павятовым гарадку былое Ковенскае губерні, які беларусы называлі Езяросы, літоўцы — Зарасай, а расейцы перайменавалі ў гонар аднаго з імператараў у Новааляксандраўск. Не зважаючы на вылучную галечу ягоных бацькоў, што межавала з жабрацтвам, Пэн, перамагаючы вялікія цяжкасці, трапіў у Акадэмію мастацтваў і скончыў яе ў 1885 годзе, атрымаўшы за поспехі сярэбраны медаль і званне мастака. Апошняе давала Пэну права застацца ў Пецярбургу, але ён вярнуўся з сталіцы ў гэтак званую рысу аселасці, абраўшы для свайго сталага жыхарства Віцебск. Гэты выбар не быў выпадковы, бо, паводле ўспамінаў скульптара Заіра Азгура[162] ў кніжцы «Незабыўнае», Пэн гаварыў: *«Люблю я, разумееце, Віцебск. І як гэты горад не любіць! Цудоўная рака! Высокія, дзе абрывістыя, а дзе пакатыя берагі… Я люблю і цэрквы Віцебску, бо яны не падобныя на смаленскія. Разумееце, я люблю партрэтнасць гораду. Кожны горад павінен мець свой партрэт. А наш Віцебск сваім абліччам адрозніваецца ад другіх гарадоў».*

Прывабнасць старадаўняга беларускага Віцебску не толькі не засланяла, а, наадварот, спалучалася ў Пэна з гаротным жыццём кроўных яму габраяў, якіх было палавіна жыхароў гораду. І тут адразу згадваюцца не гэткія ягоныя вялікія палотны, як «За ранішняй старонкай Талмуду» і «Стары рабін», а эцюд «Спіна старога габрая». На ім пададзены ззаду згорблены дзед, які ідзе пакрысе немаведама куды і немаведама чаго, склаўшы за спіною рукі. Ягонага твару не відаць, але досыць толькі зірнуць на спіну, каб адчуць па ёй невыказны цяжар — ад плачу на рэках Вавілонскіх да плачу на рэках Расейскай імперыі. Незабывальны таксама партрэт дзяўчыны, што звар'яцела пасля беластоцкага пагрому. Досыць зірнуць ёй у вочы, каб яны праследавалі вас колькі дзён. І пасля гэтага не дзівіць, калі ў Пэна ў сшытку для водгукаў наведнікаў ягонае карціннае галерэі быў запіс (цытую): *«Вы мне адкрылі вочы на раней мне*

[162] Заір Азгур (1908–1995), скульптар, мемуарыст. Стварыў помнік-бюст Янкі Купалы і помнік Якубу Коласу. Аўтар кніг успамінаў «Незабыўнае», «Тое, што помніцца…».

*не ведамае. Толькі ў вас я зразумеў, што такое «рыса аселасці». Сардэчны дзякуй. Ілля Рэпін*[163]*».*

Калі карціны бытавога і партрэтнага жанраў былі ў Пэна пераважна габрайскія, дык пейзажны жывапіс вылучна беларускі, прычым не менш прачулы і дарэшты дасканалы. А з гэтых ягоных шмат якіх пейзажаў найбольш вылучаецца «Млын на Віцьбе», якім захапляўся выдатны майстар беларускага пейзажу Вітольд Бялыніцкі-Біруля[164]. Між іншага, калі да Пэна звярачаліся ў беларускай мове, дык ён беззаганна адказваў у ёй жа, дадаючы пры гэтым: *«Я думаю на габрайскай мове, але ведаю адмалку і беларускую. Я ж з Езяросаў, дзе шмат беларусаў»*.

Напярэдадні рэвалюцыі талент Пэна, насуперак усім перашкодам, дасягнуў найбольшага росквіту. Ягоны партрэт «Дзяўчына ў белым» меў яшчэ на Парыжскім салоне 1907 году вылучны поспех і быў набыты вядомым калекцыянерам Жакобам. Пэн, належачы паводле манеры свайго пісьма да рэалістычнай школы, дасягнуў найбольшае дасканаласці ў партрэтах, якія можна было сустрэць у шмат якіх музеях Расіі. Характэрна, што гэта ў яго вучыліся гэткія знаныя пасля мастакі, як Марк Шагал, Заір Азгур, Саламон Юдовін[165], Сорын, Мешчанінаў, Шульман, Эйдэльман ды ладна іншых.

Мастак паспрабаваў зразумець рэвалюцыю, працуючы ў 20-х гадох над гэткімі кампазіцыямі, як «Шавец-камсамолец» і «Габрай-калгаснік», але часткова мае слушнасць Л. Дробаў, калі ў сваім артыкуле «Напеў гарадскіх ускраін», змешчаным

---

[163] Ілля Рэпін (1844–1930), вядомы рускі мастак, педагог, мемуарыст. У маёнтку Здраўнёва Віцебскай губерні почасту жыў з 1892 г. Праслаўлены партрэтыст, але застаўся ў памяці нашчадкаў перш за ўсё карцінамі «Бурлакі на Волзе», «Іван Жахлівы і яго сын Іван 16 лістапада 1581 года», «Запарожцы».

[164] Вітольд Бялыніцкі-Біруля (1872–1957), вядомы беларускі мастак-пейзажыст. Сябра Таварыства перасоўных выставаў з 1904 г. Народны мастак Беларусі (1944).

[165] Саламон Юдовін (1892–1954), графік. Нарадзіўся ў Бешанковічах (Віцебская вобл.) у сям'і рамеснікаў. У 1906–1910 гг. вучыўся ў студыі Пэна, пасля — у Пецярбурзе (у М. Бернштэйна, М. Дабужынскага). У 1918–1923 гг. выкладаў у Віцебску, арганізоўваў выставы мясцовых творцаў і яўрэйскага народнага мастацтва. Ад 1923 г. — у Пецярбурзе.

у газеце «Літаратура і мастацтва» ад 6 кастрычніка 1967 году, адзначае, што яны *«не выходзяць за межы звычайнае ілюстрацыі»*. Нарэшце, у 30-х гадох пачалося адкрытае цкаванне Пэна. Ён абвінавачваўся вульгарызатарамі ў «нацыянальнай абмежаванасці», «габрайскім нацыяналізме», «прапагандзе юдаізму» і «сіянісцкім трызненні». Перад ім рубам паставілі пытанне пра «творчую перабудову» і пераход да так званага сацыялістычнага рэалізму. Мастак апынуўся ў абставінах бадай поўнае ізаляцыі і ў сваіх апошніх змрочных карцінах «Мастак і смерць» і «Выскал смерці» бы прадбачыў сваю собскую страшную смерць.

У 1937 годзе ўвесь Віцебск нечакана ўскаланула жудасная вестка, што ягонага мастака Юрыя Пэна знайшлі забітым у ягонай кватэры на Гогалеўскай вуліцы. Забілі яго не з мэтай рабунку, бо ў шуфлядзе стала і нават у кішэні забітага захаваліся грошы. Забілі не ўначы, а ўдзень ды ў доме, што знаходзіцца ў самым цэнтры гораду і літаральна за трыццаць крокаў ад паставога міліцыянера. Яму, сямідзесяцігадоваму дзеду, паводле пратаколу, праламалі чэрап чымсьці падобным да цагліны. Зразумела, што ў 30-х гадох забойцаў доўга не шукалі і знайшлі ў самы дзень забойства. Гэта былі быццам бы шаснаццацігадовая пляменніца Пэна і ейны жаніх. І хоць у часе адкрытага суду над імі іхная вінаватасць відавочна для ўсіх нічым не была даведзеная, іх прысудзілі да найбольшага тэрміну зняволення ў канцэнтрацыйных лагерах. Аднак сам Віцебск іх тады забойцамі не прызнаў.

Тысячы віцяблянаў прыйшлі правесці Юрыя Пэна ў ягоную апошнюю дарогу. Прыйшлі аддаць яму развітальнае «бывай» і прыхільнікі ягонага таленту, і прататыпы ягоных шмат якіх персанажаў з сваймі дзецьмі ды ўнукамі. На іхных вачах можна было пабачыць шчырыя слёзы, як і пачуць іхны непадроблены плач, выкліканы балючай стратай вернага сябра. А за пахавальнай працэсіяй, якая расцягнулася на два кіламетры, бегла з гістэрычным крыкам псіхічна хворая пажылая жанчына, што калісьці адбілася на пэнаўскім партрэце дзяўчыны, звар’яцелай пасля пагрому.

Мае рацыю Л. Дробаў, калі свой кагадзе згаданы мной артыкул канчае высноваю: *«У гісторыю беларускага жывапісу Пэн увайшоў як цудоўны мастак-жанрыст, пясняр гарадской беднаты, пясняр роднай Віцебшчыны»*.

Аднак уважаю за патрэбнае дадаць — пясняр не толькі беднаты, а ўсяго народу. Таму хочацца думаць, што на ягонай магіле на Пескавіцкім габрайскім могільніку ўжо стаіць адпаведны народнаму мастаку помнік, што на тым доме, дзе ён жыў і тварыў, ёсць мемарыяльная дошка, што адной з віцебскіх вуліцаў нададзена ягонае светлае імя. І хоць амаль 40 год прайшло пасля пакутнае смерці Юрыя Пэна, але ўрэшце трэба адшукаць і пакараць ягоных запраўдных забойцаў.

# З ЛІСТАВАННЯ[166]

*5 снежня 1950 году*
*Саўт-Рывер*

Шаноўны Спадар Рэдактар![167]

Хочацца думаць, што мае нарысы «Не чарнілам, а крывёю» спадабаліся Вам і чытачам «Нового Русского Слова». Не сумняваюся таксама і ў тым, што яны не прыйшліся даспадобы рэдактару «Русского Голоса», чытачы якога ў сваёй большасці, на вялікі жаль, — беларусы старой эміграцыі. Спадзяюся ў найбліжэйшым часе даслаць Вам артыкул, прысвечаны варварскаму знішчэнню бальшавікамі на Беларусі амаль усіх помнікаў рэлігіі, гісторыі і мастацтва. А яшчэ больш, чым пра помнікі, хочацца напісаць пра шчырых працаўнікоў, замардаваных у шматлікіх савецкіх засценках.

Адначасна звяртаюся да Вас, Спадар Рэдактар, з вялікай просьбай, хоць яна і не мае непасрэднага дачынення да газеты. Калісьці ў мяне была неблагая бібліятэка (каля 10 тысяч тамоў) і карціны работы вядомых мастакоў. Усё гэта часткова знікла падчас вобыскаў і арыштаў, а часткова — падчас вайны. У остарбайтарскай торбе я змог прывезці ў Нямеччыну дзясятак-другі кніг і столькі ж карцін. Сярод іх ёсць акварэль Іллі Яфімавіча Рэпіна «Тры пальмы» (матыў вядомага лермантаўскага верша) і карціна (аловак) — «Дзяўчына, звар'яцелая пасля пагрому» работы Юрыя Майсеевіча Пэна — у мінулым майго добрага знаёмага. Цяпер абставіны (я маю сям'ю і трэці тыдзень без працы) прымушаюць мяне прадаць гэтыя дзве карціны, але хо-

[166] Тэкст лістоў быў упершыню апублікаваны ў: Юрэвіч Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 149–191. Арыгіналы лістоў перахоўваюцца ў архіве Юркі Віцьбіча (Фундацыя Пётры Крэчэўскага, Нью-Ёрк).

[167] Ліст да рэдактара газеты «Новое русское слово» (Нью-Ёрк).

чацца, каб яны трапілі куды-небудзь у музей або клуб. Магчыма, Вы, Спадар Рэдактар, ведаеце, каму можна іх прапанаваць, тым больш, што я не збіраюся прасіць за іх многа: мне проста сорамна прадаваць іх (карціна Пэна — ягоны падарунак), але жыццё вымушае…

Прабачце за клопаты.

Шчыра ўдзячны Вам Юрка Віцьбіч

*5 ліпеня 1958 году*
*Нью-Ёрк*

Шаноўны Спадар Стукаліч!

З вялікай цікавасцю прачытала Ваш артыкул пра мастака Пэна і ўсё, што звязана з горадам Віцебскам. Я нарадзілася і правяла сваё дзяцінства ў Віцебску, і ў памяці зберагліся ўспаміны пра гэты цудоўны горад, людзей, што яго насялялі, і пра тое, што складала прывабнасць гэтага гораду.

Буду Вам вельмі ўдзячная, калі Вы мне падкажаце, дзе і якія матэрыялы можна атрымаць пра Віцебск і дзе можна ўбачыць літаграфіі або карціны Пэна, якія я, верагодна, не адзін раз бачыла ў дзяцінстве.

Дзякую яшчэ раз за падараваную радасць і дазвольце папрасіць Вас напісаць яшчэ пра Віцебск, Беларусь і пра жыццё ў гэтым краі.

Шчыра, з пашанай

Дора Давідсон

*22 ліпеня 1958 году*
*Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі*

Шаноўная Спадарыня Давідсон!

Прашу прабачэння, што са спазненнем адказваю на Ваш ветлівы ліст, за які вельмі ўдзячны — для літаратара гэта вялікая маральная падтрымка. Мне прыемна, што Вам спадабаўся мой нарыс пра Пэна і Віцебск. Сам я закаханы ў гэты горад, а з Пэнам, нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах, сябраваў.

Вас цікавіць, дзе і якія матэрыялы можна атрымаць пра Віцебск і дзе можна ўбачыць літаграфіі альбо карціны Пэна. Я мог бы прыслаць Вам доўгі спіс літаратуры пра Віцебск, але ён будзе без карысці, бо ў ЗША наогул, а ў Славянскім аддзеле Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі, у прыватнасці, такой літаратуры амаль няма. І ўсё ж, калі не памыляюся, там ёсць:

Россия. Под ред. В. П. Семёнова. Том IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПБ. Издание А. Ф. Девриена. 1905. Натуральна, што гэта кніжка састарэла, як і яе аднагодак, Ваш пакорны слуга, але гістарычны матэрыял у ёй не згубіў сваёй вартасці. Віцебску ў гэтай кнізе прысвечаны петытам старонкі 453–459, а на ўкладцы змешчаны краявіды гораду.

Мне пісаць пра Віцебск значна памагаюць тыя абставіны, што некалі я займаўся археалагічнымі раскопкамі ў самім горадзе і ягоным наваколлі, кіраваў навуковай экспедыцыяй па ўліку помнікаў гісторыі і мастацтва, працаваў над гісторыяй віцебскіх фабрык і заводаў і г. д., а яшчэ, фігуральна кажучы, праглынуў пуд архіўнага пылу. Шмат пісаў пра Віцебск і Беларусь у розных перыядычных выданнях і ў асобна выдадзеных маіх кнігах. Мая асабістая бібліятэка ў Віцебску (каля 10 тысяч тамоў) згарэла на пачатку вайны, але некалькі дзясяткаў кніг я ўсё ж дацягнуў да Саўт-Рыверу. Між іх альбом з краявідамі Віцебску, Полацку, Дзвіны і г. д. (каля 100 здымкаў), матэрыялы экспедыцыі па ўліку помнікаў гісторыі і мастацтва (каля 50 здымкаў), вялікі план Віцебску (1904 году), некалькі карцін, а між іх «Чорная Тройца» Юдовіна і Пэна — партрэт дзяўчынкі, якая звар'яцела пасля пагрому, — падарункі саміх мастакоў. У ЗША зноў сабраў неблагую і немалую бібліятэку, выпісваю амаль усё, што выдаецца там пра Беларусь.

З каталогаў «Международной книги» ведаю, што ў гэтым годзе ў Менску павінна выйсці з друку кніжка пра Віцебск са шматлікімі ілюстрацыямі. Я ўжо замовіў яе для сябе ў Лондане, дзе ёсць адна кнігарня, якая прадае (танней, як у Нью-Ёрку) кнігі, выдадзеныя ў СССР. Калі Вас гэтая кніга зацікавіць, дашлю Вам адрас лонданскай кнігарні, дарэчы, ніякага авансу пры папярэдняй замове не патрабуецца. Але зразумела, што гэтая кніга яшчэ больш тэндэнцыйная за вышэйназваны том IX і патрабуе вельмі крытычнага падыходу да яе.

З большасці маіх уласных краявідаў Віцебску, Дзвіны і г. д., з плану Віцебску, з карцін Пэна і Юдовіна зроблены фотакопіі адным нью-ёркскім віцяблянінам са старой эміграцыі, які прыязджаў у Саўт-Рывер. Калі палічыце патрэбным, я магу выслаць ягоны адрас і адначасна яго папярэдзіць.

На эміграцыі я, улічваючы абставіны, што пішу толькі ў вольны час, надрукаваў параўнальна багата пра Беларусь і Віцебск на рускай мове, але значна больш — на беларускай.

Калі Вас зацікавіць, я магу прыслаць даведнік пра надрукаванае мною ў рускіх перыядычных выданнях. На беларускай мове ў мяне ёсць кніжка, выдадзеная ў Мюнхене, — «Плыве з-пад Святое Гары Нёман», у ёй — пра Беларусь і пра асабліва дарагі мне Віцебск, пра «Ідэл міт зайнэм фідэл», пра Кагальны роў у Гомлі, школішча ў Магілёве і г. д.

На жаль, не ведаю, ці выйшла з друку кніжка на габрайскай мове пра Віцебскую габрайскую суполку, кніжку меўся выдаць Vitebski Benevolent-Association і Vitebski branch Arbeiter Ring 224. Калі Вы не маеце гэтай кнігі, прышлю адрас Камітэту па яе выданні.

Аднак пара і спыніцца.

Яшчэ раз прашу прабачэння за мой спознены адказ.

Прашу пісаць, калі будзе вольны час і жаданне.

Юры Стукаліч

*13 красавіка 1961 году*
*Нью-Ёрк*

Высокапаважаны Спадар Віцьбіч!

Толькі сёння прачытала Ваш артыкул, што з’явіўся нядаўна ў «НРС», і зноў з асаблівым задавальненнем — тыя радкі, у якіх Вы ўпамінаеце пра Віцебск і гісторыю ўсяго гэтага краю.

Выпадкова толькі што нечакана знайшла Ваш першы ліст, дзе Вы так замілавана пішаце пра гэты горад. Я атрымала і Ваш другі ліст, але ўсё неяк была занятая і не паспела адпісаць, да таго ж неяк і не ўспаміналася ні пра дзяцінства, ні пра Віцебск. Вы пішаце ў сваім лісце: *«Я закаханы ў гэты горад»*. Мусіць, гэты горад сапраўды мае асаблівую прывабнасць. Не так даўно мне прыйшлося гаварыць з адным чалавекам з Беларусі. І калі я сказала, што гэты край знаю, ён узрадаваўся: *«Няўжо Вы і мой горад ведаеце — Віцебск?»* І мы вельмі ажыўлена ўвесь вечар прыгадвалі вуліцы, назвы, план гораду і цудоўную Дзвіну і мост праз яе, што вядзе да вакзалу. Мой ліст атрымаецца задоўгі, калі пачну зноў згадваць Дзвіну, Губернатарскі сад, каменныя масты сярод гораду, скляпенні гандлёвага раду і званіцу, дзесьці там, за турмой… Ён многа расказваў пра Віцебск у гады Другой вайны і бальшавізму, пра тамтэйшых людзей, моцных, лаяльных, але з нейкай хітрынкай, пра тое, як разросся горад, як многа новых фабрык і які пабудавалі новы вялікі мост — цуд тэхнікі!

Як бачыце, *«нашага палку пабольшала»*, ёсць яшчэ людзі ў Амерыцы, якія захавалі ўспаміны пра Віцебск, ягоныя ўзгоркі, ягоныя навакольныя лясы. (А такіх мяшаных лясоў нідзе ва ўсім свеце не знойдзеш!)

Я працую ў бібліятэцы Калумбійскага ўніверсітэту, і праз мае рукі праходзяць новыя выданні рускіх кніг. Мне ўжо некалькі разоў трапляліся кнігі пра Беларусь і Віцебск. А ў адной кнізе ўбачыла малюнак берагу ў Полацку, там, дзе ўздымаецца гэтая знакамітая, здаецца, апетая ў цудоўным вершы Блока «Белая царква»[168].

Буду Вам паведамляць, калі знайду што-небудзь, звязанае з Беларуссю. Дзякую за звесткі пра кнігі, названыя ў Вашых лістах. Спадзяюся ўлучыць момант прачытаць іх, пакуль што часу вельмі мала, але ўсё ж з прыемнасцю падзялілася з Вамі сваімі ўражаннямі і «пяшчотнымі пачуццямі» да ўсяго гэтага краю з ягонай сапраўднай своеасаблівай рамантыкай.

Пастараюся ў наступным больш акуратна адказваць на лісты.
З прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі

Дора Давідсон

*13 траўня 1961 году*
*Саўт-Рывер*

Шаноўная Спадарыня Давідсон!

Прабачце, што са спазненнем адказваю на Ваш ветлівы ліст ад 13.4.61 г., за які вельмі ўдзячны. Мне прыемна, што Вам спадабаўся мой чарговы артыкул у «НРСлове», дзе прыгадваюцца Віцебск і Беларусь. Наогул дзякуючы гэтым сваім публікацыям я пазнаёміўся з многімі віцяблянамі і час ад часу з імі ліступося.

Зайздрошчу Вам, што, працуючы ў такой вядомай і вялікай бібліятэцы, як бібліятэка Калумбійскага ўніверсітэту, Вы маеце магчымасць знаёміцца з новымі выданнямі кніг, дзе ўпамінаюцца Віцебск і Беларусь. Ёсць такія кнігі і ў маёй сціплай асабістай бібліятэцы, якая лічыць каля 2 тысяч назваў. Аднак, маючы ў мінулым вопыт падсавецкага грамадзяніна, я крытычна стаўлюся да савецкіх выданняў. Вось таму, напры-

[168] Маецца на ўвазе верш Аляксандра Блока «Белая церковь», прысвечаны храму ў в. Тараканава (паблізу маёнтка Шахматава), дзе паэт вянчаўся з Л. Д. Мендзялеевай.

клад, новы мост праз Дзвіну, пра які Вы чыталі, я б не назваў цудам тэхнікі. Нягледзячы на маю закаханасць у Віцебск, павінен зазначыць, што гэты новы мост, па якім я неаднойчы праходзіў, ва ўсіх адносінах саступае многім амерыканскім мастам, а тым больш такім надзвычайным, як мост Вашынгтона ў Нью-Ёрку або мост праз пралiў Залатыя вароты ў Сан-Францыска. Апошнія, сапраўды, — цуд тэхнікі.

Я не ўпэўнены, што менавіта тая царква на беразе ў Полацку, здымак з якой вы бачылі, апетая Блокам у вершы «Белая церковь». Але затое яна — Сафійскі сабор — упамінаецца яшчэ ў «Слове аб палку Ігаравым». Яе муры часткова захавалі сцены тысячагадовай даўнасці і такога ж веку фрэскі на іх.

Дазвольце яшчэ раз падзякаваць Вам за такі добры ліст.

Прашу пісаць, калі знойдуцца час і жаданне.

Шчыра жадаю ўсяго найлепшага.

Юры Стукаліч

*Дора Давідсон*
*69 Тыман Плэйс*
*Нью-Ёрк, 27*

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

Калісьці мы з Вамі абменьваліся лістамі з нагоды агульных успамінаў пра горад Віцебск. Я даўно Вам не пісала, бо нічога новага і цікавага для Вас расказаць не магла.

Цяпер я працую ў «Radio Liberty Committee», установе, Вам, безумоўна, знаёмай, і маю доступ да бібліятэкі пры Камітэце, у якой сабрана шмат літаратуры пра сучаснае жыццё ў Савецкім Саюзе. Нядаўна мне трапіўся ў рукі артыкул пра Віцебск у адным з савецкіх часопісаў. Я яго перапісала. Мне здаецца, што гэты артыкул можа Вас зацікавіць, бо ў ім — пра жыццё ў Віцебску перыяду ягонага інтэлектуальнага росквіту. Між іншым, пра той час, калі Марк Шагал арганізаваў там акадэмію, мне здарылася чытаць у амерыканскіх мастацкіх часапісах. Наагул роля Віцебску як мастацкага цэнтру, культурна-асветніцкая праца, што праводзілі нашыя мастакі ў Віцебску, мела немалое значэнне для культурнага і мастацкага жыцця наогул.

Тут, у Нью-Ёрку, мне надарылася сустрэць аднаго з вучняў Ю. М. Пэна. Хаця я сама і не паспела стаць вучаніцай Пэна, імя ягонае мне памятнае і па ўласных успамінах, якія,

дарэчы сказаць, уваскрасілі Вы сваім артыкулам пра трагічнае жыццё гэтага, як я потым даведалася, вялікага працаўніка мастацтва.

У «Art Student League», гэта значыць, у тутэйшай нью-ёркскай акадэміі, працуе выкладчыкам мастак Брэйнін (Breinin, Raymond)[169], які ў сваёй біяграфіі адзначае, што ён вучыўся ў Юрыя Пэна ў Віцебску. Я з ім пазнаёмілася і расказала яму, што шмат чаго зведала пра жыццё і смерць Пэна з Вашага артыкула. Ён сам — ураджэнец Віцебску, выехаў адтуль адзінаццацігадовым хлопчыкам у Амерыку, але вельмі цікавіцца і мала чаго ведае пра жыццё Пэна пасля свайго адʼезду.

Я і з гэтай прычыны таксама хацела Вам пісаць, бо спадар Брэйнін піша пра Віцебск, а галоўным чынам яго будзе цікавіць Ваш артыкул, што калісьці зʼявіўся ў «Новом русском слове».

Вось бачыце, я думаю, Вам прыемна будзе пачуць, што зярняты, пасеяныя ў Вашым любімым горадзе, далі ўсходы на амерыканскай зямлі.

Трэба сказаць, што і Шагал упісаў слаўную старонку ў гісторыю нашага гораду, і многія іншыя, а ў гэтым артыкуле, што я Вам пасылаю, яго рэзка крытыкуюць і смяюцца з ягонага наватарства і самабытнасці.

Я Вам паведамляю мой новы адрас: *Dora Davidson. 69 Teman Place, apt 59. New York, 27, 100027*, а таксама адрас установы, дзе я працую. Калі будзеце пасылаць якія-небудзь матэрыялы, то прашу Вас пасылаць на адрас офісу, які падаю ніжэй: *Radio Liberty Committee. 30 East 42 Street. New York, Room 49.*

З глыбокай пашанаю і найлепшымі пажаданнямі, з надзеяй, што пасланы артыкул Вам прыдасца да Вашай працы, а калі не, дык проста прынясе асалоду.

З прывітаннем

Дора Давідсон

---

[169] Рэйманд Брэйнін (1910–2000), мастак, дызайнер. Правадзейны сябра амерыканскай Акадэміі дызайну. Да рэвалюцыі вучыўся ў майстэрні Ю. Пэна. Пазней — у С. Юдовіна ў Вышэйшым народным мастацкім вучылішчы ў Віцебску. З 1922 г. жыў у Амерыцы, дзе і атрымаў прызнанне. Яго творы знаходзяцца ў фондах многіх вядучых музеяў ЗША і Еўропы. (Падрабязней гл.: Крочик Г. Романтик, оставшийся верным себе // URL: www.vestnik.com/issues/2000/0829/win/krochik.htm.)

*29 сакавіка 1965 году*
*Нью-Ёрк*

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

Карыстаюся вольнай хвілінкай, каб падзякаваць Вам за адказ на мой ліст. Я вельмі радая, што прысланы мной артыкул Вам спадабаўся. Пасылаю Вам дадатковыя звесткі: імя аўтара і іншае.

Ці чытаеце Вы па-ангельску? У мяне захаваўся артыкул з ангельскага часопісу таксама пра гэты перыяд жыцця Віцебску. Пры выпадку перашлю яго Вам.

Я дала Ваш адрас спадару Брэйніну. Рэйманд Брэйнін выехаў з Віцебску адзінаццацігадовым хлопчыкам і з таго часу вестак адтуль не мае, чуў толькі ад Шагала пра тое, што мастак Пэн быў забіты. Верагодна, ён Вам напіша, бо яго вельмі цікавіць лёс Пэна.

Прозвішча Марковіч мне вядома па дзіцячых успамінах. Відаць, Віцебск валодае нейкім шармам, нездарма ўсе з такім захапленнем успамінаюць яго, нават амерыканскі кампазітар Арон Копланд[170] назваў свой музычны твор «Віцебск». Я мяркую напісаць да яго і запытацца, чаму? Верагодна, таксама зямляк!

З прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі

Дора Давідсон

*16 красавіка 1965 году*
*Саўт-Рывер*

Вельміпаважаная Спадарыня Давідсон!

Дзякую за Ваш ліст і за прозвішча аўтара прысланага раней Вамі артыкула пра Юрыя Майсеевіча Пэна. Карыстаюся выпадкам яшчэ раз падзякаваць за яго.

Магчыма, Вы чыталі ў «НРСлове» мой артыкул «Віцебская берасцяная грамата». А ён жа старажытны, наш горад, як зазначыў у «Жизни Арсеньева» Іван Бунін, і разам з тым заўсёды… юны, жыццярадасны. Цяпер там вясна — такая непадобная на тутэйшую. На Дзвіне крыгаход, праз нейкі час пойдуць па ёй параплавы і пацягнуцца плыты. Так хацелася б сустрэць вясну на Мядзведжай гары — ёсць такая маляўнічая мясцовасць на беразе Дзвіны пад Віцебскам. Недалёка ад яе і

---

[170] Арон Копланд (1900–1990), кампазітар, піяніст, дырыжор і педагог.

Здраўнева, дзе жыў калісьцці Ілля Яфімавіч Рэпін. Абстрагуючыся ад свайго веку, хочацца нагадаць:

*Иль у молодца крылья связаны,*
*Иль пути ему все заказаны…*[171]

Вы ўпамянулі пра «Віцебск» амерыканскага кампазітара Арона Копланда. Мне давялося чуць гэты музычны твор па тэлебачанні. На жаль, я слаба разбіраюся ў мадэрнай музыцы, магчыма, таму яна нічым не напомніла мне Віцебск.

А да Віцебску яшчэ мае адносіны мой добры знаёмы Рыгор Якаўлевіч Арансон[172], артыкулы якога час ад часу друкуюцца ў «НРСлове». Не ведаю толькі, ці ўраджэнец ён Віцебску, але жыў ён там яшчэ ў першыя гады савецкай улады.

Прашу пісаць, калі будзе час і ахвота.

З самымі найлепшымі пажаданнямі

Юры Стукаліч

*5 жніўня 1958 году*
*Бэверлі Гілс*

Высокапаважаны Спадар Стукаліч!

З вялікім задавальненнем прачытаў Ваш артыкул у «НРС» ад 29 чэрвеня «Памяці Юрыя Пэна». Я сам нарадзіўся ў Віцебску і выехаў з гэтага гораду ў 1912 годзе, а потым наведаў Віцебск у 1918 годзе і быў там некалькі дзён.

З усёй нашай вялікай сям'і толькі адзін мой брат заставаўся там жыць і быў па-зверску забіты ў час акупацыі немцамі, пра што я даведаўся з кніжкі пра злачынствы немцаў.

Мяркую па Вашым артыкуле, што Вы — віцяблянін, і калі гэта так, то цікава пачуць, калі Вы апошнім часам былі ў Віцебску?

У сваім артыкуле Вы ўпамінаеце кніжку «Ветер скорости», і я прашу Вас паведаміць мне, ці будзе яна цікавая для мяне як віцябляніна — прысвечана гэтая кніжка цалкам Віцебску ці толькі мімаходзь закранае яго?

---

171 Недакладная цытата з верша А. В. Кальцова (1809–1842) «Дума сокола» (1840): *«Иль у сокола / Крылья связаны, / Иль пути ему / Все заказаны?»*

172 Рыгор Арансон (1887–1968), публіцыст, грамадскі дзеяч, актыўны сябра партыі «Бунд» і руху меншавізму. З 1922 г. — на эміграцыі. З 1940 г. — у ЗША.

Калі Вам не надта складана, прашу таксама паведаміць, дзе я магу знайсці і купіць гэтую кніжку.

Прабачце за клопаты.

З глыбокаю пашанаю
Самуіл Саламонавіч Марковіч

*21 верасня 1958 году*
*Саўт-Рывер*

Высокашаноўны Самуіл Саламонавіч!

Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст — для літаратара ён з’яўляецца вялікай падтрымкай. Мне прыемна, што Вам прынёс задавальненне мой нарыс «Памяці Юрыя Пэна». Сам я закаханы ў Віцебск, а з Юрыем Майсеевічам Пэнам, нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах (ён нарадзіўся ў 1870-х, а я — у 1905-м), сябраваў.

Вы не памыляецеся, мяркуючы, што я — віцяблянін. Праўда, нарадзіўся я ў Вяліжы Віцебскай губерні, але перад вайной, пасля бадзяння па СССР, некалькі гадоў жыў у Віцебску. На пачатку вайны дайшоў разам з жонкаю (яна віцяблянка) пехатою да Вяліжу. Між іншым, сталінскі загад пра «голую зямлю» знішчыў і маю віцебскую асабістую бібліятэку, у якой было каля 10 тысяч кніг. Праз некаторы час Вяліж стаўся фронтам, і ў канцы красавіка 1942 г. я вярнуўся ў Віцебск, а пакінуў яго, гэта Вас цікавіць, увосень 1943-га. Дарэчы сказаць, гэты адыход і вяртанне знайшлі сваё адлюстраванне ў маім нарысе «Народ смяяўся» («НРС» ад 5 верасня 1952), дзе прыгадваецца трагічны лёс тых віцебскіх габраяў, якія «схаваліся» ў Вяліжы.

Калі толькі мне не здраджвае памяць, з Вашым братамлекарам я неаднойчы сустракаўся перад вайной. Здаецца, ён неўрапатолаг. І калі апошняе адпавядае сапраўднасці, я ахвотна напішу Вам пра гэтыя сустрэчы, ад якіх захаваліся ў мяне найлепшыя ўспаміны.

Вас цікавіць кніга К. Паўстоўскага «Ветер скорости» ў сувязі з Віцебскам, які ўпамінаецца ў ёй. Гэтая кніжка прысвечана паездцы аўтара на аўтамабілі (адсюль і назва) па заходняй частцы СССР. Пра Віцебск у ёй толькі тое, што я зацытаваў у сваім нарысе.

А між іншым, калі, на жаль, віцяблян з новай эміграцыі можна пералічыць па пальцах (ні адзін горад на Беларусі не пацярпеў

ад фашыстаў і ад бальшавікоў так, як Віцебск), то літаратура пра яго маецца. Калі будзе ў Вас жаданне, магу прыслаць паказчык гэтай літаратуры, якая або ёсць у бібліятэках ЗША, або яе можна набыць у кнігарнях.

Яшчэ раз дазвольце выказаць сваю шчырую ўдзячнасць за Ваш добры ліст.

Шчыра жадаю Вам усяго найлепшага.

Заўсёды гатовы да паслуг

Юры Стукаліч

*25 лютага 1960 году*

Высокашаноўны Спадар Стукаліч!

Вялікі дзякуй за Ваш мілы ліст і адрас для заказу кнігі пра Віцебск.

Я, безумоўна, выпішу гэтую кнігу дзеля цікавасці. Але мне вельмі хацелася б знайсці дзе-небудзь старыя краявіды, паштоўкі, афішы, ілюстраваныя часопісы або газеты мінулага часу (да першай вайны або рэвалюцыі).

Я з жонкай вярнуўся прыблізна тры тыдні таму назад з пяцімесячнай паездкі. Мы былі 7 дзён у Ленінградзе, 3 тыдні ў Маскве і 4 месяцы ў Парыжы.

На жаль, канец верасня і пачатак кастрычніка для Масквы і Ленінграду — не вельмі ўдалая пара ў кліматычных адносінах, і мы абое былі ўвесь час прастуджаныя, тым больш што пасля нашай каліфарнійскай цеплыні — розніца каласальная.

Наша прастуда вельмі перашкаджала, і мы не ўбачылі шмат з таго, што хацелі б, акрамя сваякоў, тэатраў і музеяў. (А наогул мы маглі свабодна сустракацца і перамяшчацца.)

Будаўніцтва ў Маскве асабліва вялікае і ў Ленінградзе каласальнае, але патрэба ў кватэрах не меншае. Нягледзячы на тое, што мы бачылі шматмільныя, цалкам новыя забудаваныя раёны, людзі жывуць яшчэ па 3 чалавекі ў адным пакоі і камунальных кватэр яшчэ не пазбавіліся.

Пачулі шмат займальных анекдотаў, але іх цікавей пераказваць пры асабістай сустрэчы.

На жаль, мы ў Нью-Ёрк не трапілі, магчыма, праз 2–3 месяцы збяромся, тады можна будзе і сустрэцца.

У Парыжы я бачыўся з нашым земляком Маркам Шагалам (дарэчы, ягоная сястра, што жыве ў Ленінградзе, сябруе з сям’ёй майго брата, і я яе там бачыў), і ён вельмі цёпла прыняў

нас у сябе, мы ўспаміналі многае з нашага дзяцінства, агульных знаёмых, сяброў і наогул усё пра наш родны горад.

Я, прызнаюся, быў вельмі крануты ягонай цеплынёй, ласкай і ўвагай, нягледзячы на тое, што ён цяпер заняў вельмі высокае становішча ў свеце мастацтва не толькі Францыі, але і сусветнага.

Ягоная сціпласць, просты і сяброўскі падыход мяне проста зачаравалі (ягоная жонка таксама вельмі мілая і таксама спрыяла гэтай сімпатычнай атмасферы).

Шкада, што Вы так далёка жывяце, а то абавязкова мы і з Вамі шмат чаго ўспомнілі б.

Будзем спадзявацца, падчас нашай наступнай паездкі ў Нью-Ёрк мы зможам папярэдне спісацца і сустрэцца.

А пакуль што з найлепшымі пажаданнямі застаюся

Самуіл Марковіч

*12 сакавіка 1960 году*
*Саўт-Рывер*

Высокапаважаны Самуіл Саламонавіч!

Прабачце, што са спазненнем адказваю на Ваш ветлівы ліст ад 25.2.60 г. — трохі занядужаў.

Вас цікавіць, дзе можна знайсці краявіды, паштоўкі, афішы і наогул усё друкаванае, што належыць да старога Віцебску. Мая віцебская асабістая бібліятэка (каля 10 тысяч кніг) згарэла падчас вайны, але мне ўсё ж пашчасціла сёе-тое дацягнуць да Саўт-Рыверу. Акрамя дзвюх-трох кніжак пра стары Віцебск, маю тут альбом з краявідамі Віцебску, Полацку, Заходняй Дзвіны і г. д. (каля 100 здымкаў), матэрыялы Віцебскай навуковай экспедыцыі 1939 г. па ўліку помнікаў гісторыі і мастацтва (53 здымкі), вялікі план Віцебску (1904), некалькі карцін, а між іх Юдовіна «Чорная Тройца» і Пэна — партрэт дзяўчыны, звар'яцелай пасля пагрому — дарункі мастакоў.

Чатыры гады таму назад віцяблянін са старой эміграцыі, які жыве ў Нью-Ёрку, зрабіў копіі з большасці гэтых здымкаў, а таксама з карцін Юдовіна, Пэна, з плану Віцебску і г. д. Я не маю цяпер з ім сувязі, але спадзяюся, што ён жывы і здаровы і негатывы ў яго захаваліся. Вось ягоны адрас амаль чатырохгадовай даўнасці: *Mr. Stanisław Cyrski. 122 South 1st Street, Brooklyn, 11, N. Y.*

На жаль, не ведаю, ці выйшла з друку кніжка на габрайскай мове пра Віцебскую габрайскую суполку. Гэтую кніжку меліся

